БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»



# З гледзішча нацыянальных інтарэсаў

*Старонку мінулага нумару «НН» мы прысьвяцілі 12-м угодкам Чарнобыльскай аварыі. Гутарка ішла пра тое, што за гэтыя 12 гадоў на тэму Чарнобыля створана вялікае мноства літаратуры, кіно, жывапісу, але з усяго гэтага так і не паўстаў культурны кантэкст. Чарнобыль не асеў у стэрэатыпах і сьвядомасьці беларусаў нейкай адназначнай і ўсім зразумелай канстантай. Каб так адбылося, патрэбны час.*

*Дарэчы, і развал Саюзу і незалежнасьць уласнай краіны таксама яшчэ не набылі для беларусаў свайго кантэксту. І тут таксама патрэбны час, які вядзе адлік чарнобыльскіх наступстваў і дасьпяваньня нацыі адначасова. Гэта дзікавата гучыць, але праз дзесяць ці пяцьдзясят гадоў мы можам атрымаць такое становішча, калі разам з пашырэньнем жывой беларускай мовы пачнуцца генныя мутацыі ў арганізмах яе носьбітаў. Прынамсі сёньня няма таго суб'екту, які б пераламіў гэтае аб'ектыўнае разьвіцьцё падзеяў, гэты лёс нацыі. І адзіны спадзеў — на тое, што генных мутацыяў усё ж ня будзе. А адзіная небясьпека — у тым, што нейкія абставіны спыняць гэты наш час — час незалежнасьці. Тады як час мутацыяў, калі ўжо яны нам наканаваныя, ня спыніць нішто. Словам, патрэбны час. На тое, каб праўда была ня толькі прамоўленая, але й пачутая.*

*Гэтую думку яшчэ раз пацьвярджае разуменьне мінулай вайны, якое ў нацыянальным маштабе зрушыла зь мёртвай кропкі толькі сёньня, праз пяцьдзясят гадоў. Бо толькі сёньня, ва ўмовах сувэрэннае краіны, стала магчымым разглядаць тую вайну з гледзішча нацыянальных інтарэсаў Беларусі і яе людзей, а ня з гледзішча памерлае савецкае імпэрыі або марксісцка-ленінскае ідэалёгіі.*

Працяг на старонцы 8

НАША НІВА

№ 9 (106) 11 траўня 1998 г.



**Славамір Адамовіч**

# СПАРОН

*Зь пісьма (Яна — Яму)*
*31-V-54 г.*

*Дзень добры, Генюсь!*

*... Яшчэ апішу табе, як гуляе наша моладзь. Танцы былі 30 мая, іграў Яцына Фэлікс у яго на кватэры. На танцах быў Чэсь Дубовік і гуляў зь Ядзюняй, а Адольф з Галяй. Дануся і Вера таксама гулялі са сваімі хлапцамі. Я адбыла толькі чатыры танцы й сышла. Не магу слухаць музыку, здаецца, як пахавала каго... Генюсь, я ж ведаю, што як вернесься дамоў, дык і гаварыць са мною ня станеш, а будзеш жыць са сваёй любімай Лёнечкай. Генюсь, калі ты толькі кінеш мяне, дык і сам ня будзеш красавацца са сваімі прыгожымі вачыма. Генюсь, ці ж у цябе такое сэрца, што ты мяне не пашкадуеш з такімі цяжкасьцямі. Любы мой, я табе апішу, што ў мяне не было месячнага, дык я рашыла зрабіць тое, што зрабіла Маня, бо іначай мне нельга. Я падумала, што калі мне гэтага не зрабіць, а застацца такой, то тады мне будзе вельмі дрэнна, як Яні Казак. Генюсь, я гэта раблю пакуль што сама, а потым пайду на Станцыю да той самай жанчыны, да якой хадзіла Маня. Мілы мой, ты сам падумай, я паверыла табе і ад цябе трэба пераежываць такое. Але нічога, можа ў цябе сэрца скрушыцца, і ты мяне ня кінеш. Генюсь, я тваю просьбу выканала, высылаю восем цыгарэт і чатыры лёзы, а таксама паперы на пісьмы... Яшчэ паведамляю, што ў клюбе стаў працаваць зь Яжукова Друшч Грыша, які вярнуўся з арміі. Было ў нас кіно, вельмі добры фільм «Багдан Хмяльніцкі». Я як прыйшла, дык адразу села і не выходзіла. Цалую цябе, любы мой!..*

Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР ад 23 лістапада 1955 году адмяніў забарону на аборты і прызнаў правамерным спыненьне цяжарнасьці ва ўмовах бальніцы ці іншых лячэбных установаў. Праз дзесяць гадоў пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны савецкая жанчына атрымала права вырашаць лёс свайго ненароджанага дзіцяці. З таго часу на тэрыторыі Беларусі аборт застаецца ЛЕГАЛІЗАВАНЫМ. Аднак пры незаконным спыненьні цяжарнасьці ўступае ў дзеяньне артыкул 114 Крымінальнага кодэксу РБ («Незаконнае ажыцьцяўленьне аборту»). Суб'ектамі такога злачынства зьяўляюцца ўрач, які зрабіў аборт па-за межамі бальніцы ці лячэбнай установы, а таксама асобы, якія ня маюць вышэйшай адукацыі. Абцяжарваючымі акалічнасьцямі зьяўляюцца неаднаразовае правядзеньне абортаў, сьмерць пацярпелай альбо іншыя цяжкія вынікі. Караецца: штрафам, папраўчымі работамі, пазбаўленьнем права займацца ўрачэбнай практыкай на пэўны тэрмін, пры абцяжваючых акалічнасьцях — пазбаўленьнем волі на тэрмін да 8 гадоў.

Слова «аборт» паходзіць ад лацінскага «abortus» і азначае ні што іншае, як «выкідыш». Адрозьніваюць самаадвольны й штучны аборт. Самаадвольны ў народзе звычайна называюць выкідышам. Штучны падзяляюць на мэдыцынскі (законны) і немэдыцынскі (незаконны, крымінальны). Гвалтоўнае выдаленьне плоду з арганізму ў нас яшчэ называюць спаронам. Таму выраз «пароць лухту» азначае ня толькі «гаварыць пустое, бязглузьдзіцу», але і «нараджаць, выдаляць зь сябе неактуальныя для дадзенай сытуацыі словы». Кажучы «ён запароў справу», мы маем на ўвазе, што адзін з нас ня справіўся з заданьнем і «сапсаваў гульню», выйшаўшы зь яе праз абартаж. Калі справу «запаролі», яна ўжо практычна не падлягае працягу альбо аднаўленьню. Спарон — гэта плод, які яшчэ ня здольны да жыцьця па-за матчыным целам. Адзінае выйсьце — пачаць спачатку, з чыстага ліста. Але каб бесьперашкодна вынасіць сваю «справу», «каб маглі мы плод здаровы, чысты, крэпкі, без каросты данасіць да свайго часу», трэба разьвіваць энэргетыку жаданьня, якое пачынаецца з узьнікненьня ідэі зачацьця. Паўнавартасны полавы акт завяршаецца

Працяг на старонцы 4.

# Паважаная рэдакцыя!

У мяне ёсьць праланова, як пашырыць прапаганду беларускай мовы. Усім вядома, што на Беларусі відэарынак амаль на 100% расейскамоўны. Калі зьявіцца беларускамоўная відэапрадукцыя замежных фільмаў: галівудзкіх, эўрапейкіх, азіяцкіх. Хіба не цікава дзецям глядзець «Тома і Джэры» ці «Караля Льва», а дарослым — «Харобрае сэрца» ці «Драпежнік»? Дапамагчы могуць у набыцьці ліцэнзіі на пракат Рада БНР ў ЗША і Эўропе, замежная беларуская дыяспара. Праблем зь перакладам не павінна быць. Відэакасэты ў добрай і прыгожай вокладцы можна набыць праз «Фільмы — поштай» у вашай газэце ці ў шапіках. Эфэкт ад прапаганды беларускай мовы будзе вялікім: ледзь ня трэцяя сям'я ў Беларусі мае відэамагнітафон. Бярыце прыклад з «Обыкновенного президента».

**Бандарэнка Андрэй, Гомель**

# Нашы падручнікі

Хоць і вымусілі нас заплаціць за карыстаньне падручнікамі, асноўны іх парк склалі выданьні, якія прайшлі, бадай, не праз адныя рукі. Трэцюю частку кніг, якія павінны былі стаць дапамогай вучню, можна акрэсьліць як выкарыстаныя і даўно адпрацаваўшыя свой належны тэрмін. Многія падручнікі страцілі ня толькі свой зьнешні выгляд, напрыклад, вокладку, але і часткі ўнутранага — не хапае старонак. Шмат якія з падручнікаў маюць мяккі пераплёт, але і гэта яшчэ паўбяды, галоўнае тое, што аркушы ў гэткіх кнігах трымаюцца «на чэсным слове» — кніга «Геамэтрыя. Клясы 5-11», якой мы карыстаемся амаль кожны дзень ужо сёмы год, нават пры самым ашчадным карыстаньні не змагла захаваць усе бачыны. Не магу нічога добрага сказаць пра «Фізыку» — кніга прыйшла ў нягоднасьць дзесьці напрыканцы 80-х.

Больш прыстойныя тэксты мае падручнік па «Чалавеку і грамадзтву», там нават падаюцца палажэньні аўтарытарызму й таталітарызму, але ж на тытуле падручніка горды надпіс: «Рекомендовано Главным управлением содержания общего среднего образования Министерства образования Российской Федерации», надпіс падобнага зьместу ўтрымлівае й «Астраномія», і «Француская мова», некаторыя кнігі таксама.

Ад рэформы падручнікаў па «Роднай літаратуры» наш выпуск адстае заўсёды на адзін год. Гэта значыць, што кожны новы год мы атрымліваем старыя кнігі, а нашыя наступнікі ўжо новыя. Дарэчы, пра «Родную літаратуру» можна казаць як пра найбольш удалае выданьне (новы варыянт). Зразумець не магу аднаго: чаму «Тутэйшых» зьмясьцілі ў падручніку для сёмай клясы, тады як больш лёгкую для разуменьня «Пінскую шляхту» адправілі ў дзясятую.

Хачу ўсё ж спыніцца на тым падручніку, уласна дзеля якога і пісаўся гэты «артыкул», сама назва ў яго папахвае крамолаю, вы здагадаліся, канешне, гэта «Гісторыя Беларусі». Пасьля чытаньня гэткага падручніка толькі дзівіцца можна, бо ў назву вынесеная ці ня самая слушная з думак, якія тут ёсьць. Назва сьведчыць, што гісторыя ў нашай Радзімы ёсьць, хаця сам падручнік зьяўляецца першай, на мой погляд, спробай гэта адмаўляць.

Але пра ўсё па чарзе. Абмалюю спачатку зьнешні выгляд, зь якога штосьці ўжо пачынае вынікаць. Калі вы бачылі падручнікі 1992-94 гадоў выданьня, то добра ўяўляеце іх — вокладка белая, пасярэдзіне чырвоная стужка. Гэта неяк можна суаднесьці з нацыянальным сьцягам. Разгляданы зараз падручнік складаецца зь дзьвюх частак. Першая выйшла ў сьвет у 96-м годзе, наступная — на год пазьней, яе мы атрымалі ў якасьці «сьвяточнага падарунка» пад Новы год. Першая частка кнігі «Гісторыя Беларусі для 11 клясы» мае недарэчны зялёны колер і валодае ўсімі вышэйпазначанымі тэхнічнымі хібамі — пачала «распаўзацца» на вачах пасьля першых тыдняў карыстаньня. Гэта ня самае дрэннае, зьвернем увагу на зьмест. Пакідаючы без увагі розныя дробязі, памылкі, абразы на адрас нацыянальнага руху, зьвернемся да старонкі 82, дзе гаворка ідзе пра нацыянальнае паўстаньне 1863-64 гг. на Беларусі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Спачатку дасьведчаныя аўтары пачынаюць сьцьвярджаць, што «Мужыцкая праўда» ня мела амаль ніякага ўплыву на грамадзтва, пасьля тое, што ўсе (цытую) «паўстанцкія атрады на Літве і Беларусі складаліся поўнасьцю з асобаў каталіцкага і ўніяцкага веравызнаньня». Колькі абзацаў мінаю — гаворка ў іх ідзе збольшага аб прымяншэньні вынікаў барацьбы. Далей ідзе самае цікавае. Вось што кажуць у гэтым падручніку аб віленскім генэрал-губэрнатары М.М.Мураўёве-вешальніку. Яго не ўхваляла савецкая гістарыяграфія, а тут сказана пра яго на старонцы 83 наступнае: «Гэта (Мураўёў) быў энэргічны дзяржаўны дзеяч, які зь веданьнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы. Значную ўвагу ён зьвярнуў на цывільнае кіраваньне, маючы на мэце знайсьці ў краі тыя элемэнты, на якія царскія ўлады маглі б абаперціся. Перш за ўсё гэта было беларускае сялянства (?!)... М.М.Мураўёў быў першым зь дзяржаўных дзеячоў Расеі, хто ўзьняў пытаньне аб пастаноўцы шырокай народнай адукацыі ў краі, прычым на «местном наречии», пад якім ён, безумоўна, разумеў беларускую мову».

Такім чынам, можна пабачыць, як пра ката ствараецца яшчэ адзін міт, як пра яшчэ аднаго добрага дзядульку.

У абвяржэньне міту дам некалькі вытрымак з дакладных запісак М.М.Мураўёва цару: «Пацьвердзіць (трэба) канчаткова паўсюднае ўвядзеньне расейскай мовы... ва ўсіх афіцыйных і службовых зносінах, а таксама і ў знадворных апісаньнях ўсялякага роду, асабліва ў месцах, што наведваюцца народам...

Неадкладна ўсе вышэйшыя службовыя пасады па ўсіх ведамствах, а таксама ўсе месцы, якія маюць дачыненьне да народу, замясьціць расейскімі чыноўнікамі, іншыя ж пасады замяшчаць расейскімі паступова...

Засяляць край расейцамі, наколькі магчыма сканцэнтравана...

Садзейнічаць распаўсюджваньню праваслаўна-хрысьціянскага вучэньня і ўзбуджэньню ў народзе ўсьведамленьня, што ён — расейскі...

Патрэбна ўсім растлумачыць, што край Паўночна-Заходні заўсёды быў і ёсьць расейскі...»

За сябе сам адказаў М.М.Мураўёў. Пра тое, што ён яшчэ і вешальнік, у кнізе сказаць забыліся, а мо і не захацелі. Ды яшчэ на старонцы 85, у ліку адмоўных вынікаў паўстаньня (былі, відаць, і гэткія) уключаецца, ці, лепей — ставіцца змагарам за свабоду ў віну тое, што «да канца 60-х гадоў у краі захоўвалася ваеннае становішча».

Цяпер, каб ня траціць часу, зьвернемся да другой часткі падручніка гісторыі.

Яго вокладка выглядае яшчэ больш дзіўна — белага колеру, а пасярэдзіне стужка... не магу нават вызначыць, якога колеру, нешта, мабыць, падобнае да паносна-зялёнага.

Гэты ліст я меў намер напісаць яшчэ даўно, але не хапала часу. Ідэалягічныя недарэчнасьці я спрабаваў пакінуць на сумленьне аўтараў. Калі ж мне трапілася ў рукі другая частка, я канчаткова вырашыў, што напішу. Калі ў папярэдняй частцы былі памылкі з чыста палітычных нагодаў, то ў другой кніжцы мною былі заўважаныя недарэчнасьці, якія было немагчыма зрабіць, кіруючыся толькі гэтымі прычынамі.

Зноў пачну спачатку. На тытуле заўважаю надпіс: «Пад рэдакцыяй прафэсара М.С.Сташкевіча». Ня ведаю, ці яго прысутнасьць папсавала першапачатковы зьмест кніжкі, зь яе добрай традыцыяй зьмяшчаць дакумэнтальныя матэрыялы па пройдзеным параграфе, але як пачалі выглядаць самі параграфы! Адразу абгаваруся — мною прагледжаная ня ўся кніга і заўважаныя далёка ня ўсе памылкі. Пачынаю з уступу, на старонцы 4 робіцца абгаворка, што «сярод некаторых зь іх (вучоных) існуе думка, што з 25 сакавіка 1918 году — дня абвяшчэньня ў Трэцяй Устаўной грамаце незалежнасьці БНР — трэба адлічваць самастойнасьць Беларусі, але гэта толькі адзін з нацыянальна-радыкальных поглядаў. Гістарычны сюжэт з разгонам Усебеларускага зьезду... можна разглядаць як памылковы». Я ня ведаю, як гэта можна разглядаць гістарычны сюжэт як памылковы. Бракуе сэнсу. Далей ідзе спроба характарыстыкі Слуцкага збройнага чыну як «узброенага мяцежу, які набыў характар палітычнага бандытызму». Дыскрэдытуецца ўвесь нацыянальна-вызваленчы рух 20-х.

Ёсьць і спрэчнае меркаваньне наконт таго, што Слуцкае паўстаньне падтрымаў сваімі ўзброенымі сіламі С.Булак-Балаховіч, тут гэтая думка падаецца хутчэй як аксыёма, чым як меркаваньне. Ды наогул, гэтыя выразы акрэсьліваюць усё, чым была барацьба на Беларусі за тагачасную ўладу. Больш нічога няма. Нарэшце мы падыходзім да параграфа 2.

«Усталяваньне беларускай савецкай дзяржаўнасьці». Учытайцеся ў прапанаваныя радкі, і тады зразумееце ўсю іх бязглуздасьць: «Лістападаўская рэвалюцыя 1918 году ў Нямеччыне прывяла да выхаду Нямеччыны з вайны... Выкарыстоўваючы становішча, якое склалася ў выніку посьпеху Лістападаўскай рэвалюцыі ў Нямеччыне, і паражэньня аўстра-нямецкага блёку ў сусьветнай вайне, бальшавікі анулявалі Берасьцейскі мір. Чырвоная армія рушыла на захад. У лютым 1918 г. амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі зноў усталявалася ўлада Саветаў (сказ надрукаваны курсівам).» Адчулі? Калі не, то я растлумачу. Берасьцейскі мір быў заключаны 3 сакавіка 1918 г., а з тэксту падручніка вынікае, што ён быў ануляваны бальшавікамі да таго, як ён быў заключаны, бо тут гаворыцца, што ў лютым 1918 г. бальшавікі занялі Беларусь. Галоўнае, на дзіва, тое, што ў лютым бальшавікі выкарысталі лістападаўскае становішча. З гэтага вынікае ці тое, што аўтар некампэтэнтны, ці ён зьехаў з глузду, ці наогул, мае слабое ўяўленьне аб парадку месяцаў, ці нарэшце тое, што ён не сябруе зь беларускай мовай. Далей — болей: згодна з тэкстам падручніка «ў ліпені 1918 г. польскія войскі распачалі шырокае наступленьне на Ўкраіну і Беларусь». Тым самым усе падзеі прыпадаюць на «няшчасны» 1918 г. Пасьля чытаньня складваецца наступная карціна: «лютаўскія» бальшавікі, выкарыстоўваючы «лістападаўскі» настрой немцаў, заатакоўваюць іх і разьбіваюць, ануляваўшы Берасьцейскі мір, а пасьля выгнаньня ворагу заключыўшы яго. Тым часам ня дрэмлюць палякі і, не чакаючы ніякіх лістападаўскіх рэвалюцыяў, робяць напад на Беларусь з захаду ўлетку. Немцы, відавочна, у гэты час чакаюць усё ж такі лістапада, каб адысьці, а да гэтага, мабыць, змагаюцца на два франты. У той жа час немцы аддаюць цывільную ўладу ў Беларусі Радзе БНР. І калі ў лютым усталёўваецца ўлада бальшавікоў на ЎСЁЙ тэрыторыі Беларусі, то ўжо ў чэрвені 1918 г. «Народны сакратарыят БНР аб'явіў нядзейснымі ў рэспубліцы дэкрэты і пастановы ўраду РСФСР» ды «актыўна займаўся культурна-асьветніцкай дзейнасьцю». Далей па тэксту наступленьне палякаў цягнулася мо з год ды пачалося «ў ліпені 1918», а абарона Менску працягвалася да 8 жніўня 1919 г. Пры гэтым Менск, відавочна, абаранялі немцы, бо палякі заатакавалі іх улетку 1918, калі рэвалюцыі ў іх яшчэ не было, а заняўшыя яшчэ раней «у лютым 1918» тэрыторыю рэспублікі Саветы, невядома дзе падзеліся. Можна было б і надалей працягваць блытаніну, але хопіць, бо адчуваю, што і сам заблытваюся.

Далей вытрымкі, якіх можна было чакаць (ст.134-139): «Калі лідэры БНФ перайшлі да адкрытай антыкамуністычнай скіраванасьці», то «сваёй дзейнасьцю і жорсткай канфрантацыяй з уладамі, асабліва па праблеме нацыянальнага пытаньня, адштурхнулі ад удзелу ў руху шырокія масы. БНФ ператварыўся ў нацыянальна-радыкальнае палітычнае ўтварэньне» (добра, што пра палітычны бандытызм не напісалі). У дадатках партыі падзеленыя на тых, хто падтрымлівае палітыку ППРБ і тых, пра каго сказана ў мінулым часе: карысталіся падтрымкай, мелі вагу, стваралі ўплыў.

Не мінулі і БПСМ, зьяўленьне якога ацэньваецца як «значная падзея ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны».

Яшчэ адна бязглузьдзіца: «Неабходна адзначыць, што зьмены гэтыя (рэфэрэндум) адбыліся па волі большасьці народа, таму і павінны (?) прывесьці да паляпшэньня становішча ў краіне». Я, напрыклад, ня ведаю, на чым прыкладзе аўтару дазваляецца рабіць гэткія высновы. Штосьці наконт папулізму, казаў яшчэ і Леў Сапега.

**Рэут Уладзіслаў, Салігорск**

*Генэральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь*
*сп. А.Бажэлка*
*вул. Інтэрнацыянальная, 22 ГСП Менск 220050*

**ЗАЯВА**

Архіў Найноўшае Гісторыі, створаны пры Беларускім Гуманітарным Фондзе «Наша Ніва», займаецца зборам фактаў па гісторыі Беларусі ў XX ст. На працягу 1997-1998 гадоў мы пастаянна сутыкаліся са сьведчаньнямі фактаў тэрору супраць цывільнага насельніцтва на тэрыторыі Слонімскага раёну пад час Другой сусьветнай вайны. Жывыя яшчэ непасрэдныя сьведкі і ахвяры тае трагедыі.

Паводле заяваў сп. Васіля Струпаўца (1928 году нараджэньня, ураджэнца вёскі Якімавічы) у красавіку 1943 году ягоныя бацька, маці, два браты і сястра былі забітыя партызанамі атраду імя Панамарэнкі, якія ва ўмовах акупацыі пачуваліся беспакаранымі і не зьвязанымі ў сваіх дзеяньнях правам: Іван Зайцаў — камандзір атраду, Пётар Бухарэўскі (мянушка «Чубаты») — начальнік штабу, Іван Багуслаўскі (мянушка «Сібірак»), Азановіч, ды інш. Забойствы зьдзяйсьняліся асабліва жорсткімі мэтадамі і былі нематываваныя. Сам сп. Васіль Струпавец выжыў зусім выпадкова, але застаўся інвалідам.

10 сакавіка 1997 газэта «Наша Ніва» апублікавала матэрыял гісторыка са Слоніму Сяргея Ярша «Што яны выраблялі!..», у якім былі прыведзеныя ўспаміны сп. Васіля Супруна, а таксама спн. Яўгеніі Швайдзюк, пра зьнішчэньне іх сем'яў. Папярэдне Сяргей Ёрш правёў запіс гэтых успамінаў на аўдыёкасэту.

Першая публічная рэакцыя Пракуратуры Рэспублікі Беларусь была цалкам нечаканаю для рэдакцыі газэты — 23.05.1997 намесьнік Генэральнага пракурора Беларусі М.Сьнягір вынес Афіцыйнае папярэджаньне галоўнаму рэдактару «Нашай Нівы» Сяргею Дубаўцу. Газэта абвінавачвалася ў парушэньні пункту 7 часткі 1 артыкулу 35 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавае інфармацыі», якім забараняецца выкарыстаньне сродкаў масавае інфармацыі для пасяганьне на мараль, гонар і годнасьць грамадзянаў.

«Наша Ніва» і Архіў Найноўшае Гісторыі толькі пачалі дыскусію вакол праблемных пытаньняў — і адразу ж пасьледавала рэзкая рэакцыя ўладных структураў. Але Пракуратура не абвергла ніводны з прыведзеных у матэрыяле ад 10.03.1997 фактаў, затое прад'яўленыя газэце прэтэнзіі мелі агульны характар. Пракуратура сама пашырыла разуменьне тэксту публікацыі ў «Нашай Ніве», а потым гэтую інтэрпрэтацыю паставіла ў віну газэце, у той час як рэдакцыя, калі рыхтавала тэкст да публікацыі, ставіла перад сабою мэту публікацыі менавіта фактаў. У выніку, у Афіцыйным папярэджаньні Пракуратуры няма ні слова пра факты, затое гэтае папярэджаньне цалкам адпавядае патрабаваньням ідэалягічнага дакумэнту.

Галоўны рэдактар «Нашай Нівы» не пагадзіўся з вольнай інтэрпрэтацыяй Закону і 5 чэрвеня 1997 зьвярнуўся да Генэральнага пракурора Беларусі са скаргаю, у якой заявіў, што лічыць вынесенае папярэджаньне неабгрунтаваным і прасіў Пракуратуру расьсьледаваць апісаныя сьведкамі злачынства і зрабіць у гэтай справе афіцыйнае заключэньне.

Да такога кроку галоўнага рэдактара газэты падштурхоўвалі самі сьведкі трагедыі. Адразу, як толькі стала вядома пра вынясеньне папярэджаньня, сп. Васіль Струпавец зьвярнуўся да натарыюса і папрасіў заверыць ягоны подпіс пад сваімі ўспамінамі. Сп. Васіль Струпавец заявіў, што ўсе факты, прыведзеныя Сяргеям Яршом у артыкуле «Што яны выраблялі!..» адпавядаюць сапраўднасьці. Трэба адзначыць, што ўсе паваенныя гады сп. Васіль Струпавец спрабаваў адстаяць правы сваёй сям'і і неаднаразова зьвяртаўся ў органы ўлады з просьбаю правесьці расьсьледаваньне і пакараць злачынцаў. Паводле ягоных словаў, у першай палове 60-х гадоў гэтаю справаю займалася КГБ. Але імёны віноўнікаў трагедыі 1943 году ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну так і не былі названыя.

Як у 60-х Васіль Струпавец не дачакаўся справядлівага разгляду справы, так у 1997 галоўны рэдактар «Нашай Нівы» не дачакаўся адказу на сваю скаргу Генэральнаму пракурору. Між тым, як нам вядома, адразу пасьля публікацыі артыкулу «Што яны выраблялі!..» і вынясеньня папярэджаньня ў Слоніме «па справе Струпаўца» два дні працаваў старшы сьледчы Аддзелу сьледстваў УКГБ па Гарадзенскай вобласьці Барыс Рагімаў, які апытваў сьведкаў. У газэту «Наша Ніва» зьвяртаўся пракурор Павал Радыёнаў, якому былі прапанаваныя ўсе матэрыялы, што маюць дачыненьне да публікацыі артыкулу «Што яны выраблялі!..» Наша зьдзіўленьне выклікала тое, што фактычна вялося пра пошукі віны Сяргея Ярша і газэты, а не пра расьсьледаваньне фактаў ваеннага злачынства.

Але аўтар і газэта не апынуліся адзінокімі ў гэтай сытуацыі. Дастаткова хутка пасьледавала грамадзкая рэакцыя. 21 ліпеня 1997 новыя сьведкі паставілі свае подпісы пад лістом, у якім пацьвярджаліся апублікаваныя раней факты. А 1 жніўня 1997 «Газэта Слонімская» надрукавала вялікі матэрыял на гэтую ж тэму. Колькасьць фактаў усё павялічваецца, жыхары Слонімшчыны называюць усё новыя імёны ахвяраў і катаў.

Паводле сьведчаньняў жыхароў у вёсцы Якімавічы і бліжэйшых хутарах пад час нямецкай акупацыі ад тэрору з боку партызанаў загінулі наступныя:

- Астапчык Надзея, мела каля 36 гадоў – зьверскі закатаваная;
- Даніьльчык Праскоўя і яе 12-гадовы сын Сяргей жывымі кінутыя ў калодзеж;
- Жылінскі Аляксандар, меў каля 40 гадоў – забраны ў лес, расстраляны;
- браты Касабуцкія: Ян, Франак, Язэп з 15-гадовым сынам – забраныя ў лес і забітыя;
- Касабуцкія – гаспадар і гаспадыня, мелі каля 60 гадоў – расстраляныя і спаленыя ў хаце;
- сямья Струпаўцоў – 5 чалавек (расстраляныя ў лютым 1943): Мікалай – гаспадар, 28 гадоў, Вера – гаспадыня, 21-23 гады, маці Мікалая, дзьве дзяўчынкі (малодшая – Таіса) – 1,5 і 3 гады;
- сямья Струпаўцоў – 5 чалавек (расстраляныя ў красавіку 1943): Васіль – гаспадар, 50 гадоў, Соф'я – гаспадыня, 33 гады, дзеці – Мікола, 13 гадоў, Міхал, 11 гадоў, Рая, было 5 тыдняў;
- сям'я Струпаўцоў – 4 чалавекі (забітыя і спаленыя ў хаце на пачатку 1943);
- сям'я Турукоў – 4 чалавекі (расстраляныя летам 1943): Аляксандар – гаспадар, Вікторыя – гаспадыня, дзеці – Ірына, Генадзь;
- сям'я Утлікаў – 4 чалавекі: Марыя – гаспадыня, яе сястра, маці гаспадыні – Марціна, сын гаспадыні Антон, 16 гадоў.

Сьведкі сьцьвярджаюць, што некаторыя забойцы яшчэ жывыя.

Усё сьведчыць пра тое, што ў 1943 годзе ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну ў 1943 годзе зьдзяйсьняліся ваенныя злачынствы, якія ня маюць тэрміну даўніны. Мы зьвяртаемся да Пракуратуры Беларусі з просьбаю расьсьледаваць факты, апісаныя сьведкамі, і зрабіць у гэтай справе сваё афіцыйнае заключэньне.

З павагай

*Алег Дзярновіч, выканаўчы дырэктар*
*Беларускага Гуманітарнага Фонду «Наша Ніва»*
*11.05.1998*

*Дадатак:*

*1. копія артыкулу «Што яны выраблялі!...» («Наша Ніва», 10.03.1997);*

*2. копія Афіцыйнага папярэджаньня, 23.05.1997;*

*3. копія Асьведчаньня сп. Васіля Струпаўца, 2.06.1997;*

*4. копія скаргі галоўнага рэдактара газэты «Наша Ніва» да Генэральнага пракурора, 5.06.1997;*

*5. копія публікацыі «Што яны выраблялі!» («Газэта Слонімская», 1-7.08.1997).*

# СВОЙ ПОЛЮС

*«Бела-русі-фікацыя» (НН № 8) Працяг тэмы.*

Адзін мой маскоўскі прыяцель свой «старэйшы школьны ўзрост» (канец 80-х) правёў у Беларусі. Тут ён па сваёй волі з Сашы ператварыўся ў Алеся. Ужо праз год «эміграцыі» Алесь шакаваў сваіх новых знаёмцаў «незвычайнай» беларускай мовай — вывучанай па творах Караткевіча і падручніках першай паловы стагодзьдзя.

Мой маскоўскі прыяцель быў сярод зачынальнікаў новае хвалі анархізму ў Беларусі. З уласьцівай прыхільнікам гэтае плыні непасрэднасьцю ён «бамбіў» у сябе дома «маскалёў», і з тым жа імпэтам «сьцябаў» у Беларусі «нацыяналістаў». Урэшце, Алесь вярнуўся на радзіму, і калі гадоў праз пяць я сустрэўся зь ім у Маскве, ён ужо амаль ня мог казаць па-беларуску — забыўся. Але нават па-расейску мы ня здолелі паразумецца. Для сябе я разьвязаў гардзееў вузел думкай «маскаль ёсьць маскаль». Сёньня я мяркую, што дарма ўкладаў у гэтыя словы пагардліва-крыўдлівыя інтанацыі...

У Борхеса вельмі часта пыталіся чаму ён, чалавек, які дасканала валодае некалькімі мовамі, найперш ангельскай, працягвае пісаць па-гішпанску. Маўляў, ангельская адразу б парушыла шмат перапонаў, зьвязаных з працэсам перакладаў. Але ж Борхес пісаў мовай, у якой ён спазнаў ключавыя «дасканалыя моманты рэчаіснасьці».

«Што значыць быць калюмбійцам? — запыталася галоўная гераіня апавяданьня Борхеса «Ульрыка». — Ня ведаю, — адказаў суразмоўца, — гэта пытаньне веры.» Ці задаюцца падобным пытаньнем людзі, якія ў Беларусі ствараюць культуру, якую мы называем «беларускай у расейскай мове». Гэтаксама, як у сучаснай Ірляндыі — у ангельскай, ці колішняй Чэхіі — у нямецкай. Кіно, тэатар, літаратура, сьпеў... У той ці іншай ступені якасьці, пашыранасьці... І запатрабаванасьці, мізэрны ўзровень якой сёньня мы азначаем як паказчык «неўрадлівасьці Беларусі» для «расейскіх зерняў»...

Калі адзін з герояў Марка Твэна — беглы нэгар Джым слухаў, як Гек Фін распавядаў пра Францыю, і даведаўся, што француская мова абсалютна не падобная да ангельскай, Джым шчыра зьдзівіўся, маўляў, чаму французы ня могуць размаўляць, так бы мовіць, «на чалавечаскім языку». Джым быў афраамэрыканцам. Прыстаўка «афра-» мае дапаможнае значэньне, якое тлумачыць усе нюансы аб'ектыўнага й сьветапогляднага існаваньня Джыма ў сусьвеце, і ў межах ЗША у прыватнасьці. Але найперш Джым быў амэрыканцам. Пытаньне, якое ён задаў Геку, і да сёньня хвалюе сярэднестатыстычнага амэрыканца незалежна ад пола, расы і веравызнаньня. Узгадайце дыялёг з таранцінаўскага «Pulp Fiction» пра «Big Mack» і «Le bigmack» — нераўнуй «нашая» спрэчка пра «пыво» і «піва».

Застаючыся тыповымі амэрыканцамі, мурыны ЗША стварылі свой аўтэнтычны культурны сьвет, вядома, ангельскай мовай. Чаму сёньня мы адмаўляем расейцам у магчымасьці ствараць сваю культуру па-беларуску? Мы кажам аб моманце «веры» ці «выбары», калі кажам пра інтэграванасьць беларускіх грамадзянаў у беларускую культуру, незалежна ад этнічнага паходжаньня. Зь іншага боку, мы кажам пра «няздатнасьць» расейцаў, робячы акцэнт менавіта на паходжаньні...

...Іншы мой расейскі прыяцель прыехаў у Беларусь у «сярэднім школьным узросьце». У адрозьненьне ад Алеся-Сашы ён застаўся ў краіне назаўжды.

Той, хто ніколі ня быў на канцэрце Зьміцера Бартосіка, можа набыць касэту «Да пабачэньня», якая ўжо больш за год як выйшла ў сьвет. «Высоцкаўская» манера выкананьня, прага «цыганскага разгулу», рускі (?) надрыў, кіданьне «ў запой» ад немагчымасьці «зьехаць у Парыж»: адчай і адначасова велічны спакой «у Чорнага мора»... Прага зьехаць, каб сумаваць аб вяртаньні. Бартосік мае выключныя ўмовы для кшталтаваньня й рэалізацыі гэтага пачуцьця. Ён сьпявае ў мове, у якой ён адкрыў свае «дасканалыя моманты рэчаіснасьці». Гэта не замінае яму жывіцца «ўсмоктанай з малаком маці» чароўнасьцю «Волскіх прастораў» і нябачаных ніколі «дзікіх стэпаў Забайкальля». Гэтак, як стопрацэнтныя амэрыканцы з прыстаўкай «афра-» з пакаленьня ў пакаленьне жывяцца ніколі ня бачанымі «прасторамі Закангалезьзя».

У адрозьненьне ад афраамэрыканцаў, Бартосік не абмяжоўваецца глебай «малака маці». Папулярная ў 60-х ідэя «вяртаньня на гістарычную радзіму, дзеля адраджэньня й разьвіцьця чорнае цывілізацыі» пацярпела паразу сярод чорных дыяспараў разьвітых краінаў. Гэтаксама, як сёньня толькі бязьлітасныя войны могуць прымусіць расейцаў зьняцца з «наседжаных зарубежжаў», і вярнуцца на «гістарычную радзіму». У адрозьненьне ад мурынаў, расейцам ня трэба адраджаць сваю цывілізацыю: яны зь яе жывяцца. Але, магчыма, як і ў мурынаў, большасьць значнага ў расейскай культуры за апошняе стагодзьдзе, было створанае менавіта за мяжою Расеі.

Слухаць музыку (расейскую, нэгрыцянскую, ці якую іншую) можна дзе заўгодна. Але ствараць музыку лацьвей там, дзе адчуваеш, што «ствараеш сваё». Менавіта таму ў нашай краіне БЕЛАРУСКІ бард Зьміцер Бартосік стварае РАСЕЙСКУЮ сьпеўную культуру.

...Часам я спрабую ўявіць свайго маскоўскага прыяцеля Алеся ва ўмовах, напрыклад, Кітаю. Ягоная бялявая зьнешнасьць у маім уяўленьні абсалютова гарманічна ўпісваецца ў шэрагі жоўтаскурых студэнтаў на пляцы Цяньаньмынь. Гэтаксама, як не выклікае зьдзіўленьне чорнаскуры падлетак — не раўнуй караткевіцкі мурын Янка — зь бел-чырвона-белым значкам пад час выступаў апошніх Менскіх вёснаў. У першым выпадку вядзецца пра творчасьць, стымуляваную «зьнешнім фактарам», у другім — пра повязь зь зямлёю.

«Захад ёсьць Захад, Усход ёсьць Усход, і ім ніколі не сыйсьціся разам», — прамовіў у свой час Кіплінг. Асабіста мне больш падабаецца рэгей, чым раманс. Тым ня менш, я шкадую, што Кіплінг ня можа паслухаць сьпевы Зьміцера Бартосіка. Магчыма, клясык зразумеў бы, што нават больш моцныя полюсы здатныя сыйсьціся ў адным — усё залежыць ад творцы.

**Севярын Квяткоўскі**

# ПАЎСТАНЬНЕ Ў «КАРАЛЕЎСТВЕ БЕЛАРУСЬ»

Зроблены першы крок да ўвасабленьня фрагмэнтаў віртуальнага «Каралеўства Беларусь» у рэальныя спарадкаваныя формы. 8 траўня ў залі музэя Максіма Багдановіча фундацыі «ЭўроФорум», «Наша Ніва», Інстытут Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы і Беларуская Асацыяцыя Журналістаў рэпрэзэнтавалі сумесны праект — «Беларускі Калегіюм».

Незалежная навучальная установа «Беларускі Калегіюм» ёсьць плёнам супольнай творчасьці беларускіх навукоўцаў, якія складаюць альтэрнатыву ідэолягам дзяржаўнай адукацыі РБ. Калегіюм напрацягу трох (непасрэднае навучаньне) і чатырох (дыстанцыйнае навучаньне) дае бакаляўрскае і магістарскае навучаньне для студэнтаў старэйшых курсаў гуманітарных спэцыяльнасьцяў і асобам з вышэйшай адукацыяй у спэцыялізацыях: філязофія-літаратура, журналістыка, найноўшая гісторыя.

«Сучаснае эўрапейскае кантынэнтальнае мысьленьне», «Генэалёгія беларускае ідэі»... «Досьледы ў галіне мэдыяў»... «Гісторыя таталітарызму ў Беларусі», «Незалежнае грамадзтва як сыстэма з аўтарэгуляваньнем»... — у праграме «Беларускага калегіюму» больш за пяцьдзясят курсаў і сэмінараў па тэмах, недаступных для навучаньня ў сучасных беларускіх дзяржаўных установах. Да выкладаньня апрача беларускіх навукоўцаў запрошаныя спэцыялісты з Украіны, Польшчы і Расеі.

«Беларускі Калегіюм» не дае пакуль поўнае вышэйшае адукацыі. Дыплём установы дзейсны толькі ў абранай для навучаньня спэцыялізацыі. Тым ня менш, у плянах арганізатараў — стварэньне незалежнага беларускага Ўнівэрсытэту...

У прэзэнтацыйных прамовах пэрыяд, у якім існуе сёньняшняя Беларусь, быў названы «найбольш плённым для самаўдасканаленьня». Мы ведаем пэрыяды гісторыі краіны, якія ці не шматкроць больш актыўна стымулявалі інтэлігенцыю да творчасьці «як адзінага спосабу ўцёку ад брутальнай рэчаіснасьці». Але, як правіла гэтыя пэрыяды скончваліся вынішчэньнем тых, хто ўдасканальваўся, «пад корань». Магчыма, менавіта таму атмасфэра, якая панавала ў залі падчас прэзэнтацыі «Беларускага Калегіюму», вызначалася строгасьцю, сабранасьцю і пэўнай патаснасьцю. Нібы на сходзе паўстанцаў у ноч перад правядзеньнем буйной апэрацыі. Зрэшты, інакш быць не магло, бо ж адукацыйная ініцыятыва «Беларускі Калегіюм» заплянаваная не на адзін год наперад, а сёньня выглядае на тое, што каб задуманае спраўдзілася, ад нас спатрэбяцца ня толькі творчыя высілкі.

**К.С.**

# ДЗЯРЖАЎНЫ ЗНАК





«Кожны з нас жыве надзеяй растлумачыць уласны знак», — гэтыя словы гурт БОНДА прасьпяваў у тыя часы, калі пошук і тлумачэньне беларускіх Знакаў толькі распачыналіся у беларускім грамадзтве, якое нараджалася. Дзесяць гадоў таму. Сёньня сам гурт стаўся адным са знакаў найноўшае гісторыі. Прыблізна столькі ж часу таму запачаткавалася публічная дыскусія аб стварэньні-вяртаньні аднаго з агульнанацыянальных сымбаляў, які стаіць амаль у адным шэрагу з Гербам, Сьцягам і Гімнам. Вядзецца аб беларускай нацыянальнай валюце.

Распачаты за часамі «непарушнага» СССР, пошук імя беларускай валюты мог падацца свайго кшталту інтэлектуальнай гульнёй. Куна, грыўна, дынар, дукат; пенязь шэлег, грош... Для разьменнай манэты прапаноўваліся цікавыя наватворы, кшталту «менкі». Але ў першы пэрыяд існаваньня незалежнае Рэспублікі Беларусь амаль адразу ў грамадзянаў, незалежна ад іхных палітычных поглядаў, зафіксавалася назва «талер». Нават сёньня хто-ніхто блытаецца ў пытаньні аб тым, як называюцца нікім ня бачаныя новыя беларускія грошы, завезеныя ў краіну пры ўладзе Кебіча. Чаму — трэба запытацца ў самаго Вячаслава Францавіча. Былы прэм'ер правёў апэрацыю з грашыма «бязь лішняга шуму». Тое, што на новых грошах напісана «рубель», а ня «талер» сталася адной зь нямногіх «асабістых перамогаў» Кебіча у супрацьстаяньні «наступу апазыцыі», якая на той час ужо пасьпела дамагчыся «нацыяналістычных» законаў аб Гербе, Сьцягу і Мове.

Упартасьць «кебічаўцаў» цалкам зразумелая — «талер» гучыць зусім ужо «не па-руску». Талер — эўрапейская назва. Аб папулярнасьці талера ў эўрапейскай сярэднявечнай Беларусі сьведчыць шматлікасьць варыянтаў назвы манэты: талар, таліар, таляр, талер, талярок (Археалёгія і нумізматыка Беларусі, стар. 602).

Сёлета спаўняецца 480 гадоў з часу, калі ў Чэхіі быў адбіты першы талер. За кароткі гістарычны пэрыяд манэта сталася ўнівэрсальнай эўрапейскай валютай, якая, напрыклад, у Нямеччыне чаканілася рыхтык да 1907 году. Сярэднявечны талер падарыў назву сучаснай унівэрсальнай валюце — даляру.

У Беларусі першы талер быў адбіты ў 1564 годзе на Віленскім манэтным двары, апошні — у Горадні ў 1793. Невялікую па колькасьці эмісію Гарадзенскага манэтнага двара толькі ўмоўна можна назваць эканамічным крокам. Перад фатальнай пагрозай згубы дзяржавы нашыя продкі пакінулі знак — Незалежнасьць. Роўна праз дзьвесьці гадоў у незалежнай Рэспубліцы Беларусь быў створаны праект новых беларускіх талераў.

Існуе два камплекты эскізаў. Адзін захоўваецца ў архіве Нацбанку, другі — у Зянона Пазьняка. Малюнак, які вы бачыце на ілюстрацыі, быў выкананы адмыслова для «Нашай Нівы» адным з распрацоўшчыкаў праекту мастаком Лявонам Барталавым.

Мастацкая канцэпцыя палягае ў жаданьні спалучыць сучасны эўрапейскі дызайн зь сярэднявечнай беларускай стылістыкай. Колерная аснова — сьветлыя (да белага) адценьні тла на кантрасьце з адценьнямі чырвонага колеру. Сюжэтная канцэпцыя — гістарычная, альбо «гістарычна-асьветніцкая». На банкнотах наміналам ад аднаго, двух, пяці й да тысячы талераў выявы Багдановіча, Братоў Луцкевічаў, Кастуся Каліноўскага, Францішка Скарыны, Льва Сапегі, Кастуся Астроскага і аж да Рагвалода з Рагнедаю. З адваротнага боку месьцяцца выявы з адпаведных гістарычных сюжэтаў. Адразу ж было абумоўлена, што ў поліканфэсіянальнай краіне ня варта закранаць кананічныя асобы.

Распрацоўшчыкі талераў пасьпелі дабрацца да лёнданскай фірмы, зь якой Нацбанк вёў перамовы аб друкаваньні новай валюты, каб на месцы ўдакладніць нюансы вытворчасьці. Праца над эскізамі вялася за рэкордныя для такіх задачаў тэрміны — крыху больш за год. Але кебічаўская каманда пасьпела апярэдзіць «апазыцыянэраў». У Расеі былі надрукаваныя рублі. Знайсьці чалавека, які б мог распавесьці гісторыю стварэньня гэтых грошай амаль немагчыма. Хтосьці па-просту маўчыць, а хтосьці, як, напрыклад, былы на той час галавой Нацбанку Станіслаў Багданкевіч, сьцьвярджае, што ня бачыў тыя грошы, бо «меў іншыя задачы». На сёньня яму вядома, што на банкнотах выяўленыя «нейкія дзеячы» і «нейкая архітэктура»... «Нейкія дзячы», «нейкія грошы», «нейкая эканоміка», «нейкая краіна»... Выглядае на тое, што наўрад ці мы калі-небудзь пабачым плён творчасьці невядомых пакуль мастакоў часоў «кебіцкага застою»: пэрспэктыва, вартая жалю, хіба з гледзішча калекцыянта.

Што да пэрспэктывы ўвядзеньня ў абарачэньне жывых беларускіх талераў, аднога «жыцьця надзеяй» не дастаткова. Магчыма, ёсьць сэнс у тым, што сёньня ў нас дастаткова часу, каб удасканаліць канцэпцыю валюты незалежнае Беларусі. Зрэшты, на колькі багата часу — залежыць ад нас...

**Севярын Квяткоўскі**

Славамір Адамовіч

# СПАРОН

Працяг са старонкі 1.

не гартанным харалам аргазму, а болем парадзіхі, адыходам каляплодных водаў, перарэзанай пупавінай і першым крыкам народжанага. Лёгіка аборту палягае ў самаабмежаваньні, самаспыненьні, самаадмаўленьні. Лёгіка любові — працяг і вечнасьць праз нараджэньне.

Праблема абортаў у Беларусі набывае асаблівае значэньне ў сувязі з інтэнсіўным падзеньнем нараджальнасьці. Паказчыкі натуральнага прыросту насельніцтва і пашыранага ўзнаўленьня ў бягучым дзесяцігодзьдзі характарызуюць выміраньне народу ў межах 30-50 тысячаў. Калі верыць статыстыцы, дэмаграфічны спад у нашай Краіне назіраецца з 1986 году і супадае з пачаткам так званай постчарнобыльскай эры. Зрэшты, як сьцьвярджае акадэмік Міхал Цяўлоўскі, лятальны працэс пачаўся ў 1993 годзе. Беларускія сем'і складаюцца толькі зь бязьдзетных мужа і жонкі. Расьце колькасьць абортаў і бясплодзьдзя, скарачаецца працягласьць жыцьця беларусаў. Калі дэмаграфічны крызыс будзе працягвацца й далей, праз 111 гадоў з твару Зямлі можа зьнікнуць апошні жыхар Беларусі.

Каірская міжнародная канфэрэнцыя па народанасельніцтве адзначыла тэндэнцыю: чым бяднейшая краіна, тым большая ў ёй нараджальнасьць. Наша Рэспубліка — выключэньне з гэтага правіла. Адна з прычынаў — неабмежаваная практыка абортаў. Сёньня з трох зачацьцяў адно завяршаецца гвалтоўным перапыненьнем цяжарнасьці. На нашым кантынэнце мы займаем трэцяе месца па колькасьці абортаў на тысячу чалавек. І гэта дае падставы гаварыць пра самагенацыд нацыі.

## ГІНЭКОЛЯГ РАСПАВЯДАЕ

Тацяна Анатолеўна Чарняўская, загадчыца гінэкалягічнага аддзяленьня 34-й палiклінікі Савецкага раёну сталіцы, лічыць, што колькасьць абортаў па Менску зьніжаецца, хоць і вельмі павольна, а спад нараджальнасьці спыніўся. Зьвернемся, аднак, да статыстыкі. У мінулым годзе ў 34-й паліклініцы зафіксавана 278 родаў і 74 аборты ў тэрміне звыш 6 тыдняў. А так званых міні-абортаў — 280. Паводле дадзеных жаночых кансультацыяў у сталіцы летась родаў здарылася амаль 12 з паловай тысячаў, 4 тысячы звычайных абортаў і 16 тысяч «вакуумаў» (абортаў, зробленых мэтадам вакуум-асьпірацыі). Па сацыяльных паказаньнях (матэрыяльная незабясьпечанасьць, адсутнасьць работы, жыльля) у 34-й кансультацыі быў зроблены толькі адзін аборт (гэта ў 1997 г.), па мэдыцынскіх паказаньнях не было ніводнага, і па генэтычных — адзін (быў выяўлены плод з генэтычнымі адхіленьнямі). Па Менску ў 1997 годзе зроблена: па сацыяльных паказаньнях 187 абортаў, па мэдыцынскіх — 116. Тут значную частку складаюць падлеткі, бо, паводле нашага заканадаўства, да 18 гадоў



жаночы арганізм лічыцца няполавасьпелым, і ўрачы абавязаныя спыняць цяжарнасьць, калі таго патрабуе непаўналетняя.

Па генэтычных паказаньнях зроблены 71 аборт. Г.зн., што ў 71-й жанчыны па раньняй стадыі цяжарнасьці з дапамогаю ультрагуку й біяхіміі выяўленая паталёгія плоду, і калі б не аборт — на сьвет нарадзілася б 71 хворае дзіця. Мэтодыка дыягнаставаньня з дапамогаю ультрагуку дастаткова дарагая, але на сёньня практычна ўсе пацыенткі 34-й кансультацыі, якія маюць цяжарнасьць да 10 тыдняў, праходзяць ультрагукавое абсьледаваньне.

34-я паліклініка дзейнічае дзесяць гадоў. Абслугоўвае насельніцтва Савецкага раёну сталіцы, 26% якога складаюць пэнсіянэры (па Менску — 15% ад агульнай колькасьці менчукоў). Паліклініка мае, бадай, адзіны ў краіне паліклінічны стацыянар для цяжарных і для жанчын з гінэкалягічнымі захворваньнямі. Працуе ўрачэбна-кансультатыўная рэабілітацыйная камісія (УКРК), заключэньні якой не падлягаюць рэвізіі ў бальніцах. І калі УКРК



адпраўляе жанчыну на аборт, гінэколяг стацыянару павінен спыніць цяжарнасьць.

На пытаньне, які закон рэгулюе ў Рэспубліцы практыку абортаў, Тацяна Анатолеўна Чарняўская адказвае: «Права жанчыны вызначаць свой лёс і лёс свайго ненароджанага дзіцяці. МЫ, АКУШЭРЫ-ГІНЭКОЛЯГІ, СУПРАЦЬ ЗАБАРОНЫ АБОРТАЎ. КАТЭГАРЫЧНА! МЫ ВЕДАЕМ, ШТО АДРАЗУ ПОЙДУЦЬ КРЫМІНАЛЬНЫЯ АБОРТЫ, мацярынскія сьмерці, маса розных ускладненьняў і інвалідызацыя жанчын». Тацяна Анатольеўна супраць таго, каб матэрыяльна малазабясьпечаныя жанчыны «пладзілі жабрацтва і ўбогасьць». На жаль, сярод жанчын, якія ідуць на аборт, так званы сацыяльны аргумэнт — самы пашыраны. Так, акупацыйна-марыянэтачны рэжым ня дбае і ня будзе дбаць пра матэрыяльны дабрабыт беларускіх жанчын. Далёка не заўсёды аказваюцца джэнтльмэнамі й беларускія мужчыны. Але тая лёгкасьць, зь якою жанчына абірае аборт, аргумэнтуючы свой выбар нібыта цяжкім матэрыяльным становішчам, выклікае хутчэй пратэст і непрыняцьце, чым разуменьне. Банальны эгаізм чалавека цывілізацыі — вось што штурхае жанчыну на забойства свайго плоду, забойства, упершыню ў сьвеце легалізаванае ўказам Леніна 16 лістапада 1920 году. Тысячы нашых здаровых, прыгожых і маладых жанчын ідуць на аборт. А вось адна з пацыентак 34-й кансультацыі, цяжкая сардэчніца, у 38 гадоў захацела і нарадзіла трэцяе дзіця, дачушку вагою 2 кг 800 грамаў. Дактары настойліва раілі зрабіць аборт, але жанчына не згадзілася. Не данасіла да дзевяці месяцаў, пачала гінуць, прыйшлося зрабіць кесарава сячэньне. У выніку яна выжыла, але век свой падкараціла, перайшла ў больш цяжкую групу інваліднасьці.

Па-мойму, жанчына ажыцьцявіла адзіна правільны выбар. Ён выклікае толькі павагу і дае прыклад тым, хто шукае апраўданьняў сьмертазабойству.

Вернемся, аднак, да пазыцыі гінеколягаў. Т.А.Чарняўская, загадчыца 34-й жаночай кансультацыі: «Я ня згодная з забаронай абортаў да таго моманту, пакуль ня будзе забясьпечанае нармальнае пражываньне будучага чалавека. Вось адукоўваць людзей трэба. На жаль, нашы кантрацэптывы каштуюць 300-400 тысячаў. Ня кожная жанчына можа іх набываць. Лепш за ўсё таблеткі. Для здароўя мы асаблівых адхіленьняў не знаходзім. Якасьць іх пастаянна ўдасканальваецца. Сілест, напрыклад, мае станоўчы пабочны эфэкт: нармалізуе функцыю яечнікаў, прафіляктыка раку. Праўда, мае невялікае адмоўнае ўзьдзеяньне на шыйку маткі. І таму анколягі пачынаюць супраць іх выступаць... У нас жа стала менш ускладненьняў у тых жанчын, якія прымаюць гэтыя таблеткі. Праблема ў тым, што яны нерэгулярна паступаюць у аптэкі. Добра, калі жанчына можа закупіць іх на пару гадоў наперад, патраціўшы 6-8 мільёнаў рублёў.

Сьпіралі зручныя тым, што 3-5-8 гадоў жанчына можа не баяцца зацяжараць. Але і яны, здараецца, выклікаюць запаленчыя працэсы ды іншыя непрыемнасьці. Дагэтуль жанчыны прыходзяць выдаляць сьпіралі, якія насілі 10-15 гадоў. Выпускаюць сьпіралі зь медным дроцікам, які з часам цалкам разбураецца. Робяць і чыста залатыя. Але тут варта быць пільнымі, бо часта афэрысты пад выглядам залатых прадаюць медныя. Нядаўна я выдаляла ў жанчыны такую псэўдазалатую сьпіраль. Капнула нашатырнага сьпірту — «золата» і пасінела, хоць сапраўднае павінна заблішчэць.

Небясьпечна для жанчыны нараджаць пры тромбафлебіце. А вось пры цукровым дыябэце плод дапамагае маці. З пэўнага ўзросту пачынае функцыянаваць падстраўнікавая залоза, і ён бярэ на сябе нагрузку мамы. У выніку нараджаецца нездаровым. І таму хворым на цукровы дыябэт мы рэкамэндуем спыняць цяжарнасьць.

Мэдыцынскім паказаньнем для спыненьня цяжарнасьці зьяўляецца і ўзрост пасьля 45, калі вельмі часта вынікам аплодненьня аказваецца паталёгія плоду. Напрыклад, хвароба Даўна. Але і тут бываюць выключэньні. Нядаўна ў нас нарадзіла 42-гадовая жанчына. Першая цяжарнасьць. Лёгка вынасіла, цудоўнае дзіця... У кожнага свая мяжа.»

*Зь пісьма (Яна — Яму)*
*14 чэрвеня 1954 г.*

*Дзень добры, мілы мой Генюсь!*

*Дазволь паведаміць табе, што пісьмо тваё атрымала, за што застаюся ўдзячная. Генюсь, прачытаўшы яго, я ўсьцешылася, але і засумавала яшчэ мацней. Ты ж пісаў у першым, што табе служыць усяго два месяцы, а цяпер пішаш, што больш. Не разумею, чаму гэта так...*

*Генюсь! Ты хіба не пасаромеўся пытацца ў мяне, ці не гуляю я з кім? Эх, ты! Хіба ты ня бачыў і не адчуваў, як я любіла й люблю цябе, больш не любіць мне нікога й ніколі. Генюсь! Павер, як я прачытала гэта слова «гуляла», дык моцна плакала і вельмі ўзлавалася на цябе.*

*Першы ты скарыў маё сэрца, першы раз я спазнала любоў, першы раз я даведалася, што стаіць, навошта сэрца хвалюецца і кроў.*

*Генюсь, ты пытаесься, што за жанчына, якая будзе рабіць, яе завуць Янінай, яна жыве толькі з хлопчыкам, а муж ейны на вярбоўцы. Яна ўжо ўсё зрабіла, і я цяпер свабодная, але гэтая жанчына ўзяла зь мяне 100 рублёў. Грошай мне прыслала сястра 300 рублёў, а я дома сказала, што 200. Я да яе хадзіла ў суботу 12 чэрвеня, а ў нядзелю 13 чэрвеня ўвесь дзень плакала і пераносіла такі боль, што нават валасы на сабе ірвала. Я ў той час была ў лесе, каб ніхто ня чуў і ня бачыў маіх пакут. Генюсь, яшчэ нічога не было знаць, было там дзіця ці не, а толькі адна сумесь!.. Генюсь, падумай, якая я была няшчасная ў тую нядзелю. Усе дзяўчаты былі ў Крывічах на фэсьце, а я адна ў лесе і толькі слухала, як зязюля кукуе і птушкі пяюць... Мілы мой Генюсь! Хоць ты і кінеш, але я цябе ніколі, таму што ты мяне...*

*Апішу табе, што ў нас вельмі цёпла, суха, дождж ня йдзе, таму яравыя культуры вельмі бедныя. Жыта ўжо адкрасавала, так што хутка і ўборка.*

*Яшчэ ты пытаесься, ці развучваюць дзяўчаты песьні на Нарачы. Не, бо няма кіраўніка. Я цяпер працую ў праўленьні калгаса «Маладая Гвардыя»...*

*Дазволь закончыць маё маленькае пісьмо. Цалую цябе, твая нялюбая сяброўка Юзя! Высылаю дзевяць цыгарэт і лёзы, а таксама два лісты паперы.*

## НОВАЯ ЭТЫКА АЛЬБО САМАГЕНАЦЫД?

За два тысячагодзьдзі ў заходняй культуры, да якой прыналежым і мы, выпрацавалася абсалютная каштоўнасьць — увекавечаньне й ахова права кожнай асобы на жыцьцё. Гэта неад'емнае і вельмі канкрэтнае права. Выключэньні дапушчаліся ў пэўных выпадках пры вырашэньні пытаньня «жыцьцё за жыцьцё» альбо абумоўліваліся заканадаўчым параграфам.

Новыя законы, якія легалізавалі аборт, уяўляюць сабой усеагульнае адмаўленьне ад адной з галоўных каштоўнасьцяў заходняга чалавека і прыняцьце новай этыкі, паводле якой жыцьцё мае адносную вартасьць. Нездарма менавіта ў 20-м стагодзьдзі чалавецтва ўзаконіла аборт і перажыло дзьве сусьветныя вайны, а таксама такія антыгуманныя рэжымы як сталінізм і гітлерызм. Ёсьць лёгіка і ў тым, што менавіта Беларусь, якая па колькасьці насельніцтва за пяцьдзясят апошніх гадоў так і не сягнула далей дзесяцімільённага рубяжу, якая перажывае дэмаграфічны крызыс і імкліва старэе, у 1994 г. абірае сваім лідэрам асобу з даволі выразнымі нэкрафілічнымі рысамі характару, асобу, якая ня любіць жыцьцё, але цягнецца да мёртвага, сьмерці.

Калі чалавецтва прызнае магчымым права жанчыны на абартыўны самагенацыд проста таму, што ёй так хочацца, тады і лукашэнкі прызнаюць для сябе магчымым зьдзяйсьняць татальны тэрор супраць уласнага народу.

Мы — фізычна прыгожы этнас. Мы ня менш пажадлівыя, чымся французы (ці не адсюль у нас столькі паэтаў на душу насельніцтва?). Мы любім і ўмеем любіцца. Але чаму мы ніяк ня можам нарадзіць: ні здаровае нацыянальнае цела? ні дзяржаву як канстытуцыянальныя межы для гэтага цела? ні калектыўную ці індывідуальную сілу? Атрымоўваем ці выкідышаў, ці неданоскаў, якіх невядома хто на нашу галаву выходжвае.

Мы — і жанчыны, і мужчыны — любім аборт, бо ён стварае ілюзію сацыяльнай адказнасьці, хаця на самой справе вызваляе ад яе. Замест зьнішчэньня жыцьця трэба зьнішчаць умовы, якія робяць жыцьцё невыносным.

## ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦЬ ПЛОДУ

Дзяўчынка Ксенія Кінг нарадзілася ў штаце Флорыда на 21 тыдні цяжарнасьці (4,5 месяцы) ад першага дня апошняга мэнструальнага цыклю ейнае маці. Важыла яна 510 грамаў, затым пахудзела да 369-ці.

Некаторыя дзяржавы выкарыстоўваюць здольнасьць выжыць па-за целам маці як сродак вымярэньня гуманнасьці ў адносінах да яшчэ ненароджаных дзяцей. 30 гадоў таму «жыцьцяздольнасьць» складала каля 30 тыдняў. Сёньня яна скарацілася да 20. На працягу наступных 20 гадоў яна можа дасягнуць пэрыяду ад 10 да 12 тыдняў. Такія зьмены адбываюцца ў сувязі з ростам штучных падтрымліваючых жыцьцё сыстэм. Дзеці застаюцца такімі ж самымі. Таму «жыцьцяздольнасьць» паказвае хутчэй на майстэрства дактароў ды аснадажанасьць стацыянараў, у якіх нараджаецца дзіця.

## АБОРТ З ДАПАМОГАЮ КЕСАРАВА СЯЧЭНЬНЯ

Мэтад дастаткова стандартны да моманту адсячэньня пупавіны. Пры кесаравым сячэньні адсмоктваецца сьлізь дзіцяці, яму аказваецца інтэнсіўная тэрапія ў інкубатары для нованароджаных, дзе ўсё робіца для яго выжываньня.

## 11—12 ТЫДНЯЎ (3 МЕСЯЦЫ)

У гэтым узросьце функцыянуюць усе сыстэмы органаў. Дзіця дыхае, глытае, пераварвае і выдаляе. Яно вельмі чуйнае да болю, адварочваецца да шуму і непрыемнасьцяў, імкнецца заняць зручную пазыцыю, калі яго трывожаць. Хутка ён будзе

спаць і прачынацца разам з маці. Калі яго амніятычная вадкасьць робіцца салодкай, ён будзе часьцей глытаць, калі кіслай, яно запавольвае глытаньне.

Гукавымі сыгналамі дзіця можна навучыць адварочвацца ад болевых стымулаў, але ні ў аднаго немаўляці ня будзе аднолькавага адказу, бо яны ўжо — індывідуальнасьці.

### АБОРТ ПРАЗ АТРУЧЭНЬНЕ СОЛЬЛЮ

Мэтад выкарыстоўваецца пасьля 16 тыдняў, калі дастатковая колькасьць вадкасьці зьбіраецца ў мяшках з водамі плоду. Доўгая іголка ўстаўляецца праз жывот цяжарнай у каляплодны мяшок. Упырскваецца раствор канцэнтраванай солі. Плод уздыхае і глытае соль і атручваецца ёю. Вонкавы слой скуры атрымлівае апёкі ад каразійнага эфэкту. Апэрацыя займае крыху больш гадзіны часу. Праз суткі адбудуцца «мёртвыя» роды. Прадукт цяжарнасьці выкінуць у клазэт, у лепшым выпадку — спаляць у крэматорыі стацыянару.

### ПРОСТАГЛАДЫНАВЫ АБОРТ

Спэцыяльна створаны прэпарат абартыўнага дзеяньня, які выклікае заўчасныя роды. Звычайна выкарыстоўваецца ў сярэдзіне і ў канцы цяжарнасьці з мэтаю выклікаць аборт. Можа выклікаць у арганізьме жанчыны сур'ёзныя ўскладненьні.

### АБОРТ У 12 ТЫДНЯЎ

Аборт праводзіцца паміж 7 і 12 тыднямі цяжарнасьці з выкарыстаньнем петлепадобнага сталёвага нажа. Матка выводзіцца праз похву. Шыйка (рот маткі) утрымліваецца адкрытай. Гінэколяг расьсякае маленькае цельца на кавалкі і адслойвае плацэнту ад сьценак маткі.

### АБОРТ ДА 18 ТЫДНЯЎ

Праводзіцца паміж 12 і 18 тыднямі. Выкарыстоўваюць шчыпцападобны з вострымі зубамі інструмэнт. Гінэколяг захоплівае частку плоднага цела і адрывае яе. Гэтае членаадсячэньне працягваецца без абязбольваньня для плоду да таго часу, пакуль усе часткі, уключаючы і глыбока разьмешчаны пасьлед, ня будуць выдаленыя. Крывацячэньне пры гэтым прафузнае. Адна з апэрацыйных мэдсёстраў узнаўляе часткі цела, каб упэўніцца, што матка пустая, інакш маці сьцячэ крывёю і атрымае інфэкцыю.

### ВЫЦЯЖНЫ АБОРТ

Падобны на папярэдні. Але выкарыстоўваецца і новы інструмэнт — магутная выцяжная трубка. Яна адрывае часткі цела плода і яго плацэнту, адсмоктваючы «прадукты цяжарнасьці» ў слоік.

### «МЫЛЬНЫ» (КРЫМІНАЛЬНЫ) АБОРТ

Здараецца сярод насельніцтва зь нізкім сацыяльным статусам. У матку ўводзіцца гаспадарчае мыла, што выклікае ня толькі аборт, але і паражэньне нырак. Заканчваецца лятальным зыходам альбо калецтвам жанчыны.

### НАСТУПСТВЫ

З абортам зьвязана больш за 100 фізычных ускладненьняў. Да непасрэдных адносяцца інфэкцыя, цяжкія крывацячэньні, пашкоджаньні маткі ды іншых унутраных органаў, нерэгулярная мэнструацыя, галаўны боль, трамбозы, галавакрут...

Працяглыя фізычныя ўскладненьні — гэта бясплоднасьць, выкідыш і заўчасныя роды, цяга да алькаголю, злоўжываньне мэдыкамэнтамі і наркатычнымі рэчывамі...

Многія жанчыны пакутуюць ад псыхічных наступстваў пасьля перажываньня аборту, маці ня можа не ўспамінаць пра забітае дзіця. Пачуцьцё віны не дае спакою. Такія ўскладненьні называюць сындромам перажываньня аборту ульбо ПАС (пост-абортавы сындром). Вось некаторыя сымптомы ПАС: пэрыядычныя цяжкія ўспаміны, сны і паўтарэньне перажываньня аборту, складанасьці ва ўзаемінах зь людзьмі, бяссоньніца, абвостранае пачуцьцё віны, пагаршэньне памяці, прыпадкі ярасьці, спробы суіцыду.

### РОЛЯ МУЖЧЫНЫ

Тацяна Анатолеўна лічыць, што для барацьбы з абортамі патрэбныя радыкальныя мерапрыемствы ў адносінах да мужчын. У пацьверджаньне сваёй пазыцыі яна распавядае пра адзін не зусім законны экспэрымэнт, які савецкія мэдыкі правялі ў Новасібірскім акадэмгарадку гадоў 20 назад. «Было дрэнна з донарскай крывёю для клінікі, добраахвотнікаў няма, прымусіць здаваць нікога нельга. І тады мы выдалі загад, сэнс якога палягаў у наступным: калі жанчына ідзе на аборт, мужчына павінен здаць 200 гр. крыві... Вы ведаце, ня трэба было вучыць, як засьцерагацца, ня трэба было гаварыць пра шкоднасьць абортаў. Іх колькасьць адразу зьменшылася. Бо для мужчыны здаць кроў — гэта трагедыя. Яны нават прытомнасьць губляюць...» І сапраўды, ёсьць за мужыкамі такі грэх. Кроў здаваць, толькі калі вельмі выпіць хочацца,



а жонка грошай не дае. На аборт яе адправіць — раз плюнуць. А калі пасьля спарону палюбоўніца бясплодная стане — мужычок да іншай шусьне. Бывае, што каханая забудзецца пігулку выпіць, а ў мужычка кар'ера, кватэрка малая ў «даляры» (прэстыжны дом насупраць Камароўскага рынку ў Менску), ды і маральна не гатовы да бацькоўства. І тады «позьнясьпелы» мужычок раіць сяброўцы схадзіць «на вакуум», пра які ён ніякага ўяўленьня ня мае. Ёсьць, на жаль, такая зьява. Але ёсьць і іншае, калі жанчына сама праяўляе ініцыятыву і ставіць свайго мужчыну перад фактам аборту. І мужчына, які гатовы быў стаць бацькам, раптам становіцца сьведкам і часткова прычынаю самагенацыду. Ён перажывае аборт па-мужчынску трывожліва і балюча. І пачуцьці да любімай паціху астываюць, бо жанчына, якая «вычысьцілася» ад ягонага дзіцяці, засьведчыла, што больш за ўсё яна любіць сябе...

Няпраўда, што мужчына ніколі не зразумее пачуцьцяў жанчыны, якая перажыла аборт. Рэч у тым, што мужчыны перажываюць своеасаблівыя міні-аборты непараўнальна часьцей, чым іхныя сяброўкі. Я маю на ўвазе палюцыі і мастурбацыю. І ў першым, і ў другім выпадку пасьля семявывяржэньня мужчыну апаноўвае пачуцьцё маральнай няўтульнасьці і віны, адчуваецца фізычнае разбалянсаваньне. Палюцыя, а яшчэ больш мастурбацыйны акт, выклікаюць надзвычай складаны комплекс адмоўных рэакцый, а ў эмацыйна разьвітай натуры могуць назірацца мышачныя спазмы, сутаргі з наступным паніжэньнем рэактыўнасьці ўсяго арганізму. Да мужчынскага мастурбацыйнага акту, як і да жаночага аборту, прывыкнуць нельга. Мастурбацыйны аргазм — гэта заўсёды аргазм болю, а ня радасьці. Штучнае семявывяржэньне навонкі — гэта як добра паесьці, а потым званітаваць, як спрабаваць выплюнуць з роту ўсю сьліну. Плоць заўсёды імкнецца ўвайсьці, а ня выйсьці. У гэтай скіраванасьці палягае ідэя Прыроды.

Каштоўнасьць жыцьця ня толькі народжанага чалавека, але зародка і нават семені добра зразумеюць кітайцы, якія адлічваюць узрост ня з моманту выйсьця з матчынага ўлоньня, а з моманту апладненьня, калі ўзьнікае новы згустак жыцьцёвае энэргіі.

Аборт — гэта, бадай, самая дарагая цана за цывілізацыйны камфорт і ўласны эгаізм, якую сплачваюць як жанчына, так і мужчына.

*Зь пісьма (Яна — Яму)*
*21 чэрвеня 1954 г.*

*Прывітаньне зь Беларусі!*

*Дзень добры, мой мілы Генюсь. Хачу паведаміць табе, што пісьмо тваё атрымала, за якое кажу вялікі дзякуй. Генюсь, я цяпер лёгкая, і, дзякуй Богу, адчуваю сябе нядрэнна. Думаю толькі адно: каб хутчэй убачыць цябе, пачуць твае словы. Але гэта, пэўна, ня ўдасца, бо ты да нас ніколі не пакажасься з-за таго, што так зрабіў са мной. Ты як прыедзеш, дык адразу пойдзеш да сваёй Лёні... Генюсь, ты не падумай, што я зваляюся безь ніякай ахові, можа быць, яшчэ і мяне возьме хто-небудзь з прыроды...*

*Дзякуй табе за тваё добрае абяцаньне і яшчэ дзякуй за тваю дабрадушнасьць. Да спатканьня...*

### ГРАМАДЗЯНСКАЕ ДЗЕЯНЬНЕ СУПРАЦЬ АБОРТАЎ

Мужчынаў абвінавачваюць у тым, што вельмі часта яны штурхаюць жанчын на грэх спарону. Папрок справядлівы. Але іншыя мужчыны, можна сказаць, сапраўдныя мужыкі, выступаюць катэгарычна супраць гвалтоўнага спыненьня цяжарнасьці. Дзеля пашырэньня ідэі аховы чалавечага жыцьця яшчэ ў зародку, мужчыны (не без дапамогі жанчын, вядома) стварылі Дабрачынны фонд аховы жыцьця ля яго вытокаў і генэтычнага коду народа, які ўзначаліў доктар тэхнічных навук акадэмік Міхал Дамінікавіч Цяўлоўскі. Пра гэтую арганізацыю я пачуў ад члена праўленьня Фонду спадара Кіранава Вадзіма Сяргеевіча. Мой суразмоўца мае 39 гадоў, жанаты, гадуе двох сыноў. Па адукацыі — інжынэр. Працуе ў БДУ на катэдры фізыкі паўправаднікоў і — настройшчыкам музычных інструмэнтаў у 12-й менскай школе. Жонка працуе ў кансэрваторыі.

Названы Фонд — арганізацыя не рэлігійная, але ў яго ўваходзяць прадстаўнікі асноўных канфэсіяў Беларусі: каталіцкай, прваслаўнай, пратэстанцкай, мусульманскай і юдэйскай. Спадар Кіранаў рэпрэзэнтуе ў Фондзе праваслаўную царкву. Сябры дабрачыннай арганізацыі чытаюць лекцыі ў школах, інтэрнатах, вучылішчах. У дні, калі ў паліклініках сталіцы праводзяць вакуум-аборты, фондаўцы прыходзяць у апошні момант паспрабаваць адгаварыць хоць адну жанчыну ад непапраўнага кроку. З уладамі канфліктаў Дабрачынны Фонд ня мае, але ня мае і рэальнай дапамогі. Курсіруюць чуткі, што вось-вось ППРБ выдасьць чарговы закон, які забароніць аборты. Наколькі яны праўдзівыя, сказаць цяжка. Ясна адно: без шырокага публічнага абмеркаваньня праблемы абортаў прыняцьце падобнага закону ці ўказу будзе мець катастрафічныя наступствы. Праўда, як паказвае вопыт Харватыі, можа быць і па-іншаму. Калі аборты забароненыя дзяржавай, жанчына пачынае больш адказна ставіцца да свайго ненароджанага дзіцяці. Тут ужо прыходзіцца думаць ня толькі пра Боскую кару, але й пра адказнасьць перад Законам.

Адносіны членаў Фонду з урачамі жаночых кансультацыяў складваюцца няпростыя. Мэдыкі прыводзяць адзіны, на іх думку, істотны аргумэнт: калі яны ня будуць рабіць аборты, жанчыны пойдуць да падпольных «спэцыялістаў» спарону.

Не сьпяшаюцца пакуль падтрымоўваць Фонд і фінансава: ні дзяржаўныя, ні прыватныя банкі. Затое каталіцкі фонд «Маці Божая Фацімская» выдзяліў сродкі на выпуск 50 відэакасэтаў з прапагандысцкім матэрыялам. Асаблівае ўражаньне робіць фільм «Нямы крык» доктара Бэрнарда Натансона, які зрабіў ультрагукавыя здымкі аборту 12-тыднёвага чалавечага эмбрыёну. Фільм даказвае, што зародак прадчувае пагрозу сьмерці. Ягонае сэрцабіцьцё пачашчаецца да 200 удараў за хвіліну. Ён пачынае рабіць актыўныя панічныя рухі, адсоўваецца на супроцьлеглы бок маткі, спрабуючы схавацца ад сталёвых інструмэнтаў гінэколяга, і шырока адкрывае роцік у сваім нямым крыку...

Дабрачынны фонд аховы жыцьця ля яго вытокаў і генэтычнага коду народа варты падтрыманьня як ніякі іншы. Адрас і разьліковы рахунак Фонду наступныя:

*220053, г.Менск, вул. Арлоўская, 66, корп.8.*

*Тэл.: (017) 237-29-71, 237-52-26.*

*Факс: (017) 234-98-84.*

*Р/Х 3015000007955 у філіяле № 510 ААБ «Беларусбанк», г.Менск, код 153001603.*

### ЭПІЛЁГ

... Генюсь вярнуўся да сваёй Юзі. Праз восем гадоў пасьля аборту Яна нарадзіла Яму хлопчыка, потым другога, потым дачушку. Маладыя гады свае яны пражылі складана, сыходзіліся і разыходзілся. У Яго былі іншыя жанчыны, у Яе — толькі Ён. малодшы сын падарыў ім унучку, дачка — унука. Днямі павінен прыехаць зяць — дапамагчы пасадзіць бульбу.

Лёнечка памерла маладою — ад сухотаў.

***

... Таня нарадзілася толькі таму, што настояла бабуля. І цяпер бабулечка — адзіны ў сьвеце родны чалавек, якога ўнучка сапраўды любіць і паважае. Дзесьці побач сноўдаецца і родная маці — як цень, як здань, нялюбая і халодная.

Таня ведае гісторыю свайго нараджэньня: бацькі не хацелі яе. Цяпер яна ня хоча іх. І гэта справядліва, бо дабро прымнажаецца дабром, а злое — злым.

Таня вучыцца на гуманітарным факультэце, піша беларускія вершы, кахае. А чым яно завершыцца — пакажа час.

***

... Дзімка пражыў ужо два гадкі з хвосьцікам. Мара любога нармальнага мужыка: такі прыгожы, чыста херувімчык, сынуля. Ён таксама нарадзіўся дзякуючы цьвёрдаму слову бабулі, бо мамка яго не хацела. Вось і сёлета на мінулы Вялікдзень яна прывезла сына ў дом сваіх родных, а сама зьбегла. Адзінокія бязмужніцы плачуць, крыху п'юць за Велікодным сталом, крыху паляць, а найбольш соўкаюць Дзімку, перахопліваючы адна ў адной з рук.

***

...І была ў тых гасьцях Ірына. Ужо «свабодная» ад плоду, бо па чацьвертым тыдні цяжарнасьці яна зрабіла аборт, не папярэдзіўшы пра тое сваго мужчыну. Цяпер Ірыне 35. Ужо месяц як яна хварэе: не спадае тэмпэратура, не пакідае суіцыдны настрой... Каб перамаглі пачуцьці, а не саманадзейны чалавечы розум, пад каталіцкія Каляды, у Піліпаўку, мог бы нарадзіцца яшчэ адзін Беларусік (ці Беларуска). І, як усе народжаныя людзі, Ён (альбо Яна) зьведаў бы (зьведала б) і радасьці, і пакуты зямнога жыцьця. На жаль, жанчына вырашыла іначай. І ты зноў ня стаў бацькам.



# ДЗЕ КРЫЖУЮЦЦА ШЛЯХІ

*Сёлета — 80 гадоў адкрыцьця Будслаўскай Беларускай Гімназіі*

*«Лепш адзін раз запаліць маленькую сьвечку, чым усё жыцьцё праклінаць цемру»*
*Канфуцы*

### З УСПАМІНАЎ

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч:** «У 1912 годзе ўжо некалькі сьвятлейшых сялянаў з Будслава выпісвалі «Нашу Ніву». Некаторыя пасылалі навет карэспандэнцыі. Іншым выпісала «Нашу Ніву» радня, што была ў Вільні або ў іншых гарадох. Гарадзкія, асабліва ж у Вільні, Пецярбурзе й Рызе, былі зьвязаныя са сьвядомымі нацыянальна асяродкамі й чыталі «Нашу Ніву»...»

Пра пашырэньне «Нашай Нівы» стараліся Эдвард Будзька й сям'я Мядзёлкаў. Як у кожным маленькім мястэчку, дзе кожны звычайна ведае адзін аднаго, Паўліна Мядзёлка, напэўна, была знаёмая з бацькамі Вінцэнта — Антосем і Марысяй. Але аніякіх дакумэнтальных зьвестак пра гэта няма, ускосным пацьверджаньнем могуць зьяўляцца яе словы: «Неяк вясной 1907 году цётка Анэля выправілася ў Будслаў адведаць радню. Туды ж прыехаў з Рыгі на адпачынак наш былы сусед і бацькаў таварыш Будзька» — **А.Х.**

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч:** «Я ўжо ў 1912 годзе навучыўся чытаць па-беларуску на беларускім каляндары і нумарах «Нашай Нівы», якія трапілі ў... рукі дзякуючы Эдварду Будзьку. Эдвард Будзька — вядомы беларускі дзеяч, належаў да піянэраў беларускага руху. Быў равесьнікам Янкі Купалы й Якуба Коласа, зь якімі супрацоўнічаў у «Нашай Ніве», але быў старэйшым нашаніўцам і належыў да старэйшых беларускіх дзеячоў. Менавіта Эдвард Будзька выступіў у 1917 годзе адным з арганізатараў Будслаўскай Беларускай Гімназіі (1917-1919) — першай на Беларусі! Першая беларуская гімназія — паўстала стараньнем будслаўскай інтэлігенцыі й сялянства... Ужо ў кастрычніку 1917-га году быў скліканы валасны сход, на якім пастаноўлена было адчыніць беларускую гімназію ў Будславе... Пастанова гэта была ўжыцьцяўленая. Праз два месяцы гімназія пачала заняткі ў чатырох клясах нармальных і двох падрыхтаваўчых, спачатку зь лікам больш за 300 вучняў... Галоўным арганізатарам гімназіі быў вышэйуспомнены Эдвард Будзька — ведамы каапэратар і грамадзкі дзеяч, які жыў тады зь сям'ёй сваіх бацькоў у Будславе. Дырэктарам гімназіі быў археоляг і гісторык Васілевіч зь недалёкай вёскі Пузыры, якога голад прымусіў вярнуцца з Масквы ў сваю вёску. Вучыцелямі былі — ягоны сын матэматык і дачка гуманістка, а апрача іх Поля Будзька, Л.Ігнатава, Мікола Шыла і Лышчук (абодва зь Менску) ды Панковіч з Крывіч».

**Раіса Жук-Грышкевіч:** «...інжынэр Дубейкаўскі (так-так, знакаміты Лявон Вітан-Дубейкаўскі! — **А.Х.**) — архітэкт — пазьнейшы муж панічкі Юльяны Мэнкэ, некалі нарэчанай Івана Луцкевіча, будаваў Будслаўскую Беларускую гімназію».

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч:** «Ён прыехаў у Будслаў і адпрацаваў плян двухпавярховага драўлянага будынку для гімназіі... Польскія ўлады сканфіскавалі гатовы першы паверх будынку Гімназіі, пакрылі яго й зьмясьцілі ў ім канцылярыю Будслаўскай валасьці (гміны)... Дзесь у канцы сакавіка (1918 году — **А.Х.**) дайшла вестка зь Менску аб абвяшчэньні незалежнасці Беларусі й да Будслава. Аднаго дня, памятаю, наш дырэктар Васілевіч узварушаны й вясёлы хадзіў па ўсіх клясах і дзяліўся з вучнямі гэтай радаснай навінай: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла незалежнасьць Беларусі, наш край будзе вольным і незалежным, як калісь даўней. Будзе мець свой урад, сваё войска, сваіхураднікаў, свой скарб і свае школы. Цяпер беларусы будуць самі гаспадарамі на сваёй зямлі, і ня будзе нас ужо трывожыць і страшыць чужое войска й паліцыя». Праз цэлы тыдзень гімназія была ўва ўзбуджаным сьвяточным настроі. Пасьля лекцыяў адбываліся сьпеўкі і рэпэтыцыі дэклямацыяў... На лекцыях рысункаў рысавалі Пагоню й бел-чырвона-белы сьцяг. Настаўнік рысаваньня сьв. пам. Мікола Шыла сказаў, што найлепшыя рысункі будуць павешаны ў залі ў дзень сьвяткаваньня. Гэта дадавала імпэту й стараньня ў працы. Сьцяжкі выходзілі няблага, але з Пагоняй было горш. Мой сусед Кіслы так праняўся нацыянальнымі колерамі, што ягоны конь у Пагоні выйшаў бел-чырвона-белым... Нарэшце прыйшоў доўгачаканы дзень сьвяткаваньня. Людзей сабралася столькі многа, што яны запоўнілі залю, сумежныя клясы й нават сенцы... Урачыстасьць адчыніў дырэктар палкай, хоць і доўгай прамовай... Далей прамаўлялі прадстаўнікі ад Гімназіяльнага Камітэту бацькоў і ад валасьці, а таксама сьв. пам. інжынэр архітэкт Дубейкаўскі зь Вільні, які кіраваў будаваньнем дому для гімназіі. Якісь дзядзька з Камарова ці Алешак пачаў прамаўляць, але ня мог скончыць, узварушаньне душыла яму словы ў горле. Ён патрапіў толькі сказаць: «Хай жыве Незалежная Беларусь!»

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч:** «Гімназія праіснавала пад нямецкай акупацыяй у 1918 годзе і пад бальшавіцкай частку 1919 г. Восеньню 1919 г. Будслаў акупавалі палякі й зачынілі гімназію. Яны ж здушылі ўсе праявы культурнага й грамадзкага жыцьця, якое ў Будславе ніколі пасьля не вярнулася да такога высокага ўзроўню».

### ШЛЯХІ

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч**

Пасьля закрыцьця Будслаўскай Беларускай Гімназіі Вінцэнт Жук-Грышкевіч пераехаў у Вільню, дзе праз два гады скончыў Віленскую Беларускую Гімназію. Вучыўся ў ёй разам з Натальляй Арсеньневай. Яны



*Яшчэ пад час сваёй вучобы ў школе (а было гэта ў 70-80-я гады) кожны дзень я хадзіў ля былога фальварку (ды яго так і называлі), па нядзелях у нашым касьцёле, які ніколі ня быў зачыненым уладамі адбываліся фэсты, а ля майго мястэчка на Мядзельшчыне былі раскіданыя хутары, на якіх жылі і працавалі людзі. Старыя распавядалі пра Польшчу, пра час, калі яны былі маладымі. Савецкае было толькі зьверху, успрымалася як наноснае... Гэта цяперака ўсё незваротна зьмянілася. Тая старая беларушчына паціху адыходзіць, ды ўжо амаль што адышла ў нябыт... І пачынае вырастаць новая, ужо не антысавецкая, а тая, якая зусім ня ведала савецкага, і таму нясе выключна пазытыўны сэнс...*

засталіся сябрамі на ўсё жыцьцё. Ліставаліся, сустракаліся.

Зь ліста Вінцэнта Жук-Грышкевіча да Натальлі Арсеньневай: «Дарагая Наталка! Сяброўка мая з тых школьных дзён, з той маладосьці, з той школьнай навукі Віленскай Беларускай Гімназіі, з тых Базыльянскіх Муроў зь Беларускім Музэем Івана Луцкевіча, сяньня раскінутым і адданым чужынцам...»

*Натальля Арсеньнева — Вінцэнту Жук-Грышкевічу (1973 г.):*

*«Даражэнькі Вінцук,*
*Мой сябра зь дзён, калі вясёлкай Прад намі клаліся шляхі, Калі жыцьцё было на золку, Калі яшчэ й ня сьніўся схіл...*
*— І вось ён тут, із намі сяньня, Скрозь павальней жыцьця разгон, Дні не ў красе. У адцьвітаньні...*
*А хочацца яшчэ змагацца За ўчора, заўтра, усіх і ўсё! Дык будзем жыць! Мо ў дзесяць столкаў Гады йшчэ скруцяць нас, сябры. Дасьць Бог, шматколернай вясёлкай і рэшта нашых дзён згарыць!»*

У 1922-26 гадох Вінцэнт вучыўся ў Празе Чэскай, у 1926 скончыў факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі Ўнвэрсытэту Карла IV у Празе. Трэба заўважыць, што ў гэты ж самы час у Празе на гэтым самым факультэце вучыўся й Уладзімер Жылка. Вінцэнт Жук-Грышкевіч: «Жылка паступае на філялягічны факультэт унівэрсытэту Карла і студыюе славянскую літаратуру й гісторыю... Жылка ведамы ня толькі як паэта, але і як грамадзкі дзеяч. Ён уважаў, што грамадзкая праца ёсьць першым і галоўным абавязкам кажнага беларуса, незалежна ад яго індывідуальных замілаваньняў і прафэсіі. «Беларусь трэба падымаць!» — казаў ён, паўтараючы словы Кастуся Каганца. Таму, паводле яго, сваім улюблёным напрамкам дзеяньня можна займацца толькі ў вольным часе ад грамадзкай працы. Так ён і рабіў. Пісаў свае вершы пераважна начамі. Ніколі не адмаўляўся ад грамадзкай працы. Ніколі не прыкрываўся тым, што ён беларускі паэт і гэтага зь яго хопіць. Ува ўсялякай грамадзкай справе ён быў адным зь першых. Ён браў беларускае жыцьцё ўва ўсім разрэзе і ў кожнай галіне, дзе трэба было падтрыманьне, быў чынным...»

Пасьля заканчэньня Ўнівэрсытэту Вінцэнт працаваў вучыцелем у Вільні. Колькі дзён пасьля акупацыі Чырвонай Арміяй Вільні Вінцэнт быў арыштаваны НКВД, перавезены ў Беласток, а потым у турму ў Вялейку. Знаходзіўся ў ёй з красавіка да 27.12.1939. Гэтым жа часам у Вялейцы ў рэдакцыі газэты «Вялейская праўда» працавалі Натальля Арсеньнева, Мікола Шыла й Максім Танк. Вось такі супадак — сюжэт для апавяданьня. Ці ведалі Натальля й Мікола пра гэта тады? Хутчэй за ўсё — не. 13.03.1940 была арыштавана й Натальля Арсеньнева.

27.12.1939 Вінцэнт быў перавезены ў Менск, а вясною 1940 г. — яго павязьлі ў Полацак (Вінцэнт Жук-Грышкевіч: «Цягнік затрымаўся на станцыі майго роднага Будслава, я бачыў здалёк, як праходзілі знаёмыя мне будслаўскія жанчыны й дзяўчаты»).

Затым Вінцэнт пакутаваў у савецкіх лягерох. Пасьля амністыі ваяваў у Арміі Андэрса ў Эгіпце й Італіі. У 1946 годзе арганізаваў першую пасьля вайны на эміграцыі беларускую арганізацыю — Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі... Зьяўляецца адным з арганізатараў і першым дырэктарам Беларускай сэкцыі радыё Вызваленьне ў Мюнхене (20.05.1954 выйшла яе першая перадача на Беларусь). Вінцэнт Жук-Грышкевіч: «Вызваленьне! — гэта наш кліч і мэта, гэта назоў, пад якім мы прамаўляем да Вас сёньня і прамаўляць будзем кажны дзень...»

Потым Вінцэнт пераехаў у Таронта, у Атаўскім унівэрсытэце абараніў дысэртацыю («Лірыка Янкі Купалы»), стаў доктарам філязофіі ў галіне літаратуры.

У 1971-1982 Вінцэнт выконваў абавязкі старшыні Рады БНР. Вінцэнт Жук-Грышкевіч: «Палітыка дзьвюхмоўя з падспудным канцэптам расейскае мовы, як другое «роднае мовы» беларуса —нічога іншага, як фігавы лісток вялікадзяржаўнага шавінізму, за якім хаваецца тэндэнцыя перацягваньня беларусаў да расейскага аднамоўя... Паратунак... ёсьць толькі адзін —бескампрамісная барацьба. Мы можам лічыць на дапамогу вольнага сьвету, калі самі будзем дружна змагацца. У змаганьні за вызваленьне нашай Бацькаўшчыны з маскоўскага ярма мы павінны браць удзел дружна й вытрывала ЎСЕ ЯК АДЗІН, УСЕ БЕЛАРУСЫ БЯЗ РОЗЬНІЦЫ ВЕРЫ, ПОГЛЯДАЎ І ПЕРАКАНАНЬНЯЎ».

Памёр Вінцэнт 14.02.1989, пахаваны ў Нью-Браўнсвіку, ЗША.

**МАЛАЧАЙ**

*(На сьмерць сябры юнацтва)*

*Памёр... няма... і анідзе ў сьвеце*
*не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,*
*хай восень зноў спляце нам залатыя сеці,*
*хай зазяленяцца ўзноў вясновыя лагі.*
*Якое слова дзіўнае, няўцямнае — «ніколі»,*
*якое жудаснае слова — «анідзе»,*
*як замірыцца з тым, што ня сустрэцца болей*
*нам у жыцьці з Табой ні ў шчасьці, ні ў бядзе?*

*Любіў і Ты, — як я, — блукаць па peралесках,*
*спыніцца ў гушчары, скамечыць мох мяккі,*
*яшчэ й яшчэ чытаць ад крэскі й да крэскі*
*баляды, што дубы зьбіралі праз вякі,*
*а там ужо зьмярканьнем, выйсьці ў поле*
*і жыць, як казалі нам, малым: «як набяжыць»,*
*не крыўдаваць, калі нас часта хтось і ўколе,*
*ні, — абы што, — хапацца за нажы.*

*Мой сябра дарагі! Нялёгкімі гадамі*
*нам давялося жыць, відаць, наш Кон такі.*
*Ды мы брылі. Ступой ішоў і Кон із намі,*
*аж запыніў Цябе кіўком рукі.*
*Стаю... ужо адна... Скрозь — тае сьнег счарнелы.*
*Журчыць ў раўчаку ручай... Ну, што-ж, бывай!*
*Ужо мо'й там, дзе Ты, тчэ парасткі нясьмела*
*прадвесьнік весьніх дзён — зялёны малачай!*

*Натальля Арсеньнева 1989 г.*

**Паўліна Мядзёлка**

Адна з самых прыгожых і таямнічых постацяў Адраджэньня. Гэта ёй гаварыў Купала: «Паўлінка, давай мы з табой пажэнімся. Разьдзялі ты са мной долю і нядолю». А ў 1930 годзе пераслаў у Казань:

*Сьнілася дзяўчыне квецістае поле,*
*а наяве выйшла — палыны, гугольле.*
*Сьнілася дзяўчыне воля і багацтва,*
*а наяве выйшла — няволя, жабрацтва.*
*Сьнілася дзяўчыне дома жыць да сьмерці,*
*а наяве выйшла — ў чужыне памерці.*

Акторка, дзеячка беларускага нацыянальнага руху, адна зь першых выканаўцаў ролі Паўлінкі (9 лютага 1913 г., Пецярбург). Стваральніца харавых гурткоў у Горадні (1919), Дзьвінскай Беларускай Гімназіі (1922-25), Горацкай Сельскагаспадарчай Акадэміі (1927-30), Будславе (1947-58). Працавала ў Інбелкульце, Горацкай сельгасакадэміі (разам з Гарэцкім). Арыштаваная ў 1930 годзе па справе СВБ. Высланая ў Казань. Восеньню 1933 пераехала ў Маскву, у 1947 пераехала ў Будслаў да маці, дзе да 1958 году працавала настаўніцай, памёрла 13.02.1974 г.у Будславе, дзе і пахаваная.

Паўліна Мядзёлка: «Вясной 1947 г. памёр мой бацька ў Будславе. Мама засталася адна. Забраць яе к сабе ў Маскву я не магла — ня мела сваёй жылплошчы, проста занядбала паклапаціцца аб гэтым... Трэ было мне пераяжджаць у родны кут, каб даглядзець матку на старасьці год. Аднак і боязна было, каб горшай бяды не нарабіць ёй сваім пераездам. Адведваючы год таму назад бацькоў, бачыла, што там ня вельмі спрыяльная атмасфэра для мяне. Культаўскія парадкі ў Будславе моцна адчуваліся. Сёй-той ведаў там, што я ў 1930 годзе была арыштаваная й высланая ў Казань. Яшчэ не забыліся пра так званую «нацдэмаўшчыну». І калі што-небудзь зноў там са мной здарыцца, матка не перажыве гэтага або з торбай за плячыма пойдзе па вёсках жабраваць...

Я ўсё ж рашыла вярнуцца на бацькаўшчыну, да маткі... Летам 1947 году ў часе канікул я пераехала ў Будслаў. Праз Маладзечанскае аблано атрымала назначэньне ў Будслаўскую сярэднюю школу як выкладчыца мовы і літаратуры.

Што сабой уяўляла насельніцтва Будслава і навакольных вёсак? Трэба ведаць, што Будслаў знаходзіўся ў Заходняй Беларусі, 20 гадоў пад панска-польскім прыгнётам. У самым мястэчку стаяў вайсковы гарнізон. Шмат хто з афіцэраў і падафіцэраў пажаніліся зь мясцовымі дзяўчатамі і пасьля дэмабілізацыі асядалі тут. Праўда, была ў гэты час і тут група беларускіх патрыётаў. Не зважаючы на вялікія перашкоды з боку польскай улады, усё ж быў арганізаваны хор і драмгурток, ставіліся беларускія песьні (Адкуль? У канцы 1917 году пры Будслаўскай беларускай гімназіі быў заснаваны культурна-асьветніцкі гурток «Вяночак». Драматычная сэкцыя гэтага гуртка ладзіла ў мястэчку спэктаклі «Паўлінка», «На рэвізіі»,»Як яны ажаніліся» й іншыя). У часе нямецкай акупацыі ў Будславе зьмяшчаўся нямецкі гарнізон, які, як і палякі, старанна праводзіў антысавецкую агітацыю, дэмаралізаваў, дэнацыяналізаваў насельніцтва. У часе Вялікай Айчыннай вайны тут апрача праўдзівых савецкіх партызанаў гойсалі шматлікія банды, якія пад выглядам партызанаў рабавалі, зьдзекваліся з народа. Самі немцы стваралі такія банды, каб выклікаць у насельніцтва нянавісьць да партызанаў. І ня дзіва, што ў першыя гады пасьля вайны мне часта даводзілася чуць слова «партызан» як самую ганебную лаянку. А ў 1946 годзе пачалася вярбоўка мясцовых жыхароў у заходнія землі Польшчы, зь якіх павыганялі немцаў. Самі палякі не хацелі, мо баяліся займаць пакінутыя немцамі землі, а нашы, адны ўцякаючы ад «Саветаў», другія — спакусіўшыся на дармавую зямлю, на добротныя збудаваньні з усім сельскагаспадарчым абсталяваньнем, мэблямі і нават посудам, выяжджалі цэлымі эшалёнамі. Павыяжджалі і тыя беларускія «патрыёты», якія яшчэ пры польскай акупацыі тут былі. Вакуум пачалі запаўняць людзі з усходу, якіх тыя, што засталіся тут, называлі зь непрыязьню «васточнікамі».»

**Эдвард Будзька**

Разам зь Цішкам Гартным выдаваў «Дзяньніцу», у якой зьмяшчаў свае творы пад псэўданімам «Акцюг». Потым самастойна ў 1916 годзе выпускаў «Сьветач», дзе зьмясьціў мноства публіцыстычных артыкулаў. У 1922 годзе друкаваўся ў «Нашай будучыні», у 1921-22 гг. кіраваў беларускімі настаўніцкімі курсамі ў Дзьвінску (у той жа час тамсама працавала і Паўліна Мядзёлка). Жыў у Рызе і Коўне. У Другую сусьветную вайну працаваў настаўнікам у Менску і Баранавічах. Пасьля вайны жыў у Нямеччыне і ЗША. Памёр 14.8.1958 у Чыкага.

**Мікола Шыла**

Працаваў рэдактарам віленскіх газэтаў: «Змаганьне» (28.10.1923 — 31.1.1924), «Голас Беларуса»(14.2 — 19.4.1924), пасьля закрыцьця апошняй быў зьняволены ў турму. Пасьля савецкай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў у рэдакцыі (разам з Максімам Танкам і Натальляй Арсеньневай) вялейскай абласной газэты «Вялейская праўда» (паводле іншых зьвестак — «Сялянская газэта») у 1939 г. Далейшы лёс невядомы.

**Язэп Васілевіч**

Скончыў настаўніцкую сэмінарыю, Маскоўскі археалягічны інстытут. У 1917 — адзін зь лідэраў Беларускай Народнай Грамады. 1917-1920 — дырэктар Будслаўскай Беларускай Гімназіі. Пасьля яе закрыцьця — з 1921 г. — дырэктар Белпэдтэхнікума ў Менску, выкладчык археалёгіі ў БДУ. З 1924 г. — дырэктар музэю ў Віцебску. У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюзу Вызваленьня Беларусі», у 1931 г. высланы. Памёр у Башкірыі.

Вось такое жыцьцё, вось такія крыжаваньні шляхоў.

Дарэчы — ужо ў іншы час, у іншай краіне ў Будслаўскай школе вучыўся Славамір Адамовіч. Але гэта ўжо новая гісторыя...

*Крыніцы:*
*1. Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. — Таронта: Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага жыцьця, 1993.*
*2. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. 25-га сакавіка. Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы. — Таронта: Выдавецкі фонд Успамінаў зь Беларускага жыцьця, 1978.*
*3. Паўліна Мядзёлка. Сьцежкамі жыцьця // Полымя. № 2-5, 1996.*

**Алесь Хацяновіч**

СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Станіслаў Жукоўскі. Інтэр'ер

У 10-я гады XX стагодзьдзя ў эўрапейскім жывапісе нацюрморт, як ніколі раней, набыў сваё апрычонае гучаньне, выяўляючы вельмі эмацыйнае ўспрыманьне натуры мастакамі. Менавіта нацюрморт, як некалі ў жывапісе малых галяндцаў, стаў неад'емнай часткаю інтэр'ераў, пэйзажаў, партрэтаў. У адначасьсе прадметы зажылі сваім жыцьцём, па-за сыстэмаю сувязяў з канкрэтнымі асобамі. Мастакі, без увагі на пэрсанальныя густы й кшталты, імкнуліся злучыць у адно, у больш складаную, дыялектычную канструкцыю нацюрморт, пэйзаж і інтэр'ер. Нараджаўся новы жанр. Яму было наканавана стаць яшчэ адным крокам да разбурэньня ўсялякіх жанраў...

...Злучэньне ў адно пэйзажу, нацюрморту й інтэр'еру — адна з самых вымоўных тэндэнцыяў і ў мастацтве Расеі 10-х гадоў. Рэй у гэтай міжжанравай камбінаторыцы вёў напачатку Канстанцін Каровін, адзін з настаўнікаў Жукоўскага. Ягоная імпрэсіяністычная манера дасягнула найвышэйшага ўзьлёту менавіта ў гэтай галіне... Букет ружаў у кантражуры шалёных сонечных прамянёў на тле марскога краявіду — гэта пакуль толькі аповяд пра радасьць існасьці... Кампазыцыйныя прыёмы Каровіна падхапілі і беларусы — Жукоўскі з Дабужынскім. Нацюрморт на вакне, нацюрморт у контражуры на тле краявіду... Падобных работаў у Станіслава Жукоўскага ў тыя гады было ўжо дзясяткі. Праўда, усё далей яны адыходзілі ад імпрэсіянізму. Рэчы ў супастаўленьні з прыродай набывалі ўсё болей сымбалізму, кантраставалі зь ёю... Сама манера (ды й задачы) збліжалі яго з мадэрнам. Урэшце, ён стаў майстрам інтэр'еру, сапраўды, чыста ў дусе мадэрну. У гэтым жанры ён зрабіў тое, што ў свой час для Расеі зрабіў Ян Хруцкі — запачаткаваў жанр нацюрморту...

...Станіслаў Жукоўскі нарадзіўся ў фальварку Ендрыхавічы, на Гарадзеншчыне, прынамсі гэтак пішуць ягоныя біёграфы. Сам мастак у сваёй аўтабіяграфіі асобна падкрэсьліваў, што ягонае дзяцінства прайшло ў вёсцы Стараволя, што каля Пружанаў (у той час — у складзе Гарадзенскае губэрні). Бацькі здолелі выправіць яго на вучобу ў Польшчу. Тут, у Варшаве, ён атрымаў сваю першую адукацыю ў клясычнай гімназіі Лугоўскага. Пазьней ён пераехаў назад, да сваякоў у Беласток, дзе скончыў рэальную вучэльню. Менавіта ў Беластоку Станіслаў Жукоўскі пачаў сваю мастацкую адукацыю пад кіраўніцтвам выкладчыка з вучэльні Южаніна, зь якім ён пасябраваў. Южанін, сам гадаванец Пецярбурскае Акадэміі мастацтваў, падрыхтаваў юнага мастака да далейшага навучаньня, дапамог з расейскаю моваю. У 1892 годзе Жукоўскі ўпершыню трапляе ў Расею, дзе да 1901 году займаецца ў Маскоўскай вучэльні жывапісу, скульптуры й дойлідства...

...Настаўнікамі Жукоўскага ў Маскве была слынная пляяда клясыкаў расейскага жывапісу: Каровін, Сяроў, Архіпаў, Левітан. Праўда, апошняга ён упарта ня згадваў у сваіх аўтабіяграфіях (у адрозьненьні ад савецкіх мастацтвазнаўцаў). Бадай, прычына была не ў антысэмітызьме... Ледзьве пачаўшы прафэсійную навуку, Станіслаў Жукоўскі бярэ ўдзел у 1895 годзе ў выставе перасоўнікаў. Гэта яшчэ мала пра што сьведчыць, бо хто тады толькі ня плішчыўся ў перасоўнікі... Аднак, у тым самым годзе ён атрымаў прэмію за свой пэйзаж «Травень», на конкурсе Таварыства пекных мастацтваў. А ўжо ў наступным годзе атрымоўвае наступныя дзьве прэміі за работы «Красавіцкі вечар» і «Восеньскай ноччу». Вось гэты посьпех сьведчыў пра большае. Слава ймкліва ўзносіла яго на сваіх лёгкіх крылах ад самага пачатку мастакоўскага шляху...

...У 1898 годзе Станіслаў Жукоўскі атрымоўвае вялікі срэбны мэдаль са званьнем кляснага мастака. Гэтае пашаны ён заслужыў за чарговы пэйзаж «Веснавая ноч», які, дарэчы, проста з выставы набыў слынны фундатар мільянэр Мамантаў. За ім усьлед некалькі краявідаў работы Жукоўскага купляе для сваёй галерэі Траццякоў... У чым сакрэт ягонае папулярнасьці ў тыя гады? Бо сапраўды, беларускаму шляхцюку 25 гадоў убіцца ў расейскі бамонд было, па меншае меры цяжка. Можна растлумачыць гэта, да прыкладу, наступным чынам — да яго ў расейскім мастацтве ніхто не пісаў шарае гадзіны. У Жукоўскага пэйзаж пераўтвараецца ў завязку нейкага аповяду, пачатак п'есы. Гасьне сонца, што закацілася за вершаліны дрэваў, недзе запаліўся агенчык, зараз загучыць голас ад аўтара... Ані шышкінскага натуралізму, ані левітанаўскае сэнтымэнтальнасьці.

Як і многія іншыя выхадцы са шляхецкіх сем'яў, ён аддаў належнае і рамантызму. Захаваўся ягоны шкіц «Паляваньне на зуброў у Белавескае пушчы», які зьберагаецца ў архіве Пецярбурскае Акадэміі мастацтваў. Разьятраны сьмяротна паранены зьвер-волат, гатовы рынуцца ў апошні двубой. За сконам магутнай істоты сочаць зьнямелыя паляўнічыя — расейскія вяльможы. Адносіны Жукоўскага з мастацкай Акадэміяй таксама склаліся. Ягоны пэйзаж, напісаны ў родных мясьцінах — «Нёман», быў дыплямаваны на акадэмічнае выставе, а за тым і набыты ў Акадэмію. І прызнаньне атрымаў, і патрыётам застаўся... Нягледзячы на тое, што Жукоўскі ня могучы кінуць сваіх сяброў у Расеі на стала жыў у Маскве, ён па-ранейшаму рэгулярна наведваў бацькоўскі край, дзе і пісаў свае славутыя пэйзажы: «Восеньскі вечар», «Ветрана», «Плаціна», «Ельнік» (чамусьці ён любіў менавіта яліны, дзе «д'яблу душу прадаваць») і шмат, шмат нёманскіх краявідаў...

У 1907 годзе Станіслаў Жукоўскі атрымоўвае званьне акадэміка. З гэтай прапановаю выступілі Цьвяткоў, зямляк Крыжыцкі і Куінджы, які хоць і быў грэкам, але меў невытлумачальны сэнтымэнт да беларусаў — Рушчыца, Туржанскага і Жукоўскага. Беларусы, дарэчы, плацілі старому Куінджы ўзаемнасьцю і ягоны творчы ўплыў на іх быў невыпадковым. Крыху пазьней Жукоўскаму, у 1910 годзе, была ўручаная ганаровая прэмія імя Куінджы, за славутае палатно «Плаціна», якое шматкроць экспанавалася. Гэты твор ці ня самы клясычны ўзор імпрэсіяністычнасьці ў беларускім мастацтве. Вучань Каровіна і Архіпава, Жукоўскі арганічна падхапіў іхняе захапленьне імпрэсіянізмам. Напачатку 10-х гадоў гэта выявілася ў поўную сілу...

...Напрыканцы 1900 — у пачатку 10-х менавіта тая група беларускіх мастакоў, якія гадаваліся ў Маскоўскай вучэльні жывапісу, скульптуры і дойлідства, задавалі тон у пэйзажным жывапісе з імпрэсіяністычным «ухілам» — Бялыніцкі-Біруля, Пятровічаў, Туржанскі і Жукоўскі... Сярод гэтае кампаніі Жукоўскі, у тыя гады рэзка вызначыўся большай пасьлядоўнасьцю ў памкненьні авалодаць мажорным, сьвежым успрыманьнем натуры, імітуючы на беларускай глебе французскую манеру. Раптам ягоныя палотны засьляпіла сакавіцкае сонца, кобальт восеньскага полудня, зіхоткае зьзяньне лілёвых ценяў... З таго пэрыяду ягонае палатно «Парк агаляецца» з шалёна-белымі сьценамі нейкае сядзібы, бадзёры прахалодны паўнацюрморт-паўінтэр'ер «На вэрандзе» з залатымі хрызантэмамі на белым стале ў стракаценьні сініх ценяў, «Вёска на беразе возера» са шчыльнай сьвінцовай вадою й бездакорна чыстым паветрам... Па-сутнасьці, ён быў першым, і застаўся апошнім імпрэсіяністам у Беларусі, як Каровін у Расеі...

...Частыя выцечкі з Масквы ў Беларусь сталі для Жукоўскага невычэрпнаю тэмаю. Настальгічнай, фізыялягічна-патрыятычнай, абсалютна здароваю тэмаю. У гэтых пераездах ён піша шмат, шмат эцюдаў, якія пазьней пераўтвараліся ў славутыя палотны. І ўжо цяжка распазнаць ці гэта Панямоньне, ці Падняпроў'е, ці напісана гэта пад Менскам ці пад Смаленскам. Але гэта ўсё недзе пабач, трывіяльная нечаканасьць... «Белы дом», «Веснавая дарога», «Веснавая вада», «Вялікая дарога», «Стары дом» — гэтыя карціны мелі нязьменны посьпех. Працы Жукоўскага куплялі ўсе вядомыя ў Расеі фундатары і калекцыянэры: Рабушынскі, Мамантаў, Марозаў, Траццякоў...

...Прыходзіла й эўрапейская слава. Вядома, што Жукоўскі экспанаваўся і ў эўрпейскіх салёнах. Праўда, там больш дзівіліся ягоным раньнім рэчам, напрыклад «Восеньскай ночы». За палатно «Веснавы вечар», напісанае ў 1909 годзе, ён у 1912 атрымоўвае залаты мэдаль у Мюнхене...

...Пакрысе чыста пэйзажныя матывы ў Жукоўскага ўсё часьцей саступаюць месца інтэр'еру з элемэнтамі нацюрморту й пэйзажу. Клясычным ягоным палатном стаў «Радасны травень», напісаны ў 1912 годзе. Гэты твор, які захоўваецца ў Траццякоўцы, шматкроць рэпрадукаваўся... Тыповы інтэр'ер беларускага шляхецкага дому: сьветлае габляванае бярвеньне нешаляваных сьценаў, па якіх разьвешаныя старасьвецкія партрэты (натуральна, у залачоных рамах). На падваконьні — скрыня зь пяшчотнымі пралескамі. За вакном — расквечаны сонцам сад. Крыштальныя промні маладога веснавога сонца шчодра разьліваюцца па пакоі...

Першая сусьветная вайна зьмяніла шмат, зьмяніла многіх. У шале сацыяльных катаклізмаў людзі хапаліся за розныя ідэі, намагаючыся хоць нешта захаваць сваё. Экзальтаванасьць грамадзкае думкі перакідвалася на мастацтва, як іскра на ільняную кастру. «Той не мастак, хто на бліскучым яблыку, пакладзеным для нацюрморту, не пабачыць павешаных у Калішы. Можна не пісаць пра вайну, але Трэба пісаць Вайною,» — гэтак казаў у тыя гады Маякоўскі. Жукоўскі рушыў далей — ён пачаў пісаць тое, што баяўся згубіць, і што гінула ў Беларусі незваротна. Родны край, у якім засталіся бацькоўскія маёнткі, радавое котлішча, былі бязьлітасна адрэзаныя ад яго. Прадчуваньне немінучага канца таго сусьвету, у якім ён вырас, і куды марыў вярнуцца, сусьвету старасьвецкіх шляхецкіх фальваркаў сярод пушчаў, штурхала яго да працы. У тыя гады ён піша дзясяткі інтэр'ераў. Залітыя сонцам пакоі, камінныя залі, гасьцёўні, распахнутыя насустрач крэўнаму паветру вокны й дзьверы... Напісаныя па памяці, яны ўжо апавядалі пра нешта зусім інтымнае, мройнае. Пір падчас чумы? Нежаданьне мірыцца з рэчаіснасьцю? А ці варта зь ёй мірыцца?

У 1916 годзе ён піша свой славуты «Інтэр'ер». Сухая, рэгістратарская назва на дзіва неадпаведная палатну, дакладней, ягонаму духу. Па сваёй апавядальнасьці яно блізкае да ягоных раньніх краявідаў і нацюрмортаў. Раніца... Усе, бадай, яшчэ сьпяць. Хораша, сьвежа й ціха. У расчыненым вакне — у эўфарыі зялёнага шалу заходзяцца дрэвы густых прысадаў. Паўсюль скачуць пералівістыя, сонечныя плямы. Па пяшчотна-салатовых шпалерах тускна зьзяюць старыя рамы партрэтаў, старых, стускнелых родных партрэтаў... Блакітны ядваб канапы. Фатэлі, мяккія й ўтульныя. Няма раскошы, але выключны густ. Няма пэрсанажаў, а апавяданьне можа быць... Ці было гэтак у Ендрыхаўцах ці ў Стараволі? Так павінна было быць. Родны дом, радасьць вяртаньня. Ягоны «Інтэр'ер» — гэта рупліва вывераная, пралічаная кампазыцыя. Тактоўна падабраныя фарбы. Сама манера пісьма ў гэтым палатне Жукоўскага ўжо не выдае на імпрэсіянізм. Імпрэсіянізм — не фантазія.

Гэтым палатном Жукоўскі фактычна сьцьвердзіў жанр інтэр'еру, як паўнавартаснага мастацкага жанру, празь які можна выявіць гэтаксама столькі пачуцьцяў, колькі іх ёсьць у мастака. Бадай, на ім гэты жанр і скончыўся.

Пасьля ўсталяваньня бальшавіцка-польскага міру, Жукоўскі вяртаецца на радзіму. Назаўсёды. Ён вяртаецца разам з блізкім сябрам, земляком, Мар'янам Лялевічам, выбітным пецярбурскім архітэктарам. Тут, дома, мроі адступаюць. Бацькоўскія маёнткі парабаваныя. Доўгія спробы неяк адрадзіць гаспадарку плёну не далі. Ён прадае землі й пераяжджае да Лялевіча ў Варшаву. Доўгі час ён жыве на вуліцы Кошыкавай. Тут быў плён у мастацтве, да якога ён ізноў вяртаецца пасьля доўгага перапынку. Шматлікія інтэр'еры і краявіды Палесься й Панямоньня прынесьлі яму славу і ў Варшаве.

У 1944 годзе сябра Жукоўскага, Мар'ян Лялевіч загінуў падчас Варшаўскага паўстаньня. Празь некалькі месяцаў памёр пад Варшаваю і мастак.

**Сяргей Харэўскі**



**СТАНІСЛАЎ ЖУКОЎСКІ** (фальварак Ендрыхаўцы, Ваўкавыскі павет, 1873 – Варшава, 1944) жывапісец, пэдагог. Скончыў Маскоўскую вучэльню жывапісу, скульптуры і дойлідства ў 1901 годзе. З 1907 – акадэмік Расейскае Акадэміі мастацтваў.

**У ПАПЯРЭДНІХ НУМАРАХ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ТВОРЫ:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская Опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску:

# З ГЛЕДЗІШЧА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ІНТАРЭСАЎ

Працяг са старонкі 1.

Нацыянальныя беларускія інтарэсы ў акупаванай Беларусі часоў II сусьветнай вайны. З такога гледзішча першы аб'ект нашай пераацэнкі — гэта ідэалягічны стэрэатып пра непагрэшнасьць савецкага партызанскага руху. Інсьпіраваная і кіраваная з Масквы, гэтая партызанка менш за ўсё дбала пра беларускія нацыянальныя інтарэсы. Рэйкавая вайна ня толькі і, магчыма, ня столькі падрывала тылы гітлераўскае арміі, колькі правакавала фашыстаў на помсту, на спаленьне беларускіх вёсак разам зь мірнымі жыхарамі. У апошнія гады ў прэсе можна было прачытаць зьвесткі пра тое, што і савецкія партызаны «грашылі» спаленьнем вёсак ды зьнішчэньнем мірных жыхароў. Гэтак мы набліжаемся да высновы, якую


Афіцэр СС узнагароджвае сялянаў.

ўжо зрабілі эміграцыйныя гісторыкі — у акупаванай Беларусі змагаліся між сабою дзьве ідэалёгіі — нямецкі фашызм і расейскі камунізм. І рэч нават ня ў тым, што яны нам былі чужыя, а ў тым, што абсалютна чужыя для іх мы, беларусы.

Другая тэма, якая нарадзілася зь пераасэнсаваньня вайны, — гэта спробы нацыянальнага будаўніцтва на акупаванай беларускай тэрыторыі. З шматлікіх успамінаў апошніх гадоў мы ўжо ведаем пра шырока разгорнутае па ўсёй краіне беларускае школьніцтва, якое, як правіла, імкнулася пазьбягаць у навучальным працэсе ідэалягізацыі — савецка-сталінскай, зразумела, ды й нямецкай таксама. Вучыліся па дасавецкіх падручніках Тарашкевіча, Смоліча, Гарэцкага. Вывучалі забароненыя ў БССР творы Багушэвіча, Купалы, Багдановіча. Простыя вясковыя школкі, дзе зь дзецьмі гаварылі на іхнай мове, часта рабіліся аб'ектам нападаў савецкіх партызанаў. Настаўнікаў партызаны забівалі.

Звычайна, пішучы пра беларускіх калябарантаў пад нямецкай акупацыяй, згадваюць набліжаную да нямецкага камандаваньня адміністрацыю, пра Беларускую Краёвую Абарону, Саюз Беларускай Моладзі, беларускія газэты, што выходзілі за нямецкія грошы. Усё гэты было антысавецкае, часта пранямецкае, але заўсёды і перадусім — беларускае. Радзей згадваюць пра незалежніцкія, г.зн. антынямецкія і антысавецкія адначасова арганізацыі і пра харытатыўны рух. Што да школьніцтва, якое ў гэтым шэрагу займае першае месца, то менавіта яно сталася найвялікшай кузьняй маладзёжнага беларускага падпольля пасьляваенных гадоў. Тысячы, а можа й дзясяткі тысяч удзельнікаў гэтага няўзброенага супраціву, адно за свае патрыятычныя пачуцьці былі расстраляныя або трапілі ў ГУЛАГ.

Сёньня пра ўсё гэта пішуцца артыкулы і кнігі, паўстае зусім іншы, вельмі складаны, але рэалістычны вобраз вайны і акупацыі. Вобраз, які паддаецца дакумэнтальным пераправеркам і ад гэтага становіцца ўсё больш аб'ектыўным.

Менавіта дзеля аб'ектыўнасьці мы мусім зноў зьвярнуцца да часоў акупацыі і адказаць на пытаньне: ці выяўляліся і ў чым беларускія нацыянальныя інтарэсы ў дзейнасьці савецкіх партызанскіх атрадаў на тэрыторыі акупаванай Беларусі?

Прыватныя выпадкі нацыяналізму і прыватныя нацыянальныя ініцыятывы ў асяродку савецкай партызанкі (кшталту атрадаў імя Каліноўскага або баявога лістка па-беларуску) ніяк не складаюцца ў тэндэнцыю. Яны выключныя і толькі падкрэсьліваюць агульнае правіла: савецкая партызанка была антыбеларуская паводле сваёй сутнасьці, ніяк ня менш антыбеларуская за гітлераўскі фашызм. Але, калі так, то якім чынам мы мусім разглядаць беларускую савецкую культуру, якая непадзельна стаяла і стаіць на баку савецкае партызанкі? Гераізацыя апошняй стала паветрам літаратуры. Геараізацыя ворага стала законам роднае літаратуры! Тысячы пісьменьнікаў, як зрэшты і мастакоў, музыкаў стварылі нацыянальны эпас савецкае партызанкі, імкнучыся зрабіць яго тоесным уласна беларускаму нацыянальнаму эпасу. Больш за тое, вобраз беларуса быў надоўга і трывала прывязаны да вобраза партызана.


Гаўляйтар Кубэ зь сялянамі.

Дарэчы, калябаранты на баку фашыстаў не стварылі нават спробы такога эпасу, я ўжо не кажу пра гераізацыю мужнага германца, які ратуе Эўропу ад бальшавіцкага нашэсьця.

Што ж адбылося? Нацыянальная культура ня толькі адарвалася ад нацыянальных інтарэсаў, але й апела інтарэсы антынацыянальныя. Выключэньне склалі пісьменьнікі ўсесаюзнага маштабу, якіх гэты маштаб і выратоўваў. Урэшце ваенны эпас Быкава знаходзіцца ў тым самым рэчышчы, што і «Каханы горад» Юстапчыка — першы беларускі эпічны твор пра вайну, напісаны, калі заўгодна, на тым баку лініі фронту. Праўда, як кажуць, перамагае. І перамагае яна ня толькі савецкую ідэалёгію, ня толькі стэрэатып савецкага партызана-героя, але й беларускую савецкую культуру, якая ўступіла была зь ёю, з праўдай, у супрацьстаяньне. І тут я зусім блізкі да ключавое высновы пра тое, што праўда перамагла саму беларускую мову, зьнявечаную бальшавіцкай рэформай 33-га году і пастаўленую на службу гераічнаму эпасу пра савецкіх партызанаў і калектывізацыю.

На бок савецкай партызанкі, г.зн. супраць нацыянальных інтарэсаў устала ўся дэфармаваная беларушчына: дзяржаўная ідэалёгія, нацыянальная адукацыя, навука і культура. Недэфармаваная беларушчына: этнічныя традыцыі, свая гістарыяграфія, скарбы нашаніўства, — усё гэта, што выжыла, апынулася па той бок лініі фронту, г.зн. у падпольлі або ў эміграцыі.

Фактычна Беларусь у мінулую вайну перажыла падвойную акупацыю з боку дзьвюх варожых сілаў, якія адмаўлялі нам у нашых нацыянальных інтарэсах. Савецкая акупацыя перамагла і кіравала жыцьцём краіны ледзьве не да апошніх дзён. Сёньняшняя дзяржава імкнецца працягваць традыцыі савецкай партызанкі. Гэта значыць, што савецкая акупацыя, якая перамагла нямецкую ў 44-м годзе, працягваецца.

Дзеля доказу дастаткова згадаць, што ўсё нашае жыцьцё дагэтуль пранізанае гіганцкім павучыньнем КГБ. КГБ — гэта чыста акупацыйны арганізм, які ніколі ня ўлічваў беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Ня дзіва, што ва ўсіх краінах, якія вызваліліся з-пад савецкае акупацыі, першым чынам выдалялася менавіта гэтая ракавая пухліна. Замест яе паўсюль былі створаныя новыя органы бясьпекі, чыя дзейнасьць грунтуецца якраз на абароне нацыянальных інтарэсаў. І бадай толькі ў Беларусі гэтая пухліна не выдалялася. Яна працягвае стаяць на варце інтарэсаў імпэрыі, якой няма.

Ніхто ня ведае колькасьці супрацоўнікаў КГБ, ніхто не патрапіць у архівы гэтае арганізацыі. Між тым няма ў Беларусі чалавека — малога або дарослага, прафэсара ці селяніна, які б увесь час не знаходзіўся пад пільным наглядам асьведамляльніка.

Некалі, дасьць Бог, усё ж адкрыюцца архівы і мы многае зразумеем, у тым ліку


Адпраўка атрадаў СБМ.

і ў сучасным палітычным жыцьці, у няўдачах апазыцыі. Я думаю, гэта будзе эфэкт перагорнутага айсбэрга. Калясальная і нечаканая праўда стане канцом савецкае акупацыі ў Беларусі. У гэтага Кашчэя раптам зьявіцца сьмертаносны для яго кантэкст. Ён будзе блытаны-пераблытаны,

# УСЕВАЛАД РОДЗЬКА

Калі аналізуеш дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў падчас Другой сусьветнай вайны, нярэдка ловіш сябе на думцы: Як? Калі яны пасьпелі арганізавацца? Адкуль браліся сілы і людзі?!.. Украінскі нацыянальны рух Супраціву стварыўся на аснове арганізацыяў і фармацыяў, якія дзеялі ўсе міжваенныя гады. Беларускі нацыянальны Супраціў, як і нацыяналістычны рух арганізаваўся фактычна ўжо падчас нямецкай акупацыі.

Гісторык Анатоль Бадулін у сваім тэндэнцыйным артыкуле «Националист — это человек, сделавший уверенный шаг к фашизму» (Советская Белоруссия, № 115, 20 чэрвеня 1996 г.) сьцьвярджаў, што:

«узьнікненьне ідэалёгіі беларускага нацыяналізму адносіцца да 1940 году, калі на тэрыторыі Польшчы (акупаванай немцамі) ў колах беларускіх нацыяналістаў... узьнікла думка пра стварэньне нелегальнай арганізацыі... — «АБН»(Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў, паводле Ю. Туронка — Партыя беларускіх нацыяналістаў - С. Ё.)». Сапраўды, менавіта ў акупаванай гітлераўцамі Варшаве ў 1940-41 гадах стварыўся кіруючы цэнтар Беларускага нацыянальнага Супраціву. Адным зь яго лідэраў стаў 20-гадовы Ўсевалад Родзька.

Ус. Родзька нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Чучэвічы Лунінецкага павету ў сям'і Філарэта і Веры Родзькаў. Яго бацька — настаўнік, які паходзіў зь вёскі Вераскава на Наваградчыне, у Першую сусьветную вайну быў мабілізаваны ў расейскую армію, стаў афіцэрам. З 1918 году Філарэт Родзька настаўнічаў на Мазыршчыне, дзе й ажаніўся з таксама настаўніцай Верай Гулевіч. У 1920 годзе, магчыма, з войскамі генэрала Булак-Балаховіча, яны ўцякаюць ад бальшавікоў на Наваградчыну, у Вераскава. Відаць, па дарозе дахаты, на Лунінеччыне, і нарадзіўся ў сям'і Родзькаў хлопчык, якому бацькі далі імя Ўсевалад. У 1934 годзе ў Наваградку польскімі ўладамі была зачыненая беларуская гімназія. Яе навучэнцаў залічылі ў мясцовую польскую гімназію імя А. Міцкевіча. Сярод беларусаў, якія туды трапілі, былі й будучыя вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі: Барыс Рагуля, Язэп Сажыч і Ўладзімер Набагез. Успамінае Б. Рагуля: «Нас, беларусаў, у гімназіі было пяцёх. У пятай клясе ўжо вучыўся Родзька, які быў запісаны расейцам. Але не яго гэта была віна, а бацькоў... У шостай клясе беларусамі сябе лічыла ўжо восем чалавек, у тым ліку і Ўсевалад Родзька. А гімназію скончыла 13 беларусаў... Родзька належаў да харцэрства г.зн. скаўтаў. Гэта была вельмі шавіністычная польская арганізацыя... Усевалад быў вельмі здольным і выбіраўся на камандзіра скаўцкай дружыны. Страшэнна здольны ён быў у мовах, гісторыі, а ў матэматыцы крыху слабейшы. У 1935 годзе быў нейкі «дзень калёніі» (Польшча дамагалася калёніяў). Выступае Родзька на сцэне: «Нам трэба калёніі!» Пасьля гэтага мы, Набагез і я, падыходзім да яго: «Каму патрэбны калёніі, табе? Хіба ты ў калёніі не сядзіш?!» Далі яму мы тады перцу так, што ён пайшоў і на беларуса перапісаўся: «Я ваш, я з вамі! — кажа. — Я хачу перайманць мэтоду Макіявэлі (тады мы вельмі захапляліся гэтым Макіявэлі). Я мушу ўбіцца ўверх, каб зьверху зрабіць беларускую справу». Я кажу: «Браток, гэта сьлізкая дарога. Можаш так узьлезьці, што й ня вылезеш пасьля. Мы калёніяў не патрабуем»... Нялёгка прыходзілася беларускім хлопцам бараніць свае нацыянальныя правы ў польскай гімназіі, але яны выстаялі. Пры гэтым ім удалося пазьбегнуць і камуністычнага ўплыву, захаваць свой нацыянальны накірунак. Б. Рагуля ўспамінае, што шмат беларускім гімназістам дапамог сэнатар Васіль Рагуля, які казаў: «Сацыялізм — гэта мост да камунізму. І паколькі ты ня хочаш пераходзіць на той бок рэчкі, дык ня лезь на мост!». Гэтак беларускія хлопцы саматугам захавалі сваю нацыянальную арыентацыю, яшчэ ня ведаючы, якую ролю ім давядзецца адыграць у беларускім руху праз некалькі гадоў... У 1938 годзе, пасьля матуры, Родзька, Рагуля і Янка Гутар зьбіраліся паступаць ва ўнівэрсытэт на мэдыцыну, але ў апошні момант іх мабілізавалі ў польскае войска. Рагуля і Родзька трапілі ў падафіцэрскую школу ў Замброў.

Трапіўшы ўвосень 1939 г. у нямецкі палон, Усевалад Родзька выйшаў на волю вясной 1940 году. Ён наладжвае кантакты зь Беларускім камітэтам у Варшаве, узначальвае яго кракаўскую філію. Менавіта ў гэты час праяўляецца ягоны талент арганізатара, самаахвярнасьць стойкага беларускага патрыёта. Яго заўважылі. Айцец Гадлеўскі паверыў маладому хлопцу й прыцягнуў Усевалада да падпольнай працы. Цяпер Родзька зь юнацкага «падпольля» ўваходзіць у сапраўдную канспірацыю. Ужо не было патрэбы «гуляць» з палякамі, бо пачыналася вялікая «гульня» зь немцамі, стаўкі ў якой былі вельмі вялікія.

Да сёньняшняга дня застаецца ня высьветленым да канца час узьнікненьня Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). Эміграцыйны гісторык Вацлаў Пануцэвіч лічыў, што яна ўзьнікла ў 1939 г. у Вільні й аформілася ў 1940-41 гг. у Варшаве. У большасьці іншых крыніцаў, у тым ліку і савецкіх, паведамляецца, што БНП арганізавалася ў 1942 годзе ў акупаваным немцамі Менску. Як бы там ні было, а ў 1940-41 гадах у Польшчы а. Гадлеўскі сфармаваў арганізацыйны цэнтар Беларускага нацыянальнага Супраціву. У найноўшай гісторыі хапае прыкладаў, калі сьвятары ачольвалі вызвольныя рухі. Напрыклад, у міжваенны час каталіцкі сьвятар Андрэй Глінка ачоліў славацкую нацыяналістычную партыю, якая выступала за стварэньне незалежнае славацкае дзяржавы (а. В. Гадлеўскі яшчэ ў 1936-39 гг. у Заходняй Беларусі кіраваў нацыяналістычным «Беларускім фронтам»). Падчас Другой сусьветнай вайны пасьлядоўнікі а. Глінкі ўтварылі шэраг патрыятычных ваенізаваных арганізацыяў, як «Глінкаўская моладзь», «Глінкаўская гвардыя» ды інш., якія складалі галоўную сілу вызвольнага руху.

У ліпені 1941 г. Усевалад Родзька, пры падтрымцы абвэру, зь якім супрацоўнічаў (гэта быў тактычны крок а. Гадлеўскага), стаў бурмістрам Віцебска. Ён паступова праводзіць беларусізацыю горада, з 1942 г. арганізоўвае выхад газэты «Беларуская Старонка», у якой часта выступае з публіцыстыкай і фэльетонамі. Аначасова Родзька праводзіць актыўную падпольную працу — выконвае інструкцыі а. В.Гадлеўскага. У жніўні 1941 года пры непасрэдным удзеле Родзькі была падрыхтаваная і праведзеная беларуска-украінская антыбальшавіцкая вайсковая апэрацыя на Палесьсі. І сёньня ўкраінскія гісторыкі пішуць пра гэтую вайсковую акцыю, у якой удзельнічала 10 тысяч жаўнераў Палескай Сечы Ўкраінскай Паўстанчай Арміі і 5 тысяч беларусаў зь Беларускае самаабароны, якая стыхійна ўзьнікла на пачатку вайны на Берасьцейшчыне й Піншчыне. У выніку апэрацыі пад беларуска-ўкраінскі кантроль была ўзятая вялікая тэрыторыя: ад Пінску да Мазыру і ад Слуцку да Сарнаў. Пазьней злачынная нямецкая палітыка змусіла гэтыя аддзелы ісьці ў лес і арганізоўваць нацыянальны партызанскі рух.

Аднак Родзька застаўся працаваць бурмістрам, што давала шмат магчымасьцяў у падпольнай працы. Праўда, ілюзіі наконт нямецкіх «вызваленцаў», якіх і так было ня шмат, хутка зьніклі. Пасьля гібелі Гадлеўскага ў катоўнях гестапа, Усевалад Родзька фактычна становіцца кіраўніком нацыянальнага антынямецкага падпольля ў Беларусі, а перадусім яго найбольш актыўнай часткі. У 22 гады! Бузумоўна, не хапала досьведу, верных сяброў і саюзьнікаў. Але Родзька знаходзіў выйсьце нават у самых безнадзейных сытуацыях. Патрэбна была зброя й ён браў яе ў абвэру, дзеля барацьбы з бальшавікамі. А хто яшчэ даў бы яе беларусам? Заходнія саюзьнікі? Усе спробы наладзіць зь імі кантакты ні да чаго не прывялі...

але надзвычай зразумелы і ясны. Гіпнатычны стан простае хлусьні зьменіцца празрэньнем складанае праўды.

Нарэшце, трэба сказаць і пра становішча мовы ў гэтым кантэксьце. Беларуская мова стала сымбалем савецкай калябарацыі, хоць паводле закону бутэрброда менавіта яе спрабавалі выставіць сымбалем калябарацыі нямецкай заўзятыя бээсэсэраўскія публіцысты. Вось на гэтым этапе яе лёс радыкальна разышоўся зь лёсамі суседніх моваў — польскай, літоўскай, нават украінскай. Яна стала ў чыстым выглядзе нацыянальнай мовай антынацыянальных інтарэсаў. Яна аддзялілася ад глебы і завісла ў паветры. Яна з усімі яе камісараўскімі правапіснымі рэформамі ператварылася ў зьяву, якая ў прынцыпе ня можа выклікаць сымпатыяў, а тым больш выхоўваць уласных абаронцаў. Вольна ці міжвольна, а народ меў гэта ў полі зроку. Вось адкуль бяруцца карані адмаўленьня бацькоў ад беларускамоўнага навучаньня для дзетак. Вось адкуль развагі пра несапраўдную, грубую і нічога ня вартую беларускую мову. ТАКУЮ мову нельга ані любіць, ані адстойваць, бо за ёй — пустка.

Падзякаваць за гэта мы мусім найперш закормленаму ў савецкія часы беларускаму пісьменьніцкаму цэху, калябаранцкай арганізацыі, якая стварыла калябаранцкую літаратуру. Сёньня іхнюю ролю з посьпехам працягваюць білінгвістычныя апазыцыйныя газэты і незалежныя выдавецкія прадпрыемствы, у кнігах якіх нават Ян Чачот і Вацлаў Ластоўскі гавораць з камуністычным пранонсам. Няхай усё гэта не непасрэдная справа рук КГБ, але ўсё гэта — непасрэдная справа КГБ. У савецкі час мы, антысавечыкі, маглі купіцца на беларускую мову, як сымбаль беларускіх нацыянальных інтарэсаў, і траплялі ў сьвядомасную пастку, у антыбеларускае паводле зьместу асяродзьдзе. Сёньня мы, антысавечыкі, набываем «Навіны» або «Народную волю» і трапляем у тую ж пастку антыбеларушчыны.

Калі скончыцца гэты падман? Толькі тады, калі савецкая партызанка і ўсё, што за ёй стаіць, а менавіта 70 гадоў нявечаньня ўсяго беларускага, 70 гадоў адкрытага цынізму і хлусьні, набудуць кантэкст. Няма сэнсу чакаць, пакуль дзяржава скасуе камуністычныя пастановы і прызнае варожую для нацыянальных інтарэсаў дзейнасьць савецкіх партызанаў. Яна гэтага ня зробіць ніколі, пакуль гэтага ня зробім мы самі.

**Сяргей Дубавец**

# «Партызанскія» фантазіі



Ібрагім Гэмбіцкі. Партызаны рэжуць правады. 1939.

У мастацтве вобраз Беларусі, як партызанскага краю, быў створаны яшчэ перад вайною, у 20-я гады. Змаганьне беларусаў з расейскімі белагвардзейцамі, немцамі й палякамі стала для мастакоў арганічнай тэмаю, якая ўважалася ці не за самую нацыянальную. Згадаем, што гэта былі часы беларусізацыі. На 3-яй Усебеларускай выставе 1929 году мастакі выставілі больш за 20 твораў, у назвах якіх было слова «Партызаны»...

Ужо тады, сярод гэтых твораў, зьявіліся і свае шэдэўры, якія сфармавалі амаль кананічную іканаграфію беларускай партызанкі — людзі ў сялянскіх уборах, падперазаныя кулямётнымі стужкамі, зброя ў руках, за поясам — сякера. Нават краявід падкрэсьліваў нацыянальную спэцыфіку — лес узімку, радзей ўвосень, але ні промня летняга сонца. І вось што цікава — вобразы партызанаў мусілі быць не канкрэтныя, а як бы зьлепленыя ў суцэльны вобраз беларуса наогул. Клясыкай сацрэалізму сталі «Партызаны» Гаўрылы Віера, «Партызаны» Міхаіла Эндэ, «Партызаны» Валянціна Волкава. Акрамя ўсяго іншага, вобраз беларуса-партызана, які супрацьстаіць чужынцам, быў спробаю засьведчыць суб'ектнасьць Беларусі ў падзеях XX стагодзьдзя.

Шмат паспрыяла фармаваньню партызанаманіі коласаўская аповесьць «Дрыгва», а вобраз яе героя дзеда Талаша ўспрымаўся як узор нацыянальнага мэнталітэту. Над ілюстрацыямі да «Дрыгвы» перад вайною працавалі беларускія мастакі — Мінін, Волкаў, Ціхановіч... Ці не найлепшымі з гэтых ілюстрацыяў сталі чатыры дрэварыты Ібрагіма Гембіцкага: «Засада», «Партызаны», «Гарыць маёнтак» і «Нашэсьце»... У 38-м годзе сэрыя Гембіцкага была набытая Музэем імя Пушкіна ў Маскве. Акрылены посьпехам мастак працягнуў «партызанскую» лінію ў 39-м годзе, прысьвяціўшы яе змаганьню беларусаў з Польскай дзяржавай. Адзін з дрэварытаў тых гадоў — «Партызаны рэжуць правады» — успрымаецца сёньня як сапраўдны сымбаль беларускае рэзыстэнцыі па-за часам і па-за палітычнай канкрэтыкай... Аднак на гэтым слава Ібрагіма Гембіцкага перарвалася. Яго абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне. Як і Мініна, і Ціхановіча...

Між тым, папулярнасьць тэмы партызанкі нарастала перад вайною з году ў год. На Ўсебеларускай выставе 1940 году партызаншчына ўжо трыюмфавала — як-ніяк, а польскую кампанію выйгралі. Тут табе і Гэнрых Бржазоўскі («Раззбраеньне насельніцтвам белапольскага атрада») і Монас Маназсон са сваім «Зьнянацку». «Партызанскія» фантазіі заходзілі часам вельмі далёка. Прыклад гэтаму — скульптура «Арджанікідзэ ў разьведцы ў лесе пад Барысавам» Аляксея Глебава. Праўда, да Беларусі гэты шал ужо меў мала дачыненьня... Хоць... Выхаваўчая работа з гледачом, а менавіта гэтак і варта разглядаць мастацтва канца трыццатых, у даступных і наглядных формах была праведзеная.

Па вайне сьвятасьць партызаншчыны і яе спрадвечна беларускі характар былі ўжо па-за дыскусіяй. Праўда, у канцы саракавых — пачатку пяцідзясятых канон пачаў быў распадацца, эразіравацца натуралістычным бытавізмам. Той жа Ціхановіч, той жа Бржазоўскі, той жа Маназсон і дзясятак маладзейшых мастакоў выяўлялі постаці, сьпісаныя з канкрэтных асобаў партызанаў. Тут пачалося ерархаваньне: гэты вядомы, гэты зараз пры пасадзе, у гэтага адабралі мэдаль, гэты... Абстрактныя масоўкі людзей са зброяю ў лесе ўсё болей і болей нагадвалі пастановачныя здымкі манэкенаў, расстаўленых адпаведна ў тым парадку, які гэтыя манэкены занялі ў паваенным жыцьці...

Напрыканцы 60-х адбыўся апошні ўсплеск партызанскае тэмы. Яго падрыхтавалі тыя, хто стаў мастаком ужо без вайны. Ідэалягічна гэтыя часы былі бязьмерна далёкімі і ад 30-х, і ад 50-х гадоў. Сама тэма вайны ўжо займала непараўнальна меншае месца. Мастакі змаглі дазволіць сабе абагульненьні. Ізноў перадусім яны паспрабавалі намацаць прыроду нацыянальных рысаў, прынамсі, да тае ступені, да якой яны самі адчувалі сябе нацыянальнымі мастакамі...

«Партызанская мадона» Савіцкага, купленая маскоўскай Траццякоўкаю і «Беларусь — маці партызанская» Данцыга, (абедзьве напісаныя ў 1967 годзе), фактычна паставілі кропку на ўсёй тэме. У гэтых двух палотнах няма ні штучнага патасу штучна насупленых людзей, ні самога дзеяньня вайны. Ёсьць адчуваньне драмы, а не гульня ў яе. Калі я параўнаў гэтыя два палатны з тым, што ствaралася ў Беларусі перад вайною, я быў моцна зьдзіўлены, наколькі яны перагукаюцца нават у дэталях. Але зьмест ужо цалкам іншы. Ні азарту бунту, ні помсьлівае нянавісьці... Адно толькі горыч стратаў і любоў. З вышыні свайго пакаленьня абодва мастакі сьцьвярджаюць ужо тое, што адбылося: загояцца раны... Тым самым запярэчыўшы ўсёй сыстэме папярэдніх савецкіх стэрэатыпаў: беларус у любым узросьце і ўва ўсе часы — лясны мсьцівец, гатовы на любыя ахвяры.

**Сяргей Харэўскі**

У студзені 1944 году Ўсевалад Родзька ўваходзіць у Беларускую Цэнтральную Раду, дзе адказвае за працу з моладзьдзю. Менавіта моладзь складала асноўную частку сяброў БНП. А калі ў сакавіку 1944-га пачалася мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону, Родзька ачольвае 15-ы батальён БКА. Ён, праз свой вайсковы партыйны актыў, быў фактычным кіраўніком БКА, у той час, калі маёр Кушаль камандуючым быў намінальна. Кіраўніцтва БНП у гэты час рыхтуецца да збройнай барацьбы з бальшавікамі: ствараюцца ня толькі легальныя вайсковыя аддзелы, але й партызанскія атрады, пашыраецца падпольная сетка. Сябра ЦК БНП Б. Рагуля ўспамінае: «Быў у Родзькі плян путчу ў Менску падчас II Усебеларускага кангрэсу. Асноўнай сілай мусіў стаць мой батальён, які знаходзіўся пад Докшыцамі. Нам павінны былі падаць цягнік, каб мы пераехалі ў Менск. Там мы бы сталі галоўнай сілай аховы кангрэсу і плянаванага путчу, мэтай якога было абвяшчэньне незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. Але эшалёну немцы нам не далі, бо, магчыма, нешта пранюхалі...». Плян антынямецкага паўстаньня ў Менску, які* распрацаваў Родзька, быў, канешне, фантастычным. Сілаў у БНП было вельмі мала. Значна менш, чымсьці ў польскай Арміі Краёвай падчас варшаўскага паўстаньня. Тым больш, што пачалася апэрацыя «Баграціён» і савецкія танкі ймкліва набліжаліся да Менску. Таму частка сяброў ЦК БНП выступіла супраць самагубчага пляну. Неабходна было захаваць людзей дзеля будучай партызанскай і падпольнай барацьбы.

Летам 1944 году ва Ўсходняй Прусіі, у мястэчку Дальвіц, быў арганізаваны беларускі дэсантны батальён, які павінен быў стаць найбольш баяздольнай адзінкаю антыбальшавіцкага партызанскага руху. Немцы забясьпечвалі беларусаў зброяй, амуніцыяй і самалётамі перакідвалі ў Беларусь. Палітычным кіраўніком быў маёр Родзька, а камандзірам батальёна — маёр Іван Гелда, сябра БНП, які толькі вызваліўся зь беластоцкай турмы гестапа. Родзька верыў у паўстанцаў на Бацькаўшчыне й хацеў ім даць вайсковае й



*Праваслаўныя беларусы — матурысты Наваградзкай гімназіі імя Адама Міцкевіча, травень 1938. Усевалад Родзька стаіць першы зьлева.*

палітычнае кіраўніцтва. Да пачатку 1945 г. было адпраўлена некалькі вялікіх дэсантных групаў, а таксама асобныя дэсантнікі. Усе яны лічыліся жаўнерамі Беларускага Краёвага Войска(БКВ) і сябрамі Беларускай Вайсковай Арганізацыі(БВА). БВА была ўтвораная яшчэ ў 1944 годзе, як адзін з варыянтаў БНП, але толькі ў красавіку 1945-га ў Бэрліне прайшла першая нелегальная канфэрэнцыя вайскоўцаў БВА. Большасьць яе ўдзельнікаў выказаліся за ўдзел у партызанцы на Бацькаўшчыне. Прысутны на канфэрэнцыі праваднік СБМ Міхась Ганько пакаяўся ў сваіх памылках ды заявіў, што далучыцца да дэсантаў, як шэраговы партызан... Нягледзячы на ўсе намаганьні Ўсевалад Родзька ня здолеў перакінуць свой батальён у Беларусь. Вясной 1945-га ў немцаў ужо не было лішніх самалётаў... Але ён не губляе аптымізму. Нават пасьля капітуляцыі Нямеччыны й раззбраеньня батальёна «Дальвіц» у Чэхіі мясцовымі партызанамі, Родзька з групай сваіх хлопцаў пешым маршам прабіваецца на Беларусь. На Беласточчыне яны затрымаліся, тут і адбыўся правал — Родзьку і яшчэ некаторых арыштавалі гэбісты. Выратаваліся нямногія. Напрыклад, Юрка Сянькоўскі ўцёк на Захад. Іншыя працягвалі пешы марш на ўсход і ўліліся ў партызанскую армію генэрала Вітушкі.

Арыштаванага кіраўніка БНП Родзьку (псэўданім «Воўк») прывезьлі ў Менск, у «амэрыканку». Там у яго патрабавалі раскрыць падпольныя структуры, партызанскія базы й групы сувязі. Магчыма, катавалі... У 1995 годзе ў Менску выйшла кніга Аляксея Салаўёва «Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах», дзе аўтар выкарыстоўвае ўрыўкі з паказаньняў Родзькі. Толькі ня піша ён, якімі мэтадамі выбіваліся паказаньні ў гэтага маладога хлопца і што зь ім зрабілі чэкісты. У ліпені 1997 году я быў у гасьцях у Лявона Луцкевіча, апошняга з тых, хто праходзіў па «справе шасьці» (Родзька, Гелда, Луцкевічы, Усевалад Кароль, Янка Гінько). Па словах Луцкевіча: «Родзька расказаў на сьледзтве нават тое, што мог не гаварыць». Аднак Лявон Луцкевіч ня верыў, што такая вялікая асоба, як Родзька, мог «проста так здаваць сваіх паплечнікаў. Відаць, спрабаваў арганізаваць нейкую гульню й перайграць Цанаву. Але дзе-ж ты яго перайграеш?!..». Сябра БНП Янка Жамойцін тлумачыць напісаньне Родзькам падрабязных успамінаў у турме тым, што ён хацеў захаваць для гісторыі сьведчаньні пра дзейнасьць Беларускага Супраціву. А што да «гульні», дык ёсьць фактам, што некаторым арыштаваным дэсантнікам БНП чэкісты прапаноўвалі магчымасьць дэсанту ў Грэцыю(!). Ці не на баку камуністычных партызанаў яны там павінны былі ваяваць?! Але гэта толькі словамі й скончылася... Дзесьці ў траўні 1946 году адбыўся суд. Родзька і Гелда былі засуджаныя на сьмерць. Было Усеваладу, як і Кастусю Каліноўскаму, толькі 26 гадоў... Адныя крыніцы паведамляюць, што яго павесілі, другія — што расстралялі. Ходзяць нават чуткі, што яму захавалі жыцьцё і жыў ён у Сібіры. А Юрка Віцьбіч на фотакопіі паказаньняў Родзькі, якую зьмясьціў у «Саўдзельніках у злачынствах» В.Раманоўскі, не пазнаў яго почырку. Загадка?.. «Для мяне Родзька застаўся героем, — гаворыць Б.Рагуля. — Ён і загінуў як герой, як Каліноўскі. І я схіляю галаву перад гэтым чалавекам. Усё ж такі ён заплаціў жыцьцём за ідэю. Ні за грошы, ні за што іншае, а за ідэю...» Была ва Ўс.Родзькі прыёмная дачка. Пасьля вайны жыла з маці ў Парыжы. Эмігранты кажуць, што яна выйшла замуж за гішпанца і цяпер беларускай мовы, напэўна, ня памятае. Магчыма, ня памятае яна і свайго бацьку, беларускага героя, які паклаў сваё жыцьцё на алтар Бацькаўшчыны....

**Сяргей Ёрш**

*Удакладненьне да бібліяграфіі пра генэрала Вітушку **

*Артыкул «Генэрал Вітушка змагаецца» быў надрукаваны ў газэце «Беларускае Слова» (Заходняя Нямеччына) № 6 (7), 3 траўня 1949. Перапрашаю чытачоў і Рэдакцыю.*

*Сяргей Ёрш*

** Глядзі «НН» № 32 (3.11.1997) і № 3 (9.02.1998)*

# грамафон.

## Алесь Адамковіч

ІМПЭРСКАСЬЦЬ

Вясеньняе сонца над небам,
Зьзяньне яскравае.
Я бачу толькі цені,
Цені істот.
Лунае неба.
Зямля спыніла свой шлях,
Вясеньняе сонца замерла.
Істоты ня сьпяць.
Крыкі на рубяжы, стогны.
Зямля ў жудасьцях не зварухнецца.
Крывавыя плямы,
Немы крык немаўлят,
Адчай.
Імпэрскасьць.
Вось твой кошт.
Зруйнаваная зямля,
Скалечаныя лёсы, —
Імпэрскасьць даражэй.
Дзе жыцьцё?
Адвечна спачывае.
А зямля не зварухнецца.
Гвалт, сьлёзы.
Пекла на зямлі.
Калі ж зямля спачне?
Калі зьнікнуць істоты?
Імпэрскасьць —
Ці вечная ты?

## Андрэй Аляксандраў

САФІЯ

Сафія

Ты плывеш караблём
У Акіяне стагодзьдзяў,
Ты ёсьць вечнасьцю,
Ты ёсьць Беларусьсю.

Сафія

Ты запальваеш вогнішча
Сьвятасьці ў сэрцы,
Ты ёсьць мудрасьцю,
Ты ёсьць зьнічам бясьсьмертным.

Чысьцінёю тваёю
Навек паланёны,
Я стаю і гляджу,
Як лунаюць анёлы
Над тваімі сямю
Залатымі крыжамі,
Што адвечна трымаюць
Нябёсы над намі.

Сафія

Ты ёсьць брамай у мінуўшчыну,
Ты ёсьць каханьнем,
Ты ёсьць памяцьцю,
Ты ёсьць шчасьлівым сьвітаньнем.

Сафія

Ты надзеяю ёсьць
Усіх людзей беларускіх,
Ты ёсьць сымбалем веры
У Гасподнюю магутнасьць.

І пакуль ты стаіш
На зямлі маёй роднай,
І цалуе муры твае
Вецер свабодны,
Будуць дзьвінскія хвалі
Сьпяваць маладыя:
«Наша Сьвятыня...
Наша Сафія...»

## Аляксандар Антончык

СХОД

Сабраў Вірус усе хваробы
У страўніку мужчыны,
Каб правесьці сход пад назвай
«Шкоднасьці вакцыны».

У прэзыдыюм сабраўшы
Грып, Інсульт са Сьнідам
За работу ўсе ўзяліся
Зь вельмі важным відам.

Адзёр выступіўшы зразу
Пасьля Скарлатыны
Расказаў аб новых сродках
Супраць мэдыцыны.

Па навучнаму казаў,
Нічога ня блытаў,
Нават лекі ўпамянуў
Ад злых лейкацытаў.

Пнэўманія ж давяла,
Як гіне прырода
Ад вільготнасьці малой
І лішка кіслароду.

Хвалявалася і Язва
За жыцьцё хваробаў,
Заклікаючы палепшыць
Якасьць у вантробаў.

Рак, здароўе каб падправіць,
Прасіў выдаць кляфэліна,
Бо ад променяў рэнтгену
Нясе страты як мужчына.

Адна сонная Халера,
Седзячы, маўчала
І ў мроях годы юны
З жалем успамінала.

## Тацяна Багарадава

НАД ДЗЬВІНОЮ

*Гэта мая Крывія!..*

У краі тым, дзе сонейка агністае
Песьціць промнямі сьцюдзёную ваду,
Коціць воды Палата празрыстая
І Сафійка адштурхоўвае бяду;

Дзе Дзьвіна іскрыстая, глыбокая
Плынь сваю да Балтыкі імчыць,
Захапіўшы берагі высокія,
Старажытны Полацак стаіць.

Дзе стагодзьдзяў кола прамільгнуўшае
Пакідае велічы цяжар,
Уладарыць матухна-мінуўшчына,
Людзям зазіраючы ў твар;

Дзе славуты Рагвалод з Рагнедаю
Захавалі беларускі род
І Скарына кнігамі і ведамі
Мкнуўся цёмны абудзіць народ;

Дзе Ўсяслаў, адчайны і загадкавы,
Вырашыў Сафійку залажыць
І хацеў ня войнамі і звадкамі,
А свабодна ды шчасьліва жыць;

Дзе царква, Прадславай збудаваная,
Ухваляючы Вялікі Спас,
Уздымае сьцены мураваныя,
Годна пазіраючы на нас;

Дзе ваяр бясстрашны з доўгай дзідаю
Землі ад крыжакаў бараніў,
Харчаваўся чэрстваю кулідаю,
Але веру й годнасьць не згубіў, —

Можна стрэць паненку яснавокую
З доўгай сьветла-русаю касой,
Летуценную ды адзінокую,
З трапяткою, чыстаю душой.

Зазірнеш у вочы задуменныя —
Ды ўбачыш кемлівасьць і сум.
Думкі паабудзяцца імгненныя,
Розум апануе дзіўны тлум.

Толькі не замовамі й какетнасьцю
Прычаруе сэрца малайца, —
Годнасьцю, развагай і шляхетнасьцю,
Шчырасьцю бязь межаў і канца.

Можа, скарб халоднай ганарлівасьці
Ёй Рагнеда перадала ў дар?
А букет дзявочай сарамлівасьці
Кінула Прадслава на алтар?

Велічнасьць і годнасьць Усяслававы
Ў спадчыну перадаліся ёй?
На зямлі, дзе з мужнасьцю і славаю
Здабывалі волю і спакой,

Дзе пад слаўным Грунвальдам і Оршаю
Продак перамогу зваяваў, —
У часы крывавыя, найгоршыя
Родны сьцяг з «Пагоняй» захаваў!

У вачах валошкавых купаесься,
У сэрцы адчуваючы пажар.
Чорнымі брывамі захапляесься,
Паладаеш у абдоймы чар.

А калі ўсьміхнецца аксамітава —
Бы зазьяе сонейка наўкол.
Сэрца, як каралі, паразьмітвае,
Ссыпле яго пацеркі на дол.

Крывічанка з гораду наддзьвінскага
Возьме каго хочаш у палон.
Хлопца і палескага, і менскага
Увядзе таемнасьцю ў скон.

Часам розум думка апаноўвае,
Прыйдзеш да высновы спакваля:
Прыгажунь-паненак выгадоўвае
Шчырая крывіцкая зямля!

Кемнасьцю, імпэтнасьцю і годнасьцю
Услаўляйце, прыгажуні, край.
Велічнасьцю і высакароднасьцю
Адхінайце гора і адчай.

Хай вясною квецень распускаецца
На славутай Полацкай зямлі.
Усё — што пажадаецца — зьдзяйсьняецца,
Каб усьмешкі ружамі цьвілі!..

## Тацяна Барысава

ЗМРОК

Куды ні кінь —
Пануе змрок,
І моцы Сонца
Не чутно.
Палюе ў цёмным
Лесе воўк,
А мы нясем
Сваё ярмо.
Дакуль жа так
Адвеку жыць?
Дакуль жа
Гонару ня мець?
Павольна ў бездань
Плыць і плыць
І ад відовішчаў нямець?

## Аляксей Бацюкоў

ПАРА

Пара ўставаць, крычаць і бунтаваць,
Пара караскацца за межы «бытнаваць»,
Сарвацца,
і наліпнуць на асфальт,
каб кожны крокам мяў
твой недажыты скальп,
не разумеў, і — помніў
твой апошні сьмех.
Пара плячом ламіць
паркан здавіўшых вех.
Пара абраць свой крык сярод цішы,
Пара чакаць удары ў твар — «Пішы!»
Пара пайсьці на сьмерць,
вярнуцца і маўчаць.
Пара ўставаць, крычаць і бунтаваць.

## Аляксей Бруй

***

Млосьць. Дзёньнік былой сяброўкі.
Вясна. У нас на шыях вяроўкі.
Забудзь. Ты і так ня знаеш нічога.
Шлях. Ад чорнай труны да парога.

## Уладзімер Васількоў

СІЛА ДВУХ СЭРЦАЎ

Злучаныя сэрцы
Цемра не разлучыць,
Сэрцам не памерці
Ні ад слоў балючых,
Ні ад ран глыбокіх
Ад сяброўскай здрады,
І растаньням горкім
Не разьбіць іх ладу.
Тонкія дзьве плыні,
Што зьліліся ў мора,
Назаўжды адзіны
Для раздольля й гора.
Цемра не разлучыць
Злучаныя сэрцы,
І ад ран балючых
Сэрцам не памерці.

## Марта Гамановіч

***

Ты — асалода дум
Бясконцае начы.
Сыходзіць хворы тлум —
Маўчу. І ты маўчы.

Няма. Шукаць я грэх —
Стамілася. Маўчу.
Яшчэ ўначы ня брэх,
А песьню можна ўчуць.

Мне б сэрца цалаваць,
Спаць на грудзях тваіх.
Ня ў чорным век блукаць,
А небам поўніць дых...

Нікому не скажу,
Што ў хустку захіну...
Час прыйдзе — разьвяжу,
Дзень прыйдзе — апрану.

## Аляксандар Голуб

МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Домік белы ля мора
Непрыкметна стаяў,
У тым доміку ціха
Паэт паміраў...

Безь сяброў, без Радзімы, народу свайго,
Для якога так мала пажыў,
Беларускай старонцы ён сэрца аддаў,
Лёс свой цяжкі навек прысьвяціў.

Моцны духам і чысты душой
Ён згубіў свой спакой назаўжды,
Абаронцам стаў крыўды людзкой —
Тых, хто быў на каленях тады.

Ён змагаўся за шчасьце зямлі,
Па якой так нядоўга хадзіў,
За свабоду для Белай Русі
Быў памерці гатоў хоць калі!

Ніхто з нас яго не забыў —
У нашых сэрцах ён жыць будзе вечна!
Забыць нельга таго, хто так шмат зрабіў
Для зямлі беларускай адвечнай!

## Ала Кажэра

***

Зацьменьня час прыйшоў,
Адчайна промень скача,
Шукае выйсьця дзень
Ад чорнае нуды.

Чаму, зь якіх высноў
За птушкаю ўдачы
Ляціць з вышынь каршук
Бы веставы бяды?

Ад вольнасьці нябёс — кавалак блёкла-
шэры,
Іржаваму аркестру замоўлены маршы,
Пятляе шлях без спадзявальнай веры,
І не падняць зь зямлі каменныя крыжы.

## Яўхім Корчак

***

Людзі маюць розныя якасьці,
Бываюць у трансе ад розных прадметаў.
Адным падабаюцца салодкія вадкасьці,
Другія захапляюцца калёным жалезам.

Адны і другія жывуць у дзяржаве,
Дзе многа праблем і няўвязка з таварам.
Адны прычыны шукаюць у краме,
Другія прыкрываюцца рабочым клясам.

Улада ніколі ня робіць гадасьці,
Яна за народныя інтарэсы:
Спачатку палырскаць салодкай
вадкасьцю,
А потым прайсьцься калёным жалезам...

## Ігар Лосік

НЕ ДАПЕЎ САЛАВЕЙ У РОДНЫМ ГАІ

*Памяці Міхася Забэйды-Суміцкага*

Не дапеў салавей у родным гаі
Чыстых песень ад вольных дзядоў.
Там драпежнікі ладзілі балі,
Хвалявала іх лірніка кроў.

Паляцеў ён у вырай-самоту,
І гучаў яго голас здалёк.
Нёс, як маці дзіцяці, пяшчоту,
Кроплі каб не праліць на парог.

## М.Міхееў

***

Ён пісаў нам на вякі
«Канстытуцыю Лукі».
Бо на меншае — ня згодны,
Бо да славы ён — галодны.

Што там нейкія «папраўкі»,
Што там «дабаўленьні»...
А вось слова «на вякі» —
Лёгка ў вымаўленьні.

Гэта слова загучала!
Бо кругом жа ўсё маўчала,
Усе яму глядзелі ў рот
(Такі слаўны патрыёт!)

Толькі потым зразумелі,
Што даўно сядзяць на мелі.

...З рэпрадуктараў ўсё льецца,
Хваляць шчэ на ўсе лады:
— Ён палітык малады,
На вачах сталее...

— Бяжы, бабка, галасуй,
А то пастарэе!

## Юрась Півуноў

***

Сінеча нябёсаў,
І вецер паўночны,
Сады зацьвітаюць,
І ранкам марозна.
У сад пракаветны
Ступаю нясьмела,
Між дрэў там блукае
Чароўная фэя.
Дзяўчына ў лёгкім,
Сьвяточным убраньні,
Імя ёй — Вэнэра,
Багіня Каханьня...

## Браніслаў Пяткевіч

ТУМАН СЬМЕРЦІ

Крывавы туман на балоце
Уеўся ў вочы й вушы,
Прыносіць пагібель, страхоцьце
Й труціць асьлепшыя душы.
Хто звыкся зь нягодай-бядою,
Глытае штодзёншчыну прагна...
З істотай самотнай худою
Зраслася спрадвечная багна.
І толькі асілак з тытанам
Выносяць свой розум на волю,
Знаходзяць у байцы з падманам
Жывучасьць уласнаму полю.
І той, хто ня страціў сумленьня,
Вітае падтрымкай адважных,
Адніме ад цела гніеньне,
Дастане вышынь недасяжных.
А моцная бура з грымотай
Разбурыць руховасьць ідэі...
І творца сваёй пазалотай
Ня ўхваліць стасункаў Вандэі.

## Гандрусь Стрэмка

***

Мы чуем фальшывыя клятвы,
І з лаянкаю прамовы,
І лямант дзяржаўных вар'ятаў —
Але ж гэта проста словы,
Якія каштуюць так танна,
Бо слова — штуршок паветра.
Іх кідаюць надта старанна
Ў людзкога натоўпу нетры.
Забруджваюць імі галовы,
Дык мала — трапіўшы ў вушы,
Прыносяць фальшывыя словы
Заразу няпраўды ў душы.
Сьляпыя тутэйшыя людзі,
Якім замуцілі розум,
Чакаюць, што ўсё добра будзе —
Ня бачаць яны пагрозы,
Якую хлусьлівая зграя
Нясе ўсяму народу.
Адна толькі Праўда сьвятая
І вера ў яе дапамогуць
Пазьбегнуць зьнікненьня краіны,
Што Бацькаўшчынай завецца.
Няхай нам падкажа сумленьне
Да Ісьціны шлях адзіны,
Каб розум пазбавіць сумненьняў,
Каб сэрцам любіць Радзіму,
Ня страціць каб родную мову
І продкаў каб не цурацца.
Павінна праўдзівае слоаў
Да сэрцаў людзкіх праравацца!
Адзіная Праўда на сьвеце —
У шчасьці роднага краю.
За гэта гатоў я памерці,
І жыць за гэта жадаю!

## Андрусь Сьнежань

***

Змоўкла радыё.
У страху перад словам
затыкаюць лапаю эфір...
Добра ўсім. Амаль няма нязгодных.
І зноў адчайнае: «Згубіў».

Заўтра забрасьнелае балота
будзе супакойваць і ўсхваляць
новы раб, а мы, як і заўсёды,
будзем спаць, губляцца і губляць.

101,2...
Праменьне сонца
гіне ў ціне, шчыльным трысьнягу.
Закрываем мы далонямі вочы
і пасопваем у такт дажджу.
Дзеці ночы мараць пра вясну...

## Давыд Сьцізорык

***

*Пахне чабор... пахне чабор...*

Ты. І чабор — бяздонны!
Позірк не ўтаймаваць!
Сьвет ня здолее вытрымаць сёньня
Усяго вячор-хараства!

... Гэтых драконаў белых
Няможна не кранаць, бо яны
Вільгацьцю пялёсткаў на целе —
Лускою сваёй гайні.
Пільны свой позірк у рукі
Кладуць з загадам «ня страць!»

... Сэрца дарожны грукат.
Твае грудзі — колы дрыжаць.
Ведаеш, я хачу твае словы
Хрыплыя пачуць: «Я... цябе...»
Напружана, да ўздыму нэрвова,
Адным рухам увайсьці ў купэ,
Забыўшыся на прыстойнасьць.
Зруйнаваць. Бо такой прыгажосьці
Ня здолее вытрымаць сьвет!

## Тацяна Сьцізорык

НЕ ЧАКАЦЬ

Зіма сказала: «не чакаць...
Ня плакаць... не кахаць... ня спаць»
Паветру ночы белай.
А я ня ўмею назіраць
Астральнасьць свайго цела.

Я з адзінотаю на «ты».
«Ня мерзнуць...» Замест дроў — масты!
Запалкі ўзмах... Чакай...
Канфорка газавай пліты
Заместа касьцярка.

Мой Дом — з табою, Знаць — забыць,
Прыняць і моўчкі прытуліць...
І крыкі на ляту.
Ваду тут немачыма сьпіць
Са сьнегу. І зь ільду.

## Юры Чарнякевіч

***

Сьвятло ад лямпы,
Такой маленькай,
Разьбіла ўшчэнт
Імглу кватэры.
На кнігу зноўку
Упалі цені
Маёй журботы,
Маёй веры.

І зь лёгкіх пер'яў
Нябеснай птушкі,
Якую клічуць
Чамусь крумкач,
Раблю я ўпотай
Сабе адзеньне,
Каб потым жыці
Як той магнат.

Я любу птушку
Частую ежай
І плачу ноччу
Як вечны кат,
Гляджу зь вялікай,
Ня Белай вежы,
Як крочаць лёгка
Мой цень і я.

Бяжаць магчыма
Зь вялікай думкай?
Паўзьці дарогай
І цяжка дыхаць?
Мае памкненьні,
Дзявочы вусны...
Дзе ж бездань, вецер
Ці годны выхад?

Бязрадасныя
І бедныя,
Бы верш апошні,
Апошні мой...
Надзеі хісткія,
Ня надта сьветлыя
Лунаюць у стоме
Са мной...
Са мной...

У чэрапа
Вачніцы цёмныя,
А я гляджу,
Гляджу, гляджу
Нязломныя
І бездакорныя
Людзі чамусь.

## Віктар Шаціла

ЗБАН

*Папытаюся: як перайсьці жыцьцё?*
*Адказвайце: як па струне прорву —*
*Прыгожа, ашчадна, імгненна.*
Вучэньне Жывой Этыкі

Што за казачны быў збан:
Сярод келіхаў — як пан!
Ні гліняны, ні шкляны —
Быццам з водару вясны!..

Быццам зьліўся з прамянёў —
Зь семіколерных агнёў!..
Дакранесься — зазьвініць,
А хавай — душа баліць...

Што за казачны быў збан:
Усьміхаўся на падман,
Цалаваў ён мне душу,
Быццам я шаптаў імшу!..

Быццам я ўразіў сьвет,
Ліўся зноў зь яго санэт...
Збан падносіў да вакна —
Голас мілы чуў... Яна...

Калі ў збан хаваў віно —
Малаком цякло яно;
Пырскну ціхенька вады —
Толькі сінія ільды!..

Пагляджу на гэты збан:
Сярод келіхаў, як пан!
Ні гліняны, ні шкляны,
Быццам з водару вясны...

## Натальля Шкапіч

ШТО ЯНО?

*(Сьветлай памяці Максіма Гарэцкага)*

Зьмерзлы мой, пакрыўджаны анёл,
Ты даруй, што дабрынёй ня зьзяю,
Што ў душу тваю прыношу неспакой
І ад шэрай мітусьні не уцякаю.
Ведаеш, шукала я спакой
Чорны смуткі-зданьні адганяла,
Але зноў хілюся прад табой,
У нямым пытаньні словы паўтараю.
Кволенькае сэрца ўсё ня сьпіць,
Хоць яго люляю як дзіцятка.
Вось яно, як зорачка, мігціць,
Вось змагаецца за шчасьце сваё, братка.
І пяе яно, і голасна крычыць,
Часам ледзьве чутна засумуе.
Завірушыцца, застогне, зашчыміць —
Хто ж яго сагрэе і ўратуе?
Дожджык па лісточках шапаціць,
Ветрык-весялун на скрыпцы грае,
Можа, так і трэба, што баліць,
Бог адзіны ведае, чаму ўсё так бывае.

## Гэндальф Шэры

***

Беларусь мая Родная
Родная Хата
У палон злосных ворагаў
Цемраю ўзята
Змагары — Твае Дзеці
Пакутуюць сьвята
Беларусь мая Родная
Родная Хата
Кроў сыноў Тваіх льецца
Гэта — ня страта
Крэпасьць вечнага пекла
Ахвяраю ўзята
Беларусь мая Родная
Родная Хата
У сьвятліцах Тваіх
Адгуляем мы сьвята!

## Віталь Юрэвіч

ВОСЕНЬ

Пялёсткі мёртвыя асыпаліся з кветкі,
І змоўк у небе стомлены жаўрук.
Багацьця поўныя духмяныя палеткі
Аддалі плод ва ўлоньне моцных рук.

Халодны вецер загуляў над лесам, —
Пачаў тушыць кастрычніцкі пажар.
І чарадой паплылі па Арэсе
Адлюстраваньні чорных, змрочных хмар.

Чырвона-жоўты ліст пад ногі
Пад кроплямі дажджа зьляцеў, дрыжа.
І загула, забілася ў трывозе,
Адчуўшы блізкі крок Жняца, душа.

Глядзела сонца баязьліва
З-пад покрываў сырой нуды,
І у чаканьні веснавых разьліваў
Застыў самотны сылюэт скірды...

## Мікола Яўмененка

МОВА МАЦІ І МАЦІ-РАДЗІМА

Боль шчымлівы, пякучы, адвечны!
Колькі будзе ў жыцьці яшчэ страт?!
Дагараць пахавальныя сьвечкі.
Тым жыцьцё не канчаецца, брат.

Пастаім ля бацькоўскага дому.
Род — вялікі, а маці — адна.
Дом ня будзе патрэбны нікому,
Толькі сьцены пакіне труна

Зь целам той, што на сьвет нарадзіла
Нас з каханьня й яшчэ з пачуцьця
Доўгу перад краінай — Радзімай
Ці сукупнасьцю ўмоваў жыцьця.

Тэрмін для вызначэньня Радзімы
Мо й няўклюдны, бы ў тле парася.
Сказ пазычу патрэбны адзіны
З той сукупнасьці, дзе ж яшчэ ўзяць?

Гэта — мова, павер мне на слова.
«Хоць вялікі, хоць малы народ
Паміраюць бяз матчынай Мовы», —
Папярэджваў паэт і прарок.

Мова маці і маці-Радзіма...
Ёсьць у словазлучэньняў працяг.
Мова годнасьць людзей абудзіла.
Маці — сымбаль любові й жыцьця.

Адбярыце Радзіму ў народа
Й ператворыцца ён у натоўп,
Палахлівы, бязвольны, бязродны
Й непрыдатны бадай ні на што.

Колькі мудрасьці ў словазлучэньнях?!
Колькі велічы і цеплыні?!
Яны вольных людзей пакаленьні
Адной нацыі мусяць радніць.



# ЭПІКОН

Аляксей Бацюкоў

## НАДПІС НАД ВАКНОМ

Калі Бацька ўключае сьвятло і зашторвае вакно, сям'я Пенцюхавых ведае — настала раніца. Ужо можна хадзіць па кватэры проста так, можна падыйсьці да вакна і захацець нават падставіць твар пад небясьпечныя промні ілжывага сонца, але побач надпіс: «Асьцярожна! Сонца сьвеціць, але ня грэе».

У гэтага надпіса свая гісторыя. Яго вынайшаў Дзед — ціхі філёзаф, падпольны паэт і таленавіты вучоны — як тэорыю адной з сапраўдных праўдаў жыцьця. Ён адстаяў сваю тэорыю, калі выступаў на Сямейным Савеце, у рубрыцы «Сусьвет як люстэрка ўнутраназьнешняй палітыкі Бацькі»:

— Кажуць, сонца сьвеціць і грэе. Мы з вамі ведаем, што лямпачка ў калідоры, роўна як і лямпачкі ў прыбіральні, ваннай, на кухні, у гасьцінай, у спачывальнях — і сьвецяць, і грэюць. Гэта мы ведаем з таго, што варта нам уключыць сьвятло хаця б адной з гэтых лямпачак, а праз гадзіну схапіць яе голай рукой, то нам будзе горача. Тое, што сонца сьвеціць, бясспрэчна. Але ў тое, што яно грэе, мы верыць ня можам, бо пайдзі, схапі яго рукой! Што і трэба было даказаць.

Так зьявіўся надпіс чорным па беламу — «Сонца сьвеціць, але ня грэе».

Потым выступаць стаў Бацька. Ён абвёў твары ўдзельнікаў Сямейнага Савету жудасным позіркам і прыемным фальцэтам сказаў:

— Таварышчы! Нашыя чэсныя вучоныя, у асобе Дзеда, высьветлілі вядомую ўжо мне ісьціну. Але ўзьнікае пытаньне — чаму ўсе, акрамя нас, скрываюць гэтую ісьціну? Чаму пра гэта уголас гавораць толькі ў нашай свабоднай сям'і? Я думаю, гэта на руку бандзітам, што жывуць у... — на наступныя словы ён скрывіўся тварам, — шыкоўных асабняках Заходняга кварталу. А значыць — небясьпечна для нас. Калі так, я абвяшчаю небясьпечным усялякі бессэнсоўны давер ілжываму сонцу.

Так зьявіўся надпіс чырвоным над чорным па беламу: «Асьцярожна!».

Аляксей Бруй

## VIVERE MOMENTO

Адзеньне набрыняла крывёй. Гэта была не ягоная кроў, а кроў той пачвары, якая зараз ляжала ля ног. Ён цяжка дыхаў, сэрца шалёна калацілася. Ён дзякаваў Богу, што прыхапіў з сабой нож, калі адыходзіў з дому.

Ён выйшаў з дому раніцай. Ужо пачало зьмяркацца, а ён усё ня мог вярнуцца дадому. Ён заблукаў. Спачатку ўсё было добра, прагулянка па лесе паступова ператварылася ў збор грыбоў. Ён, спадкаемны гараджанін, так гэтым захапіўся, што забыўся пра ўсё на сьвеце. І толькі калі пачалі балець ногі, ён заўважыў, што ня ведае, як дайсьці да дому. Тады ён пачаў шукаць арыентыры і ўжо, здаецца, знайшоў накірунак да дому, як зьявілася рысь. Праўдзівей — не зьявілася, ён проста пачуў нейкі шорах за сьпіной і тут жа адчуў на горле кіпцюры.

«Добра, што я прыхапіў гэты нож», — яшчэ раз падумаў ён. Ён прысеў на зямлю, абцер нож ад крыві, зірнуў на забітую рысь і ўсьміхнуўся: «Вось так. Кожнаму сваё».

Крыху адлачыўшы, ён стомлена пайшоў далей. Шыя балела — рысь усё ж пасьпела яе параніць. Стала яшчэ цямней, ён зь цяжкасьцю знаходзіў дарогу, як раптам пачуў нейкі шорах, і нешта моцна ўдарыла яму ў сьпіну...

Яны качаліся па зямлі, ламаючы кусты і пырскаючы крывёй. Ён ужо пасьпеў выхапіць нож, але ніяк ня мог яго выкарыстаць. Рысь разьдзірала яго цела кіпцюрамі іймкнулася дабрацца да ягонага горла. Ён біўся як мог, малоцячы кулакамі і нагамі, пакуль урэшце не дабраўся да яе цела і некалькі разоў ня ўдарыў нажом...

Ён ляжаў на зямлі, ня могучы паварушыць ніводнай часткай цела. На ягоных грудзях ляжала забітая рысь, і кроў яе паволі сьцякала па яго целу. Ён паляжаў яшчэ некалькі хвілінаў, потым адхінуў рысь убок, падняўся і пайшоў. Бегчы ён ня мог. Ня меў сіл ды і жаданьня. Ён ведаў, што гэта канец, што ён ужо НІКОЛІ ня выберацца з гэтага лесу, і што ён БЯСКОНЦА будзе біцца з рысямі, пакуль яны яго не заб'юць.

І ён ішоў наперад, ішоў, сам ня ведаючы куды. Ішоў да таго часу, пакуль не пачуў за сьпіной шорах...

Вальжына Крывіч

## КАЛІ ЗГАСАЕ ДЗЕНЬ

*(ЛІСТ У НІКУДЫ)*

«Прывітаньне,» — ціхутка шапне табе маім голасам гэты ліст. «Прывітаньне,» — прагучыць ціхі адказ, і ты, у чаканьні, што ж будзе далей, моўчкі сядзеш да вакна, запаліш цыгарэту, зірнеш крыху разгублена на паперу з такім знаёмым почыркам і працягнеш чытаць. Чытай, родны мой. І я магу быць упэўненай, што хоць на некалькі хвілінаў мы застанемся сам-насам, і ніхто больш нам не перашкодзіць. Будзем толькі ты, я і старая гісторыя, сплеценая з пажоўклых старонак даўно мінулай восені.

Ты памятаеш, тая восень была на дзіва сьветлай і сонечнай. Усё здавалася тады казкай і, магчыма, менавіта таму і зьнікла так хутка. Казкі ж ніколі не бываюць доўгімі. І яшчэ — яны не вяртаюцца пасьля зьнікненьня. Застаецца толькі ўспамін і шкадаваньне. Мы згубілі з табой нашу казку, пакінулі яе ў той цёплай восені, пад надзейнай аховай дажджоў, пяшчотнага ветру й ціхага шапаценьня жоўтага лісьця. І мы ўжо ніколі ня здолеем яе вярнуць. На жаль.

Адзінае, што суцяшае — яна ўсё ж была.

Наша гісторыя пачалася верасьнёвым вечарам, калі зьнікла за небасхілам сонца, і чарговы дзень, здавалася б, такі звычайны, згас, пакінуўшы толькі маленькі водбліск у памяці. Ты спытаў пра маё імя, атрымаў такі звыклы для мяне адказ: «Вольга» — і пайшоў. Куды? Дадому, у свой утульны маленькі сусьвет, дзе не было месца нікому лішняму. Але ж я ўварвалася туды ў гэты вечар як рабаўнік — сваім імем, позіркам, голасам, усьмешкай — усім, успамін пра што ты забраў з сабой, ідучы прэч з майго пакоя. І я ўжо ніколі не змагу зьнікнуць з твайго жыцьця назаўсёды, нават калі б ты захацеў, нават калі б гэта было і маё жаданьне. Ты ня здолееш на ўсё забыцца, і твае вусны хоць зрэдку, але будуць прагнуць, як глытка вады, вымавіць пачутае ў той вечар імя. Вось і зараз яны крыху варухнуліся, нібы ў нямым стогне. Закрычы, пакліч мяне хоць аднойчы, проста шапні маё імя ў апошнім намаганьні нешта зьмяніць — і я зьяўлюся. Я прыйду, калі буду табе патрэбная. Як кропля вады сярод сьпякотнай і бясконцай пустэльні, як маленькае вогнішча ў зімовую сьцюжу. Табе трэба толькі паклікаць. А потым была яна, наша з табою восень. Я не магла паверыць у рэальнасьць усяго, што з намі адбывалася. І я баялася прызнацца самой сабе, што ўсе непрыемнасьці і страты засталіся недзе па-за рысай, што мае вочы зіхацяць зусім не ад сонечных промняў. Я баялася свайго палёту. Баялася і радавалася яму адначасова, кожны дзень зьбіраючы нашыя сустрэчы, як каляровыя маленькія шкельцы, каб потым скласьці зь іх прыгожы малюнак шчасьця. І я амаль склала яго, не хапала толькі некалькіх кавалачкаў, калі аднойчы ад холаду, ветру ці ад марозу, якія прынесла прыйшоўшая зіма, мае шкельцы не пачалі трэскацца і не зьбіраліся больш у адзін узор. Так, паасобку, яны і захоўваюцца ў мяне яшчэ сёньня. Час ад часу я бяру іх у рукі і, перабіраючы, зьмяняючы адзін колер другім, успамінаю...

Вось зялёны кавалачак. Ён, крыху няроўны, мае форму кляновага лісьціка, не пасьпеўшага пажоўкнуць і памерці, зьляцеўшы на зямлю.

Пачатак верасьня. Ты трымаеш мяне за руку і хутка ідзеш наперад. Я не пасьпяваю за табой і амаль бягу, але папрасіць ісьці хоць крышачку павольней не хачу. Ты штосьці расказваеш, толькі я амаль ня чую цябе. Адчуваньне сваёй маленькай далоні ў тваёй, вялікай і моцнай, цеплыня і дзіўны спакой. Ты побач.

Потым мае пальцы чамусьці цягнуцца да сіняга колеру. Гэтае шкельца, як маленькая кропля цёплага восеньскага дажджу.

Ён, гэты дождж, яшчэ толькі пачынаецца, але паветра ўжо стала вільготным і першыя дажджынкі весела сустракаюцца з маімі валасамі, плячамі, далонямі. Я бягу туды, дзе чакаюць дах, цёплы пакой і кубак гарбаты, а ты крычыш мне наўздагон: «Выманеш! Растанеш! Зьнікнеш!». Я дабягаю да выратавальных дзьвярэй і, азірнуўшыся, бачу цябе: ты зусім павольна ідзеш пад дажджом, ловіш яго кроплі ў далонь і сьмяесься.

Жоўтае шкельца падміргвае мне маленькімі агеньчыкамі. Яно такое яркае, нібы далёкія зоркі ў вячаровым небе, нібы ліхтары вакол цёмных вуліц.

Мы вяртаемся дадому, ужо цёмна і часам цяжка пазнаць твары знаёмых людзей, што праходзяць побач. У адказ на нейкі чарговы мой жарт ты надаеш свайму твару злы выгляд, падхопліваеш мяне на рукі і пачынаеш круціць у паветры. Я змаўкаю ад нечаканасьці і патанаю ў пяшчоце тваіх абдымкаў. Усё, што ёсьць зараз вакол мяне, — гэта вецер, твае моцныя рукі, твая ўсьмешка і вочы, якія зьліваюцца ў адно зь ліхтарамі і далёкімі зоркамі.

Колькі іх яшчэ, такіх вось кавалачкаў майго разьбітага шчасьця? Дзясяткі, сотні, тысячы? Ня ведаю, я ніколі іх не лічыла. Ды і ня ўсе яны, мабыць, у мяне захаваліся. Якія зьнесла ветрам, якія засыпала сьнегам, а якія і пабіліся, ды так, што адзін толькі пыл застаўся. Таму і не складзецца ён больш, мой рознакаляровы малюнак шчасьця. Ніколі не складзецца. А ці шмат радасьці ў асобных, няхай сабе і каляровых шкельцах?

Кожную восень калі-небудзь зьмяняе зіма. І якая ёй справа, той зіме, што сьнег, які засьцілае зямлю, дрэвы, дахі, хавае часам пад сваім покрывам цеплыню і пяшчоту, што мароз, закоўваючы ў ледзяны панцыр рэкі і азёры, зьнішчае і рэшткі даверу.

Холадна. Гэта адзінае, што я магу сказаць пра тую зіму. Зіму-зьнішчальніцу, зіму-забойцу.

Навокал усё такое белае, аж балюча глядзець. Я спрабую ўхапіцца за невялічкую галінку, на якой мільгаціць іней, і не магу, адчуваю, як мерзнуць пальцы. Мне балюча нават дыхаць марозным паветрам. І гэты холад, здаецца, зьнішчае ўсю мяне, прабіраецца ў душу, думкі, сэрца і пачынае сьмяяцца. Які жудасны сьмех! Так можа сьмяяцца адзінота: гучна, зьдзеклівa і разам з тым спачувальна. Так можа сьмяяцца здрада: вінавата і шчасьліва адначасова. Так можа сьмяяцца сьмерць, радуючыся сваёй непазьбежнасьці. Мне холадна. І нічога ад гэтага холаду ня можа выратаваць. Разьбітае шчасьце ня склеіш. Згубленую казаку не вярнеш. Са зламанымі крыламі не паляціш да аблокаў. Менавіта той зімой я навучылася плакаць бязь сьлёз і хаваць за ўсьмешкай боль. Менавіта тады я вывучыла слова «ніколі».

Я ня буду ўспамінаць усё тое, што был о далей. Проста ішоў час, звычайныя дні зьмяняліся звычайнымі начамі, за зімой прыходзілі вясна, лета, восень і зноў зіма... Жыцьцё не зважае ніколі на людзей і працягваецца, нягледзячы ні на якія іх жаданьні. Так падыйшоў сёньняшні вечар. І я назіраю з заходам сонца, размаўляючы зь цішынёй. Мне нічога не засталося, акрамя ўспамінаў, таму што ўжо вельмі даўно я ня слухаю твой сьмех і не для мяне бясконца-пяшчотная цеплыня жыве ў тваіх вачах. Нічога. Гэта ня страшна. Галоўнае, што ты ёсьць, што ты жывеш, ты шчасьлівы.

Тут ты, хутчэй за ўсё, адарвеш свой позірк ад паперы, зірнеш за вакно, і твая рука міжволі зноў пацягнецца да пачка з цыгарэтамі і запальнічкі. Некалькі хвілінаў ты будзеш сачыць, як сонца, засынаючы, нібы сыходзіць прыступкамі ў сад, каб вярнуцца толькі заўтрашняй раніцай. Ты будзеш маўчаць, але цішыня, якую, здавалася б, нічога ня можа парушыць, раптам выбухне маім сьмехам, і ў глыбіні надыходзячай цемры ты ўбачыш мае вочы. Шукаючы выратаваньня, твой позірк зноў вернецца да ліста, да роўных маленькіх літар.

Ты — адзінае, што ў мяне ёсьць у гэтым сьвеце, адзінае, што можа прынесьці шчасьце.

Ты — маё сэрца, маё дыханьне. І сёньня, калі адыходзіць у нябыт гэты дзень і я пішу табе ліст, пішу яго сваім болем і сваёй надзеяй. Я разьвітваюся з табой і абяцаю, што больш ніколі не зварухну твайго спакою. Толькі скажы, што ўсё ў цябе будзе добра. Толькі будзь самым шчасьлівым. Даруй мне ўсё. Бывай.

У гэты час, калі ты дачытаеш апошнія словы, гедзе пачнецца цёплы дождж, і маленькая дзяўчынка будзе лавіць ягоныя кроплі, весела сьмяяцца і бегчы па мокрай траве.

У гэты час нейкі музыка напіша сваю лепшую песьню.

У гэты час далёка-далёка шчасьлівая маці будзе расказваць сыну прыгожую казку, у якой усё скончыцца добра.

У гэты час на цёмным палатне неба зьявіцца першая зорка, азірнецца навокал і ці хутка шапне табе маім голасам самыя галоўныя словы, якія я не пасьпела сказаць у тую восень. Яна прызнаецца табе ў каханьні і адразу ж зьнікне, ня здолеўшы зазірнуць у твае вочы.

У гэты час будзе ўсё магчыма, нават самыя дзіўныя цуды. У час, калі ажываюць казкі. У час, калі згасае дзень...

Ігар Сідарук

## ДАЧУШКА ГАДА

*КАРОТКІ АПОВЕД*

— Выводзьце, на фіг, усіх!!!

З чыстаю стужкаю на рукаве, у наваксаваных да немагчымага бляску ботах, ён стаяў ля сьцяны, трымаючы ў танклявых пальцах шыкоўную дарагую цыгарэту, і ведаў, што зараз да сьценкі яны паставяць зацятага ягонага ворага. Столькі гадоў, столькі доўгіх марудных гадоў чакаў ён гэтага моманту! Не, не чакаў: сказаць «чакаў» — будзе сказаць няправільна. Ён рабіў яго, ён набліжаў яго — гэты момант. Набліжаў, калі вадамёты разьмяталі ўшчэнт іхнія напачатку нешматлікія сходы пратэсту, набліжаў, калі ўначы на працягу дваццацёх пяцёх дзён запар яны з Аднадумцамі ўздымалі на Галоўнай Будыніне сталіцы Іхні Сапраўдны Сьцяг, набліжаў, калі ў камэры папярэдняга сьледзтва падасланыя зэкі выбілі яму пярэднія два зубы, набліжаў, калі, уцёкшы з турмы, хаваўся ў лесе ды харчаваўся амаль што аднымі перакручанымі карэньчыкамі ды чарвякамі, набліжаў, калі ПАЧАЛОСЯ ЎСЁ ГЭТА, ды ён быў адным зь першых сярод тых, хто без агляду зрынуў з пастамэнту ненавісны сымбольны Танк...

Ён добра, вельмі добра памятаў, хто стаяў за тымі людзьмі, якія кінулі яго на нары ды зьвялі надта рана на Той Завоблачны Сьвет ягоных бацькоў... Бы жывая, стаіць Маці перад ягоным тварам і цяпер. Вось яна падымае на яго бляклa-сінія вочы, поўныя бязьмежнай тугі, бы просіць, каб ён застаўся дома, каб ня лез, каб не хадзіў, каб не сьвяціўся сярод Тых... Што ж, каб сапраўды ня лез-не хадзіў, можа, былі б ягоныя бацькі яшчэ жывыя. Ды так было трэба! І аніхто ва ўсім белым сьвеце не пераканае яго, што ён памыляецца.

Але штосьці ён надта расчуліўся. Не да месца. Таму што нарэшце. Таму што Час адказваць па ўсіх рахунках таму, хто павінен быў па іх адказаць яшчэ ўчора.

Кожнае начы, засынаючы на мулкіх нарах, ён бачыў сёньняшні дзень. Таму што ўжо тады ведаў, як гэта ўсё будзе. Ён бачыў, як ягоныя Аднадумцы зь Легіёну Маладых Патрыётаў акружаюць змрочна-маўклівы дом, як высаджваюць нагамі дзьверы, як валакуць цераз парог зьбялелага гаспадара ды ашалелую ад жывёльнага страху жонку. Так, яна вінаватая таксама. Таму што маўчала, калі ён падпісваў свае нялюдзкія загады. Таму што згодна хістала галавою, калі ён прыходзіў, натомлены са свае людаедзкае працы ды, ахайна мыючы рукі, з усьмешкаю распавядаў пра гэтых звар'яцелых недаробкаў, што за сваё «незалежніцка-вольніцкае паветра» згодныя хоць засіліцца, апотым ставіла важнецкаму супругу-чыну на стол смачную дымляніну, у той момант, як ён на зоне крэмзаў на часткі, крышыў, душыўся скамянелаю, смуроднаю махрою, зь нязломным спадзевам, што калі-небдзь ён на поўныя грудзі ўсё ж удыхне гэтага самага незалежніцка-вольніцкага паветра...

Ён соладка зацягнуўся цыгарэтай «Ронхіл'а». Усё, усё адбываецца так, як ён тады бачыў. Хіба што сьледам за жонкаю маладыя легіянэры выцягнулі яшчэ нейкага старога (хутчэй за ўсё бацьку; калі так, то ў распыл і яго таксама, гэта ж трэба вырасьціць гэткага сыночкавылюдка), вось нечакана рэзка тузанулі яго назад ды гэтак жа рэзка штурзанулі наперад; стары бразнуўся проста ілбом аб вушак, адразу па шчацэ ад скроні пабегла гарачая юха, маладыя зарагаталі нармальным, здаровым сьмехам; вось сьледам за старым з пашчы дзьвярэй выпхнулася нейкая неабмежнае таўшчыні кабеціна, хто б гэта ні быў — і яе таксама да сьценкі, у гэтым доме нармальных людзй быць ня можа; вось... І тут ён, раптам папярхнуўшыся дымам, ледзь не закашляўся ўголас, аднак справіўся зь няёмкім цяглом да перханьня, стараючыся ані выдаць сябе, адкінуў цыгарэціну прэч.

Ён убачыў яе — маленькую, нязграбную і сьветлавалосую, як самое Жыцьцё. Яе асьцярожна вынес на руках самы высокі зь іхняе усяе каманды легіянэр, і па ўсім было відаць, што легіянэр яе таемна любіў. Сьцяты дрыжлівы камячык тузануўся ў яго на руках, быццам выдатна ведаў, што гэтыя грозныя дзядзі прыйшлі сюды не з цукеркамі...

— Опомнитесь, что мы вам сделали? — раптам змрочна загаварыў да іх Прыгавораны, увесь напяўшыся ды памкнуўшыся да дзяўчынёшкі. — Вы бы хотя бы... Хотя бы ради нее, Агафьюшки!..

Ён паправіў нарукаўніцу, скінуў нябачнае сьмецейка са складкі каўнеру ваеннага фрэнчу.

«Бач ты, сутнасьць акупанцкая! Нават аб літасьці палюдзку папрасіць ня можа! І дачушку — таксама «исконным» акупанцкім імем назваў?.. Але чаму яны нас ніколі не шкадавалі, а мы іх, гадаў, толькі за адныя да часу пушчаныя дзіцячыя сьлюнчыкі-сапельчыкі шкадаваць павінны?! Не, дзядзя, на гэты раз такі нумар ня пройдзе!..»

Ён ужо хацеў сваю думку выказаць услых і тым самым канчаткова закрыць узьнятую гадам тэму, як раптам чысты пагляд дзяўчынкі знайшоў (а хутчэй, проста сустрэў...) ягоныя суворыя вочы. Ён глядзеў неадрыўна ў гэтыя вочы, ён да немагчымага болю паногціў сабе далоні, ён раптам уявіў, як адзіны сухі пісталетны стрэл разьнясе на друз, на перасьпелы кавун, на сухі струк гароху, на пырскі сьвежа замешанае гарчыцы, на расчаўлены гнілы яблык, на расьціснутае макавіньне гэтую маленькую, зіркасьценькую галоўку, і ўрэшце ня вытрываў, адвярнуўся, і нястрымныя, гарачыя сьлёзы захінулі сабою ўсё Неба...

А ў небе плылі сабе аблокі, марудна, паволі, плылі туды, дзе ціха сабе павяваў лагодны, усьмешлівы ветрык. Плылі туды, дзе няма й ніколі ня будзе нас.

Янка Сякерыч

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО СТРЭЛУ

*НАШЧАДКАМ ГЕРОЯЎ*
*ЛЕПШАГА З БЭЛЕТРЫСТАЎ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА*

Алесь скочыў з ложка, зірнуў на гадзіньнік: 5:30. Маці яшчэ спала, яе твар, такі прыгожы, быў нечым спаганены, бачна, яна сьніла чарговы дурны сон. Бацькі дома не было, яго не было ўжо два гады. Ад яго засталася толькі картка, дзе ён стаіць побач зь нейкімі барадатымі ўзброенымі хлопцамі й усьміхаецца, а над імі ганарліва й неяк зухавата лунае зялёны сьцяг з роднай стужкай. Апошні раз Алесь бачыў бацьку, калі той прыязджаў дамоў на Вялікдзень. Адсьвяткаваўшы, ён камусьці пратэлефанаваў й да іх завітаў ужо чыста паголены хлопец, але з тым жа, праўда белага колеру, зьверам, што й на коляшнім штандары. Бацька ціха пагаманіў зь ім аб нечым, а потым яны зьнесьлі нейкі драўляны куфар у сутарэньні, а на другі дзень бацька зьехаў, ужо назаўсёды... Алесь шмат разоў лазіў у сутарэньні, шукаў яго, і ўрэшце выпадкова заўважыў патаемнае схованішча. У куфары Алесь знайшоў два АКМ'ы, вінтоўку з аптычным прыцэлам і некалькі каробак патронаў. Пра гэты «скарб» Алесь нікому не гаварыў, нават маці. Ён схаваў усё «да лепшага часу». І вось час надышоў... Алесь пагаліўся, патупаў на кухню, пагледзеў у пусты халадзільнік — па радыё Правадыр распавядаў пра рост дабрабыту насельніцтва — і вырашыў — ён павінен зрабіць гэта сёньня. Ён апрануўся, узяў свой плэер з касэтай Deviation і пабег уніз. Адшукаўшы куфар Алесь выцягнуў зь яго вінтоўку й пачаў яе змазваць. Халодны мэтал прыемна лашчыў Алесевы рукі, зброя надавала Алесю пачуцьце самаўпэўненасьці й здымала ўсялякія ваганьні. Алесь несьпяшаючыся ўставіў патроны ў магазін, памацаў затвор, схаваў вінтоўку ў доўгую спартовую сумку й выйшаў на двор. На вуліцы было трэцяга ліпеня — сьвята гораду. Не, «Дзень Независимасци» — з прыкрасьцю падумаў Алесь і сплюнуў. Ён запаліў цыгарэту — дрэнна паліць на пусты страўнік — і патупаў да свайго сябра Кастуся, які, Алесь ведаў, у гэты час толькі зьбіраўся класьціся спаць. Хакер-сакер — усьміхнуўся Алесь. Дзьверы ў Кастусёву кватэру былі адчыненыя, адтуль выходзіла даволі прывабная дзяўчына, а гаспадар зь нейкім плутаватым выглядам праваджаў яе. Кастусь паставіў «тымыл на пол» і паклікаў Алеся сьнедаць. За яешняй і дзьвюма бутэлькамі пыва (Кастусь ненатуральна злаваўся, калі гэты напой называлі «півам»), Алесь распавёў пра свае пляны, гаворачы, як бы пра пляны свайго знаёмага. Кастусь усьміхнуўся — Інсургент сьпіць, інсурэкцыя ідзе! — паставіў на касэтнік «Gods Tower» і пайшоў спаць. Алесь узяў Кастусёў ровар (транспарт не працаваў) і рушыў на плошчу да «маўзалею». Тут ужо сабраўся натоўп. Было сьпякотна, Алесь набыў бутэльку «Лідзкага» і пачаў сачыць за народам. Праз вясёлыя сонечныя праменьні жыцьцё здавалася не такім ужо чорным, і ягоны плян падаваўся яму нават сьмешным. Па праспэкту пайшлі працоўныя ў форме энкавэдэшнікаў, нейкі мардасты мент, заўважыўшы на байцы Алеся бел-чырвона-белы значок раззлавана зароў — Развелося, бл*, пид№%@#$, бл*! — але Алесь не заўважыў яго - на трыбуне ён разгледзеў ненавісную пысу з прылізанымі валасамі, якая пагардліва ўсьміхалася сабе ў вусы. Нянавісьць сутаргай прайшла праз Алесеў твар. Праз яго вочы прайшлі разам і звольненая з работы маці, і старэйшы брат, якога за ўдзел у «Чарнобыльскім шляху» спачатку два тыдні пратрымалі ў пастарунку, а потым выключылі з унівэсытэту, і які, як бы на злосьць, працягвае сваё навучаньне ў МДУ. Ён успомніў акрываўленыя твары сваіх сяброў, якіх зь нейкім сатанінскім захапленьнем зьбівалі цяжкімі ботамі азьвярэлыя мянты. Як потым пагардліва ўсьміхаўся тоўсты маёр, да кога яны пайшлі скардзіцца на катаў — К президенту идзице, иму жалуйцесь — усё гэта чырвона-чорнай жорсткай маланкай здрыганула яго.

Алесь пабег на дах цэнтральнага ўнівэрсаму й утульна прымасьціўся паміж дзьвюма будкамі. Адсюль было добра відаць увесь праспэкт і трыбуну, дзе сядзеў Правадыр. Алесь павольна дастаў з сумкі вінтоўку, уставіў магазін, паклаў рулю на трубу і прытуліўся шчакой да ложы. У навушніках панк шалёна роў — вайнавайнавайнавайнаграмадзянскаявайна. У прыцэл было добра відаць усіх, хто сядзеў на трыбуне, але навесьці крыжык прыцэлу на Правадыра было складана — увесь час замінаў тоўсты, маленькі, лысы дзядзька. Раптоўная сударга зьвяла Алесю руку й прыцэл зьбіўся — Алесь убачыў у перакрыжаваньні прыцэлу твар прыгожай дзяўчыны, якая вельмі цёпла ўсьміхалася, гледзячы на дзетак, якія шпацыравалі па праспэкце. Алесь у роспачы апусьціў рукі, потым схамянуўся, кінуў вінтоўку й зьбег уніз — шукаць Яе...

...Вяртаўся дамоў Алесь а трэцяй гадзіне ночы. Маці ўжо спала, Алесь паправіў коўдру й пайшоў класьціся спаць. Засынаючы, ён мроіў аб нечым васількова-блакітным, ружова-дзівочым...

...Але апошняя думка была пра вінтоўку - яе трэба забраць — «інсургент сьпіць — інсурэкцыя ідзе»...



## Славамір Адамовіч

*НЕАДОЛЬНАЕ ЖАДАНЬНЕ БЫЦЬ МУЖАМ*

*Здаецца, я гэта муж твой,*
*той самы ў тваіх абдымках,*
*іду з работы напружаны,*
*нібы зладзюжкі на рынках,*

*заходжу ў кватэру, дзе водар*
*кухні, дзяцей і спальні,*
*і ты пасьля пятых родаў*
*цалуеш так натуральна...*

***

*Іду на водар парфумы,*
*на формы юнай гетэры...*
*Жанчына — мае Фіумы,*
*законы і прынцыпы веры.*

*Брутальны кантэкст рэжыму*
*прасую эратафільна,*
*разбаўлены градусам джыну,*
*латэнтны і супэрмабільны,*

*гатовы да рэвалюцый,*
*нібы прапаганда кайзэра,*
*вільготны ад сьлёз і палюцый,*
*чытаю ў камэры Драйзэра...*

***

*Крочыць альбо нерухоміцца,*
*прыгожая шпілямі антыкаў,*
*на смак, як ажына, модніца*
*для сьмелай адкрытая практыкі,*

*плюральная, нібы камэра*
*на сто чалавек падсудных,*
*ідзе жанчына па Вавелі*
*пасьля эратычных студый.*

***

*Вясна. Жанчына ходзіць мною.*
*Кансультацыйнае бюро*
*дае парады тым, хто мроіць*
*пра Сан-Францыска і Нью-Ёрк.*

*Вясной сачу нетрывіяльна*
*за цыркуляцыяй вады,*
*за тым, як судзяць рытуальна*
*акупацыйныя суды.*

*Ну вось, жанчына ўжо зрабіла*
*аборт і лёгкая цяпер.*
*Жыву і думаю: як міла*
*знайсьці аднойчы свой памер.*

## Сяргей Абламейка

# КАРОТКАЕ

### КРЭСОВАЕ

Ведаю многіх беларускіх палякаў. Зь некаторымі шмат разоў і падоўгу размаўляў. Яны добра ведаюць, што іхнія продкі былі ўніятамі, і нават праваслаўнымі. І ўсё роўна яны — палякі.

І, здаецца, што я зразумеў тое, чаго яны самі не разумеюць. І ў XIX стагодзьдзі, і ў XX іхняя польскасьць — гэта ўнутраная эміграцыя, іхні пратэст, іхнія ўнутраныя ўцёкі ад расейскага хамства ў Беларусі.

Унутраная эміграцыя пры захаваньні месца жыхарства. Любяць Радзіму.

### БЕЗНАДЗЕЙНАЕ

Безнадзейна дамагацца справядлівасьці. Чалавек ня можа яе дамагчыся. Яна можа быць толькі вышэйшая, нябёсамі пасланая. А ад нябёсаў марна чаго-небудзь дамагацца. У іх можна толькі прасіць.

І сумна, што абсалютная большасьць людзей справядлівасьці менавіта дамагаецца, патрабуе, чакае, прагне... Замест таго, каб ухіленчыць і папрасіць.

І яшчэ кожны мусіць ведаць, што справядлівасьць — рэч адносная, суб'ектыўная. Той, хто яе дамогся ці не дачакаўся, павінен зразумець, што гэта, магчыма, і ёсьць Вышэйшая справядлівасьць.

Проста вырашаем ня мы, бо думаем толькі пра сябе.

### ХАЛУЙСКАЕ

Некаторыя назіраньні і жыцьцёвы вопыт дазваляюць заявіць, што халуйства — зьява прагрэсіўная.

Прынамсі, некаторыя дамагаюцца зь яго дапамогай неблагіх вынікаў. Яно можа быць непрымальным з пункту гледжаньня маралі, этыкі, але з гледзішча выніку — цалкам нармалёвая зьява.

Моцны — амаль заўсёды неразумны, і яму важна дагадзіць. Гэта амаль аксыёма: разумны, стаўшы моцным і адчуўшы, што ад яго нехта ці нешта залежыць, разумова дэградуе, папросту — дурнее.

Гэта нават краінаў стасуецца. Прыкладаў безьліч. А сярод людзей — пагатоў. Гэты, глядзіш, лісьлівіў, і добрую працу дастаў, гэны дагаджаў — і пасаду мае.

Зразумела, што для ганарлівых беларусаў гэта шлях непрымальны. Але ўвогуле-то, халуйства — амаль беспамылковы шлях да посьпеху. Трэба толькі ведаць, якому дурню і як дагадзіць.

### РЭФЛЕКСІЙНАЕ

Калі дапусьціць, што пісаньне — гэта своеасаблівае «выпусканьне пары», дык значыць, што паміж рэфлексіяй і ўласна творчасьцю павінна быць нейкая мяжа. І творцам можа лічыцца той, хто ўзьняўся панад гэтай мяжой, той, хто менавіта творыць, стварае.

З другога боку, той, хто рэфлексуе — таксама піша, стварае свой твор.

Дык дзе ж тая мяжа? Хто і як яе вызначыў? І ці існуе яна?

Выглядае што трэба прызнаць рэфлексію адной з падставаў творчасьці, і, бадай што, — галоўнай.

Іншая справа, што ў ныздары і генія — розны ўзровень рэфлексіі, розныя прычыны рэфлексіі і розны ўзровень асэнсаваньня гэтай рэфлексіі.

### ГІСТАРЫЯСОФСКАЕ

Кажуць, беларусам пашкодзілі жыды. Маўляў, калі ў нашых гарадох фармавалася буржуазія, якая звычайна ёсьць носьбітам нацыянальнае ідэі і лідэрам нацыянальнага руху, якраз нарадылася сумнавядомая «рыса аселасьці», а хутка — і забарона Кацярыны ІІ жыдам жыць у сельскай мясцовасьці. Пішуць, што вось панаехалі яны ў гарады і выцеснілі беларускіх гандляроў і цэхавых майстроў.

Можа і так. Хоць, дарэчы, чаму ўсё ж выцеснілі? А чаму сёньня ці ня кожны другі менскі бізнэсмэн — расеец?

Маем і мы нейкую праблему. Нешта з намі ня тое.

### ШЛЯХЕЦКАЕ

У нас адраджэньнем займалася і займаецца пераважна шляхта. Нельга не прызнаць ейных заслугаў. Блізка ўсё, што маем, — дзякуючы шляхце.

Але нельга не прызнаць, што мела і мае шляхта нейкую санлівасьць, сацыяльную лянoту і інфантылізм. Не глядзіць яна цьвяроза на рэчы.

Можа і бяда беларусаў ад таго, што гэтак шмат было ў нас шляхты. Голая бо прэтэнзія: не пераймаюцца, што басанож — затое шаблю маюць права насіць... Гэтак і зараз, сярод лямanту пра вялікую беларускую мінуласьць у ВКЛ ніхто і не ўспамінае, што яно, нават каралеўствам не патрапіла стаць, як усе нармальныя (не вялікія!) тагачасныя эўрапейскія дзяржавы, альбо хаця б сатрапіяй, як Расея. Шляхецкая анархія і хаос сталіся заканамерным вынікам шляхецкіх жа (а не дэмакратычных) вольнасьцяў і падставаю для анэксіі. Разумных галоваў і палітычнай волі не знайшлося...

Я таксама маю ад маці шляхецкую кроў.

### ЭПІСТАЛЯРНАЕ

У час тэлефонаў, факсаў і Інтэрнэту мы недаацэньваем звычайныя лісты. А тым часам некаторыя з дапамогай асадкі, паперы ды капэрты робяць сабе ў беларушчыне імя і кар'еру.

У нас традыцыйна высокі статус мае беларуская эміграцыя, і таму людзі часта спаборнічаюць за ўплыў на яе. І вось каго ведае беларуская эміграцыя? Таго, хто нешта робіць? Не, яна і радыё ня слухае, і газэтаў нашых не чытае. Яна чытае лісты і ведае імёны іх аўтараў.

### САМАКРЫТЫЧНАЕ

Я спрычыніў Беларусі вялікую шкоду. Я згубіў рэцэпт нашага піва і сыру. З падмірскіх вёсак Кожава і Жухавічы.

Нескалі бабця казала, што сястра ейнае мамы, прабабці Лізы, была замужам за сыраварам з суседніх з Кожавам Вялікіх Жухавічаў, і што вось яна мае запісаны рэцэпт таго сыру. Я, натуральна, перапісаў ды захоўваў. І вось згубіў. А бабці ўжо



таксама няма. Памятаю толькі, што асноўным кампанэнтам закваскі і асноўным сакрэтам быў, як казала бабця, «кіндзючок» — сушаны і здрабнёны мачавы пухір маладога цяляці. І больш нічога. Больш за 10 таму было. Бабця каштавала прывезены зь Менску «Российский» і казала: «Што гэта за сыр... У нас даўней рабілі...»

Побач з сыраварам півавар меў невялікі бровар. Мела чамусьці бабця і рэцэпт таго піва. Я згубіў яго разам з рэцэптам сыру.

Я — шкоднік.

### ПАСЬПЯХОВАЕ

Калі побач з вамі мярзотнік дамогся посьпеху, не перамайцеся. Па-першае, невядома, ці ён — сапраўды мярзотнік. Па-другое, невядома, ці гэта сапраўды — посьпех.

Але калі нават і першае, і другое — праўда, не перамайцеся. Невядома, што будзе заўтра, куды паверне хада падзеяў. Проста рабіце добра сваю справу.

Гэта і ёсьць шлях да посьпеху.

### НЯЗРОБЛЕНАЕ

Чаму мы заўсёды ня зробім, а пасьля шкадуем? Чаму гэтак шкада менавіта нязробленага?

Як пагляджу, дык людзі часьцей шкадуюць пасьля таго, як нешта не зрабілі, чым па ўласна зробленым.

Што замінае зрабіць?

Што замінае прыехаць да бліжняга, паклапаціцца аб ім, пакуль ён жывы? Што замінае абняць яго, прытуліць да сябе і сказаць, як ты яго любіш? Што замінае рабіць для яго гэтую драбязу часьцей?

Нічога.

І ня зроблена.

### СУПЯРЭЧНАЕ

Ведаеш, што ты не адзін.

Ведаеш, што і так ужо табе шмат дадзена.

Ведаеш, што трэба ўсім.

Ня ведаеш, ці той, што побач — сапраўды менш варты, чым ты.

Ня ведаеш, ці варты таго, што хочаш.

Ня ведаеш, урэшце, дакладна, ці сапраўды тое табе трэба.

Не вядома, ці здолееш.

Не вядома, ці яно — будзе.

І не вядома, ці сам — будзеш.

Ведаеш, што можа — так, а можа і — не.

І ўсё роўна — так баліць у грудзёх...

І нейкі стыліст піша, што сказ ня можа пачынацца з «І».

І ўсё ж, так хочацца.

### БАЦЬКОЎСКАЕ

Мне 14-15 год. Я іду некуды з бацькам. Размова выйшла на вельмі асабістыя і шчырыя тэмы. Нейкі час я вагаюся і, урэшце, насьмельваюся спытаць у бацькі пра сваю праблему.

Я кажу яму, што пакутую ад сьціпласьці і нерашучасьці ў адносінах зь дзяўчатамі. У падмацаваньне расказваю некалькі выпадкаў, калі, падчас школьнай дыскатэкі ці недзе яшчэ, я ад сьціпласьці гэтак і не наважыўся падысьці да дзяўчыны, якая спадабалася.

Бацька здумліва маўчыць, а пасьля кажа:

— Ты ня сьціплы і не нерашучы. Ты проста баісься, што яна з табой ня пойдзе. Баісься прайграць...

### ШУФЛЯДА

Польска-беларуска-расейская моўная калізія.

Мой сябар-паляк Рычард прымае ў сябе ў Любліне двух хлопцаў —Валодзю з Томску і Андруся зь Беларусі. Усе трое гавораць па-польску. Рычард просіць Валодзю, каб падаў яму нейкую кнігу з шуфляды пісьмовага стала. Валодзя стаіць і разгублена азіраецца навокал. Рычард паўтарае просьбу.

— Не разумею, дзе узяць? — ніякавата перапытвае Валодзя.

Рычард крычыць з суседняга пакою, каб Андрусь пераказаў Валодзю па-расейску.

— Володя, возьми её в шуфляде стола, — кажа Андрусь.

— Але што такое шуфляда? — кажа зусім зьбянтэжаны хлопец зь Сібіры.

— Ўвай! — Андрусь б'е сабе па ілбе. — У вас няма слова «шуфляда»! А як у вас гэта называецца?

Ён высоўвае адну з шуфлядаў пісьмовага стала.

— В столе, под столом, в ящике...

### ЧЭСКАЕ

Я зразумеў, чаму чэхі ня любяць людзей з былога СССР. Усіх нас, і украінцаў, і беларусаў, і іншых, яны называюць «русамі» і ня вельмі прыхільна сустракаюць у крамах, рэстаранах і музэях. Кажуць, што гэта наступства 1968 году.

Але я зразумеў іншае. І зразумеў пасьля 1,5 год жыцьця ў Празе, толькі трапіўшы чарговы раз у Нямеччыну. Паміж немцамі і чэхамі існуе праблема Судэтаў, але аўтарытэт нямецкае цывілізацыі для чэхаў непахісны. У іх больш людзей гавораць па-нямецку, чым у нас па-польску.

Некалькі разоў я і мае калегі са «Свабоды» траплялі на мяжы, пры выездзе з краіны ці пры ўездзе ў яе, у непрыемныя сытуацыі. Нам у досыць непрыхаванай форме давалі зразумець, хто мы і адкуль. Нам амаль уваадкрытую казалі: вы, барбары, едзеце ў цывілізаваную эўрапейскую краіну, да вялікага 10-мільённага эўрапейскага народу... Было вельмі крыўдна. Асабліва трымаючы ў памяці беларуска-чэскія стасункі з 14-га стагодзьдзя і ведаючы, што мы — гэткая ж ахвяра Масквы, як і яны, толькі больш гаротная, бо раней пад Маскву трапілі.

І вось еду я з жонкай на аўто ў Мюнхен. Перасекшы чэска-нямецкую мяжу, кілямэтрах у 60-80-ці ад яе спыняемся на прыдарожнай пляцоўцы, каб перадыхнуць ды выпіць кавы. Сядаем за адзіны на пляцоўцы столік і, раптам, я заўважаю непадалёк досыць вялікую, прымацаваную на дыхтоўным мэталёвым слупе шыльду. На ёй намаляваная наша пляцоўка, спрэс закіданая пустымі бутэлькамі, пакетамі і косткамі. Намаляваны таксама чалавек, які зьбірае ўсё гэтае сьмецьце ў адчынены багажнік свайго аўто. І, самае галоўнае, уверсе шыльды надпіс па-чэску (!!), дакладна: «Вы, калі ласка, сваё сьмецьце забірайце з сабой». Я не ўтрымаўся і нават зафатаграфаваў.

Цяпер я чэхаў зразумеў.

А ўвогуле, Чэхі — вельмі цывілізаваная і прыгожая краіна. І нацыянальна здаровая. І людзі прыгожыя. Літаральна. Я іх вельмі люблю, хоць яны мяне — не.

Я іх разумею.

*1996-98, Прага*

